# ЗЬМЕСТ

ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ
КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БЕЛАРУСЬ КАЛГАСНАЯ

XVIII

10450

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЛІТАРАТУРНА-
МАСТАЦКАЯ ЧАСОПІСЬ
АБ'ЯДНАНЬНЯ ПРАЛЕТАРСКА-
КАЛГАСНЫХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ



ГОД ВЫДАНЬНЯ
ПЕРШЫ

8 ЖНІВЕНЬ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК 1932

Міхась Лынькоў.

# „Салавей разбойнік“

(*Апавяданьне*)

„Ды як сеў жа той Салавей—разбойнік на сямі дубох, на сямі сукох.. Ды засьвішча ён, салавей, па салаўінаму, засіпіць, зладзюга, па зьмяінаму, зарычыць, басурман, па зьвярынаму...“

І далей пра „травушкі, усе муравушкі ды зялёныя дубравы цёмныя“, якія

„аж да долу таго прыгіналіся, сваё лісьцейка ад страху атрасаючы, маць сыру-зямлю гэтым лісьцейкам пасьцілаючы...“

А рака Вобр шла сабе пaціху, лянавата гойдаўся човен па мірных хвалях, хвалі беглі на бераг, зьлізвалі прыбярэжную пену, шумавіньне, ўсплескамі кідаліся на жоўты пясок і, пасклізнуўшыся на ім, стомлена скатваліся назад ды вялі свае шэпты—перашэпты з асакой, з разручкай, з пухоўкамі вадзянымі. Над асокамі плавалі стрэлкі: сінія, блакітныя, шкляна-празрыстыя. Нібы ўзяў хто ў жменю шкельцаў ці вясёлкавых тых ашкалёпкаў, размахнуўся ды кінуў іх над люстранаю безданьню—да таго ж глыбокай здаецца рака, калі вецер сьціх, калі ў небе ні воблачка, ні хмурынкі. І лятуць шкельцы, лятуць ашкалёнкі вясёлкавыя, на асоках гайдаюцца, на жбаночкі жоўтыя садзяцца, зыбаюцца. Ды вокунь хітры вокам міргне, бурштынавым бокам да сонца горнецца, паціраe мазалі свае вадзяныя аб сьцяблы асаковыя ды ўсё прыглядаецца ці ня выйдзе часам небарака—пячкур на пяшчаныя перакаты. От бы хвастом тады—боўць—не пазнаў бы сьвету пячкур ды пашлі-б пухіры па вадзе, пырскі тыя ды бурбалкі.

Скажуць у чоўне тады ды ўжо і кажуць:

— Ну і ну... От жа рыба жіруе, акуні усхадзіліся, каб то вудачку тую...

— Ого, брат, надумаўся... Сорак процантаў бульбы, трыццаць ільну... Ку-у-ды далёка да пляну... А яму вудзілны сьняцца... Націскаць яшчэ трэба, ды шчэ як націскаць. І ўдзень і ўночы... Спазьніліся з севам, задужа спазьніліся...

І ў чоўне толькі чутна пра каноплі, пра лён, пра авёс гатунковы, ці можна залаты вус сеяць пасьля першага чэрвеня, ці ня можна. Аказваецца, з выбрыкамі залаты вус, з капрысамі; пасей яго пасьля першага—не пабачыш ні саломы ні зерня. Раньнюю пару любіць, калі неба сьлязіцца, ды не абшэрхла зямля ад вод веснавых, павадкавых.

— Хіба шчэ звычайным можна й дасеяць... Гэты вырасьце, не натурлівы... І то каб не пазьней якога шостага—сёмага...



Ужо зьмяркалася, люстраная бездань стала чарней, пацяплела і па ёй завіліся валакністыя кудзеркі, зьвіваліся ў клубкі і густым трапяткім малачаем ахінулі берагі, прыбярэжныя парасьнікі, хісткі човен. І калі праплывалі пад якой разгалістай вярбой, усе ўцінялі галовы ў плечы: от—от трапіць капля тая з галінкі, з вільготнага лісту ды за каўнер, на шыю, за пазуху. А гаворка ўсё не канчалася, аб канаплі, раньняй бульбе, аб ільняных хваробах... Малады аграном—толькі—толькі мягкім пухам пакрыліся губы—захапляўся Мічурыным, быў вялікім прыхільнікам Вэрбанка і хутка з аўса, з канаплі перашлі на вялікія досьледы над расьлінным царствам, на цікавыя і дзікавінныя штукі, якія адбываюцца ў прыродзе пад умелымі і здольнымі рукамі чалавека—аматара, чалавека энтузыяста. Слова сэлекцыя не сходзіла з вуснаў, слова сэлекцыя лунала над чоўнам, сэлекцыя панавала над вечарам, над ракой, над плыўкімі берагамі, што плылі, міналі чорнымі зданямі кустоў, чорнымі асілкамі хвой і дубоў прыбярэжных. І кожны ў чоўне ўспрыймаў сэлекцыю па свойму. Работнік з культпропу райкому ўздыхнуў, закурыў і, салодка зацягнуўшыся дымам, падзяліўся сваёй думкай:

— Ведаеце, от, добрая гэта справа сэлекцыя і там іншыя ўсякія штукі, якія агранаміі вашай падначалены. Вось каб сэлекцыю такую ды сярод людзей, от бы справа пашла, адным словам, што ні плян, то сто працантаў з гакам...

— А ты, культпроп, не жартуй... Хоць ад думкі твае і манілаўшчынай патыхае, але-ж свайго роду сэлекцыю маральную, духоўную сэлекцыю праводзіць можна і трэба праводзіць. І тут ужо мы, аграномы, пасуем. Гэта ўжо справа ваша... Патрэбна толькі ўпартая ды настойлівая праца... Ды што казаць, хіба глыбокая масавая работа ня можа быць той самай сэлекцыяй, аб якой мы кажам. Я ўжо ня буду гаварыць аб той сэлекцыі, аб якой, скажам, еўгенікі марацъ...

Мы слухалі з судзьдзёй пра сэлекцыю і кожны з нас думаў сваё. Але думкі, відаць, сыходзіліся ў некаторых пунктах, бо так жа ўжо разумеючы мы пазіралі адзін на другога, ды словы, што выраваліся зрэдку, былі блізкі, былі непарыўны.

— От і зразумей ты тут,—скажа судзьдзя.

— Як падыйсьці тут ды вырашыць...—дадаваў я.

Абодвы мы думалі аб Салаўі—разбойніку. Не аб тым, што жыў калісьці над Дзясной—ракой, у лясох тых мурамскіх, карачаеўскіх, лясох казачных з казкі старае, байкі мінулае. Не аб тым салаўі, што „па зьмяінаму ды па зьвярынаму...“ Жартачкі: з берагоў Вабра патыхае чарэмхаю ды калінаю—у самым цьвяту. А з чарэмхаю казытаюць носа пахі новыя. Ня зусім каб гэтыя пахі былі носу прыемныя. А для пляну, для працантаў веснавых—разьлюбезны пах.

— Адзін інтэр ды пуцілаўцы два ў начной зьмене працуюць,—падказвае аграном,—усё пад лён пад саўгаскі.

Разьлюбезны той пах чуе нос, вуха чуе пуцілаўцаў подыхі. Хіба-ж тут пра таго будзеш думаць, што з Дзясны, з лясоў карачаеўскіх. Не аб ім былі думкі, не аб ім былі ўрыўкі нашых слоў. Думалі мы пра другога, пра жывога, пра ўсамдзелішняга Салаўя—разбойніка.

---

Пачалося ўсё з рыштанта.

Слова само—рыштант—старое, шурпатае, скабістае. Мела ўжытак шырокі і карэньні глыбокія ў старэчай вёсцы, пад замшэлымі страхамі: па дварох тых, што пазарасьлі крапівою—жыгучкай, на дзедаўскіх прызбах старых, на якія цярушыцца пыл сточаных шашалем і гадамі халупін. Ня дужа ты ў маленстве паслухмяны—рыштант. Перад вотчымам, перад мачыхай—ты і так рыштант. Шапкі перад старастам ня скінуў—рыштант, перад ураднікам—рыштанцюга. Ня схіліў чалавек галавы перад вобчаствам, перад кірам, пашоў супроць непарушнага закону аб „ласкавым цяляці, што двух матак сьсе“, зрабіў што-небудзь ня так, як „усе людзі“, як дзяды рабілі, непакорлівая ў цябе натура,—і хадзіць табе ў рыштантах ад пялёнак да самае тае сівізны, калі ня выскубуць яе загадзя добрыя людзі. І будзеш хадзіць і будзеш адчуваць сябе скабкаю на жывым целе, скабкаю, якую кожнаму хочацца выдзерці, хто мае моцныя зубы і тоўстыя кіпці.

Слова рыштант ідзе на спад, у нябыт. Як ідзе ў нябыт жабрацкая вёска ды межы тыя прадзедаўскія, на якіх быльнёг сьцяной ды пад той сьцяной палыновая горкая доля.

Быў Амелька Лапуцька самасейкавы. Ці як вотчым казаў ды й людзі за ім—байструк. Калі байструк, калі крапіўнік.

Гэта справы аднак не зьмяняла і нікольні не замінала Амельку пасьвіць сьвіньні, каровы, даглядаць абчэсьвеннае дабро. Праўда, той гарца не дадасьць, той два не дасыпе—дзе ён спагоніць з цябе, самасейкавы, ды й што яму—хлеб у роце, бульбіна ў руцэ—чаго яму болей трэба. Некаторыя-ж жалкавалі, па слабасьці сваёй па жаночай.

— Бач ты яго, ідзе, пад пугаю гнецца, бязбацькавіч. Хадзі ўжо, крапіўнічак, саракквашы хоць зьясі... Доля-ж твая ды нялюдзкая...

А самасейка ляпне ў адказ:

— Няхай бы цябе раздула ад саракквашы тваёй... сала от шкадуеш, пехцярам толькі сваім дык неўжадобку...

— Ах жа ты рыштант... Бач ты яго... Да яго з хлебам—сольлю, а ён жа цябе аблае. Што ні кажы, а ад іх, ад байструкоў дабра не прычакаеш... Сала захацеў... Каб табе ўжо вочы ім высмаліла.

Але вочы засталіся цэлымі, вырастваў пад пугай Амелька, выцягваўся, знаходзіў на крыўдзіцеляў сваю ўправу. Гарца не дасыпіш—будзе сьвіньня кульгаць з нагой перабітай, два не дадасі—адрэжа хвост у каровы. Лаяліся людзі, ды што ты з ім зробіш. Лаяліся

і пабойваліся, уляшчалі сяк так: работнік хвацкі. Асабліва-ж дзеўкі пабойваліся—скажы яму што—нос на сьлівіну, за рыштанта ці за крапіўніка—спадніцы на мэтлахі, самапрадку ў калодзеж. І хадзіў Амелька, сярод людзей цёрся ды ўсё азіраўся: ці няма якіх хітрыкаў з боку, ці ня зьбіраецца падкалупіць цябе хто. Ды сам падкалупваў.

Так і ў людзі выбіўся. Восемнаццаць год хлопцу стукнула і ў калгас падаўся.

— Годзе—сказаў,—каб на другіх мазалі націрць, чужыя засекі насыпаць хлебам. Цяпер наш час, і аб сабе падумаем.

Вясна была дружная, цёплая. Схапіла яна аберуч сонца і рассыпала яго шчодрай рукой па дарогах, па шырокіх палёх і лясох, па завілістых рэчках і рэках. Адшумелі павадкай воды, зямлю абмылі. Набрыняла яна сокамі пахучымі, захмяліла дрэвы кляновікам ды бярозавікам, упрыгожылася краскамі веснавымі, нясьмелымі, сарамлівымі, як вочы дзяўчыніны, як вясновыя думкі дзявочыя. І здаецца—бялей сталі гнуткія бярозы і яшчэ вышэй падаліся стромкія хвойкі і елкі. Ды пад елкамі шарэлі штодня і ніклі апошнія лапікі сьнега, і на мейсцы іх праз леташняе абшэрхлае лісьце выціналіся першыя парасткі, прабівалася па пухнатай ножцы краска—сон, ды белыя пралескі на прагалінах сонечных убіралі зямлю красой вясновай, хрусткай, як ільдзінка, як вясна—багатай і цёплай, як поўнакроўнае сэрца чалавечае—зыркай і абнадзейваючай. І як песьня жураўліная—заклікаючай ды прывабнаю.

А ля балот радасьць кароўя—таўкачыкі—хапіць тое каліва ў зуб пасьля трушанкі зімняе ды аціры. Сакавітыя яны—таўкачыкі—і ласыя да іх шурпатыя языкі кароўі. І таму, што таўкачыкі і таму, што сонца—бяз памяці цяляты: хвасты ўгору і пашлі ў пабрыкі па пожнях леташніх, па старому іржэўніку. Уставіць цялё вока сваё сьлівянае, сінявэтае, прыглядзіцца да сонца, бок падагрэе і пашло скакаць ды падскакваць. А за ім навыперадкі ўсе. Бяз гізу гіз. На тое-ж яно й вясна.

На стромкім беразе ракі—дзе гліна і пяскі—капалі ямкі пад сад калгасны. Вялікі сад—захапілі гэктараў некалькі. Шумела рака над кручай, а ля ямак завіхалася моладзь, віхорыла. Яе-ж то справа—сад зялёны, калгасны. І работа спорылася. Жоўтыя кучы пяску выстрайваліся ў доўгія шэрагі, дзявочыя падалы мільгацелі, мітусіліся ў вачох хлапечых. Мо таму і злосна хадзілі хлапечыя рыдлёўкі, узахапкі ўразаючыся ў пясок, у глейкую гліну, калі кпілі дзяўчаты, пасьмейваліся.

— Работнічкі з вас, смаркуны няшчасныя, ямку рые каторы, як курыца грабе.

Нацiскалі хлопцы, агрызаліся.

— А вы падалы свае паабразалі, бач—спадніцы луб—лубам, ‘шчэ цыпкі наб‘еце...

— Ня ваш бо то клопат... Не глядзі, куды ня трэба, вочы высмаліш...

Сапраўды, падалы луб-лубам. Ад глею, ад гліны. І самі дзеўкі лубяныя, крамяныя ды, як яблыка тое, наліваныя. А галасы-ж, галасы— сакавітыя, звонкія. Як зойдуцца гуртам яны—нібы рака тады рушыць— шырокая, неасяжная. Аж сэрца зойдзецца ды замрэ—от жа песьня гэтая ды цябе захлыне, зачаруе, захмеліць.

Асабліва ж Агата—Васіля брыгадзіра дачка. Ідзе—трава пасьцілаецца пад нагамі. А стан—трапяткая бярозка, бялюткая. Ды такія-ж бялюткія валасы, як кужаль. А вочы—валошкі ў жыце, бездань сіняя. Запяе—заслухаешся, пра рыдлёўку забудзеш.

— Эх, Амелька, відаць, чыя песьня табе ў сэрца запала, глядзі ямку скрывіў...

І калі палуднавалі і сьпявалі на стромкім беразе пра Сьценьку Разіна ды „сама садзік я садзіла“, не сьцярпеў Амельлян ды, падкраўшыся, ушчыкнуў Агату, ушчыкнуў шчыра, з прыязьню. Аж падскочыла дзеўчына, павяла гэтак вокам скоса ды кінула:

— Ты чаго гэта... Глядзі ты яго, надумаў...

А ў самой вочы суровыя гэтакія, і разам агеньчыкі ў іх, як бліскаўкі тыя сонечныя на агрэсьце наліваным, не сарваным, на зялёным кусьціку росным.

І глядзеў Амельлян.

Хадзілі вечарамі ціхімі. Сустракалі разам зару і ў кароткіх снох перад днём бачыў Амелька ўсё-ж тыя вочы, уздыхаў па мягкаму кужалю валос ды па мягкай і такой цёплай руцэ. А днём думаў, бо запалі думкі, пачалі бярэдзіць усякія. Як жа:

— Ці можна ж, дурань, ды ня быць камсамольцам? Да табе? Ды ў калгасе ў нас?

Казала так часам, бо яна-ж камсамолка. І хлопец нават у ячэйку заглянуў, пасядзеў спакойна. Ня лаяўся, ня грызься з дзеўкамі, не бузуваў. І на табе—папсаваліся крыху пляны. Ды праз самы звычайны вілашнік цёткі Васіліхі—Агатчынай маткі. Нейк падпільнавала яна, накінулася:

— Ці-ж табе з гіцалем гэтым знацца ды можа шчэ, крый божа, у зяці мне меціш. А ты, рыштант, каб ня бачыла я цябе больш ды духу твайго ня чула ля маей хаты...

Памкнуўся ў спрэчкі Амелька ды дзе там. Слова тое не пасьпеў сказаць, як агрэла вілашнікам па сьпіне ды яшчэ замахнулася. Самым звычайным вілашнікам ды пры гэткай дзяўчыне. Хіба ж сьцярпець тут. Схапіў Амелька камень ды каб сэрцу астыгці, у самую шыбку ўпэліў—дзынкнула толькі, пасыпалася. Тут ужо і сам Васіль брыгадзір умяшаўся. Пашоў Амелька, нос павесіўшы, каб лішняе зьвягі тае ня чуць. Але не астыгла сэрца, была вялікая злосьць, якую ня выкінеш камянем. І ўсю ноч стараўся Амелька, Васілёў паркан расьцягваючы—усю вуліцу загарадзіў.

— Будзеш ужо памятаць як мяне чапаць.

І крыўдна было. І сорамна: перад ёй, перад вачмі тымі, перад голасам звонкім, пявучым. Але нішто, хіба ж яна не зразумее.

А днём, як верабей змоклы стаяў Амелька перад дзядзькам Панасам—старшынёй праўленьня. Дзядзька Панас чалавек хмуры, ня зусім каб гаманлівы. Слова на вецер ня кідае. Выцісьне слова, другое.

— І як табе, Амельлян, ня сорам? Ты ж падумай, от я, рабочы. Мяне паслалі сюды, каб вам дапамагчы парадак навесьці... Калгас жа, сам ведаеш, малады яшчэ... Непарадкаў ды непаладкаў тых не абярэшся ў ім. І от табе на: у нас сяўба, кожны час дораг, а я па тваёй міласьці павінен твае глупства разьбіраць... Дзе твой розум, калі ты такое глупства зрабіў і чым табе паркан пашкодзіў?

— Я шчэ яму ня толькі паркан, увесь кумпал памацаю...

— Дурны ты, дурныя ў цябе і словы...

— А пашлі вы, дзядзька Панас, да ліхай матары...

Калі Амелька пасылае да матары, гэта добрая адзнака. Дзядзька Панас кідае Амельку, ідзе да сваіх спраў. А спраў тых—не абяжыш за дзень.

І ходзіць Амелька, як атручаны—ні сьмеху, ні злосьці. Ат, жыцейка. Шыбку разьбіць—добра, паркан расьцягнуць—яшчэ лепей. Але ні смаку ў той шыбцы ні радасьці, калі вока дзяўчыніна нібы цябе і не заўважыць—от пашла, што пава тая пісаная. Яно, канешне можна паву за шыю, можна паву агрэць, носа таго на месца паставіць, каб ня быў ужо задужа... Ды дзе-ж, ты, калі віснуць рукі, не бярэ іх сіла... Бо сустракалі разам зоры, ды на беразе стромкі сад зялёны калгасны... Сад ня сад—будзе садам калісьці. І песьні там, і бліскаўкі воч там, ды словы такія, ціхія. Не для ўсіх, для Амелькі.

— Які жа ты... сьмешны...

І сустрэўшыся дзе, хочацца слова кінуць ды жорсткае, ды калючае. Шурпаты язык у Амелькі ды словы на ім, што ваўчкі пры дарозе—зачэпяцца, ня скінеш. От бы словам гэтым як крапівой жыгучкай ды па вачох, ды па твары балюткім. А язык вяне, як цялё тое нявёрткае, не паварушыцца. Ды ціха так, з пращаптам:

— Агатка, ну чаму-ж ты.

— Бязульнік, блазан ты. Дзе вочы твае? Што, цябе муха ўкусіла шалёная? Шыбкі біць! От жа герой знайшоўся...

— Ладна...

— Што ладна?

— Ладна ўжо... Няхай...

І шоў у стайню гной накапваць. Дужа коняй любіў. Пачысьціць, агледзіць, пагаварыць з імі мовай сваёй асаблівай, незразумелай для іншых. Таго пагладзіць, таму скарынку дасьць, а трэцяму проста:

— Бязуляеш, ірад, от ты ў мяне прычакаеш... бізуна пачастуеш.

Любіў коняй. Конюхам думаў стаць. Шчэ з маленства, з самага раньняга парабчанства любіў даглядаць коняй. І калі ня было работы ля іх—прыбіраў стайні; выкідаў гной, на вазы накапваў. Ды як пры-

мецца—толькі пот цурком. Тады Піліп, конюх калгасны—быў некалі за кучара ў пана—паглядзіць скоса, буркне часам:

— Нешта ты, малец, завіхаешся задужа. Усяе работы не пераробіш. Мы ж не прыганятыя.

Накапвае Амелька, слухае.

— А што?

— Ды тое кажу, што ня прыгон цяпер, і ня мае ніхто ніякае правы на працы цябе зьнясільваць, цягнуць жывасілам...

Ды вочкі ў Піліпа—лып, лып... Вузенькія, шэрыя. Скарасьпелкай-бульбінкай нос, шызы з чырваньню. Скажа слова Піліп ды нібы да сябе прыслухаецца.

— От жа і кажу: ня прыгон цяпер... А ў нас прыгон, рабі, душа з цябе вон... І ў будзень і ў сьвята, хоць выцягвайся...

— Нешта ты сьляпых за нос водзіш, дзядзька Піліп... Словы ў цябе і туды і сюды... Не разьбярэш.

— А тут і разьбіраць няма чаго... Ясныя словы. Розум маеш калі, зразумееш.

А тут Васіль—брыгадзір паляводны.

— Амелька, кінь ты жарты свае вытвараць. Казаў жа, каб на расьцяробу ты сёньня пашоў.

— Казаў...

— Раз казаў, трэба было пайсьці. Тут і Піліп управіцца.

— А можа я ня хочу пайсьці... А можа й Піліп ня ўправіцца.

— Не тваёй галавы гэта дзела: управіцца ці ня ўправіцца. Сказана—павінен спаўняць.

— А можа я ня хочу спаўняць...

— Зараза ты, можна сказаць, сусьветная... Тож на маю шыю гіцаль... Вось выкінем з калгасу, як падлу, тады пагаворыш.

— Паспрабуй...

Махне брыгадзір рукой—эт, падалей ад ліха. Працуе хоць, і то добра. Ды і ня кепска працуе. Ды сам старшыня колькі раз казаў: „Не ганяй ты яго задужа, покуль абамнецца хлопец пасьля харчоў хазяйскіх. Прывыкне“. Чорт да яго няхай прывыкае, такі жа ня людзкі хлопец.

А вочы Піліпавы: лып да лып... Пашкрабе паясьніцу, пакрэкча, ды словы тыя, як карэньні балацяныя, адно за другое ніжуцца, каравыя, нязграбныя.

— От табе, Амелька, і прыгон. Ня хочаш ты працаваць, а цябе за каўнер... Загадана... Дужа гэта шмат загадацеляў расплодзілася... Ты б можа і сам панам хочаш стаць, дык морда ж у цябе драпаная. І без цябе на тваю шыю паноў... Не абярэшся...

Слухае Амелька, слухае, нясьцерп бярэ. Рэзане, як поўху:

— Табе-б то чаго сіпець, выжла ты панскае, сіпатае... Чаўпе, чаўпе, вугніць сіпаткай, а да чаго—не дабярэш... Каб хто, а то п'яніца горкая. От скажу дзядзьку Панасу, чаму гнядая скінула, ён табе дасьць пытлю з прыгонам...

— Ці ня ў начальнікі падацца думаеш? Дык жа ростам ня ўзяў...
— З мяне хопіць...
— Старайся, старайся, усёроўна ня выслужышся...
— А гэта ўжо маё дзела.
— Як насіў карэўкі, так і насіць будзеш...
— Буду... свае, ня панскія...
— Падэшвы ты панскае ня варты...
— Добра, што ты яе варты.
— Байструк жа ты, твая ж матка...
— Кінь, кінь кажу, шолудзь...—і так зірнуў Амелька, што шэрыя вочы Піліпавы пакінулі лыпаць ды сам задам-задам падаўся на двор, лузнуўшыся бокам аб жалезную засаўку.
— Каб то цябе нарад... дагаворышся з ім... з разбойнікам.
Амелька завіхаўся з віламі. Нагінаўся, напружваўся. Надуваліся жылы на лбу, як цягаў на двор пласты гною, жыўцом выдзіраючы цэлыя скібы. Бліскацелі вілы на сонцы, і такія-ж бліскаўкі, толькі гарачэй і вастрэй хадзілі па сэрцы. Ды зубы сьцяў—толькі ўсхадзіліся шэрыя жаўлакі, ды зрэнкі воч былі чорныя і шырокія. І ў думках: от бы ў горла каму, у тую дыхавіцу... Зубамі, каб хруст, каб крык той пад самыя воблакі. Каб за ўсё...
— За што?
— Каму?

---

— Скажы хіба Амяльляну, няхай запражэ парку коняй ды едзе па насеньне. Усе ж у полі...
І дзядзька Панас рушыў да кузьні, дзе ладзілі плугі і бароны. Быў ён хмуры, як заўсёды і як тут ня быць: то паломіцца што, то бабы ў кудлы сашчэпяцца, а тут, як на тое ліха, насеньня няхватка, усю раніцу прабегаў, пакуль не дагаварыўся з суседнім калгасам пазычыць на які дзень, покуль са станцыі не прывязуць.
Не дашоў да кузьні яшчэ, як Васіль дагнаў, брыгадзір.
— Дык жа ён ня йдзе. Ня слухае, хоць ты кол на галаве цяшы.
— Як гэта ня йдзе?
— Ня йдзе ды і ўсё тут. Ня слухаецца ж ён мяне...
— Пастой ка-ж... Дакуль гэта будзе? Мала хто што хоча рабіць... Гэтак і калгас разваліць ня доўга, калі ў кожнага ды свая фантазія. Эге-э... Хадзем-жа.
І з мейсца ў кар‘ер, да Амяльляна.
— Айда...
— Куды?
— Айда, запрагай!
— Ня буду...
— Табе гавораць, каб зараз-жа бяз ніякіх... Нечага мне тут камэдыі гуляць: хочу, ня хочу...

— Адчапецеся, дзядзька Панас, вам я кажу...—і цішэй:—не чапецеся цяпер.

— Годзе дурыкаў... Давай вілы... Вілы кажу аддай.

— Да што вы з ім, з арыштантам, будзеце пэцкацца. Чорт і з ім...

— Аддай, кажу... Ах жа...—не сьцярпеў тут Панас, за руку схапіў,—сволач жа ты вялікая, распусная...

Падаўся на крок назад Амелька, выпруціўся, трымцяць вілы ў руках, ходарам ходзяць. Ды па іх бліскаўкі тыя, сонечныя, вострыя. І не заўважыў нават сам Амелька, як гэта ўсё ды так разам... І крык той не такі, не пад воблакі... Енкнуў чалавек, зьбялеў. І толькі.. А вілы самі выпалі з рук і, прытуліўшыся да сьцяны, думаў Амелька, чаму ж гэта бярвеньні ды такія халодныя. А па двару бег Васіль-брыгадзір. І далёка было чутна, крычаў:

— Ратуйце, чалавека забілі...

Зьбягаліся людзі, зьвязалі. Сядзеў як верабей нахохлены з крылом перабітым. Глядзеў і нічога ня бачыў. Пралятала дзесьці ля вушэй:

— Ага, даскакаўся гад!

І ня чуў, а бачыў бульбіну—нос, шызую з чырваньню. Порхаўку тую вугнявую.

Ды на хвіліну якую спалоханая сіняя бездань. Нібы з жалем, нібы з дакорам. Ат. Няхай. Мо' так яно і лепей.

---

Народу было не прабіцца. Сядзелі на скамейках, на падвоканьні. Тыя, што не пасьпелі ў школу прабрацца, тоўпіліся на ганках, ля кучы бярвеньня. Кожнаму хацелася паслухаць, сваім вокам пабачыць: як яно там, як разьбяруць ды вырашаць. Вельмі ж справа цікавая, свая, свае людзі. На першай скамейцы, перад самым сталом, Амелька сядзеў. Вераб'ём тым нахохленым з крылом перабітым. Сядзеў ды пазіраў зрэдку на паперы, што судзьдзя перагортваў. І не пазнаць было, аб чым думае судзьдзя—да таго ж твар нявыразны ды яшчэ пад загарай, пад пылам. Пачалі Амельку пытаць: як гэта ўсё, калі. Расказаў.

— А чаму гэта?

— Ня ведаю...

І аб чым ня пыталі больш, на ўсё адказ: ня ведаю.

Тут жа і дзядзька Панас сядзеў з рукой забінтаванай, хмуры сядзеў, нібы не здаволены чым. Думкі мільгалі:

— А мо' яно і ня трэба было... паказальны гэта... Мо' і мая тут віна... Але ўсё-ж, мо й людзі чаму навучацца.

Распытвалі сьведак. Бадай усе ў адзін голас: хлапец так сабе, працавіты, але-ж дужа ўжо не паслухмяны, задзірлівы, чуць што—за гарлянку.

— Што там непаслухмяны... рыштант—рыштантам...—дадаў сьведка Піліп,—так і завём мы яго разбойнікам, салаўём-разбойнікам—

колькі ад яго паплакалі, можна сказаць. А паклялі колькі... Гэта-ж жартачкі: ні павагі нікому, ні праходу. Бандыта...

Сядзеў Амелька, галаву падняў. Аж затросься ўвесь.

— Ах жа ты, выжла панскае... Я арыштант, бандыта... Гэта табе коняй калгасных зьбіваць, думаеш і ня ведаю... Дык мяне ў разбойнікі.., дык мяне ў рыштанты... я... я—я—а...

Прыціхлі людзі, сьцішыліся. Ці чута яно, ці бачана: салавей-разбойнік плакаў. Самымі ўсамдзелішнімі сьлязьмі. Пахіліў галаву на грудзі, рукавамі сьвіткі твар уціраў. Ды плечы ўздрыгвалі. Перашэптваліся судзьдзі аб нечым. Сьведка Піліп за сьпіны схаваўся, падалей ад людзкога вока. Выступалі яшчэ сьведкі, гаварылі горача. Абвінавайца Хведзька—сакратар камсамольскай ячэйкі выступаў. Гаварыў усё аб слабай масавай рабоце і зьбіваўся ды хлопцы падказвалі:

— Ты ж абвінавайца.

— Ціха вы...

Агата выступіла, усё памыкалася аб нечым сказаць дый так і ня выказала. Гыркнуў нехта ў кутку:

— Ты-ж з ім хвост круціла, абаронца гэткая.

— А табе што!

Доўга яшчэ гаварылі. Нават дзядзьку Панасу слова далі. І той усё аб працы, аб вялікіх клопатах, за якімі і ня ўгледзіш што-небудзь.

А што яно там ня ўгледзіш?

---

Ноч была сьветлая, ясная, калі ішлі з суда ў калгас. Шоў Амелька з прыскокам. Дзеўкі жартавалі, сьмяяліся, і звонкія галасы рэхам аддаваліся ў кустох, пераліваліся, шлі па шырокаму полю. Ды дзядзька Панас налягаў на кіёк—зьбіў пальца аб корч, кульгавіў. З Амелькам перагаварваўся:

— Ты, брат Амяльлян, гэта... да... Добра яно, што цябе апраўдалі... Але ж як жа гэта ты мяне тады... Шчэ добра, што ў руку собіла...

— Ат, дзядзька Панас, кіньма... прыпякло яно тады задужа: рыштант ды рыштант...

— А ўсё ж браце, работу трэба выконваць, што ты ні гавары.

— А хіба я ад работы... Ад яе ніколі ня бегаў я... Дык-жа каб як да людзей... А то ўсё гыр ды гыр... І буду ўжо я вас прасіць: пакіньце мяне ля коняй, от жа як буду старацца, бо лодыр ён, Піліп, дальбог жа лодыр... І зноў-жа, дужа мяне да коняй цягне.

— Ну што-ж зробім як небудзь... Толькі-ж, брат, глядзі...

— Хіба-ж мяне ня ведаеце?

— Уга, хто цябе ня ведае...

---

Ціха гойдаўся човен—назад ехалі. Судзьдзя з агранома кпіў назаляў яму нявыспанаму.

— Ну, як сэлекцыя твая, залаты авёс як?

— Сэлекцыя, брат, мая, заўсёды сілу мае... Яна не падвядзе. А вось, як у цябе з салаўём-разбойнікам, колькі год даў?

Маўчаў судзьдзя, думаў аб нечым. Нявыспаны аграном, узьбіўшыся на сэлекцыю, прадраў ужо вочы і як раскрыў рот, так і пашоў і пашоў...

— Вы от гіранізуеце, ладна... А я вам скажу, што любая расьліна можа так расьці як чалавек захоча. І да кожнай расьліны падыход трэба розны. От вазьмеце хаця звычайную ігрушку-дзічку. Калючая яна, нягеглая. А вазьмі яе ды прыгледзь, ды абкапай, ды прышчэпку зрабі, глядзі выйдзе такая бэра слуцкая, што толькі людзям наўзьдзіў. А з чалавекам? Ты от судзьдзя—знаўца прыроды чалавечай... Хіба ён, чалавек, не патрабуе падыходу да сябе...

— Эх, разышоўся... Біалёгія, брат, у цябе, голая біалёгія...

— Біалёгіі ў нас голай няма. Ты от глядзі. Па ўсім раёне калісьці жыта сеялі ды бульбу. Ну, ды грэчкі там, ячменю колькі. А цяпер, як калгасы сталі—шэсьцьдзесят процантаў ільну аднаго... Ільняныя заводы... Вось табе і голая біалёгія... Гэта пра поле, пра межы... А людзі што па гэтых межах хадзілі? Тут можа, скажаш, голая біалёгія?

Замаўчалі.

Кожны думаў аб гэтай „біалёгіі“ і па рознаму пагаджаўся з аграномам. Быў ён правым у некаторых сваіх думках.

А ў якіх?

Мо‘ аб чалавеку, аб нашым? Аб розным да яго падыходзе?

А зьверху сьвіціла сонца: зыркае, цёплае, чэрвеньскае. Прыжмурыўшы вочы, углядаўся ў яго аграном. І яму здавалася: не праменьні то сонечныя, а сыплюцца з вышыні залатыя проценты веснавой—бо жыў імі аграном, сьніў гэтымі процантамі.

Толькі ў часе каб усё: і людзі, і сонца, і поле. І першыя людзі. Ад іх усё. І ім ураджай падначалены.

---

М. Каверын-Дзюбянкоў

# „Залаты зуб“

(*апавяданьне*)

— Іван Антонавіч, адпачынем, можа. Усёроўна больш як працадзень не запішуць.

— І то праўда,— адгукнуўся Іван Антонавіч Брагін.—Чаму не адпачыць... чалавек адпачынак любіць,—і грузна выпусьціў з рук на зямлю зьвязаны сноп.

— Хадзем пад мэндлік, там у мяне і ежа ёсьць.

Бралкоў, жмурачыся, ідзе па сжатай паласе да мэндлікаў, пераваьваецца з нагі на нагу, стрыжэ вачыма па іржэўніку, падлічвае з большага чысты абмалот. Шуршыць у руцэ вялікі колас, буйныя тугія зерняты казычуць далонь.

Шумна ўздыхнуў. Яму ўспомніліся дні, калі ён быў не таварыш Бралкоў, а ўсімі павялічаны і паважаны Трыфон Мікалаевіч. А ён, Трыфон Мікалаевіч, уладар значнае дзялянкі зямлі і пышнага саду. А той, каго ён цяпер павялічаў Іван Антонавічам... у яго батраком быў. Залаты работнік: скоры на руку і акуратны.

За год з лішкаю забыўся на гэта Трыфон Мікалаевіч і цяпер клічуць яго: бацьку дабрадзея, царкоўнага старасту, таварыш Бралкоў. Бясколернае, нічога не азначаючае слова. Ні яго ўжо цяпер такая вялікая дзялянка зямлі, з пахам вішнёвага і яблычнага саду. Арудуюць яго дабром учарашнія галадранцы, ды яшчэ як арудуюць: стрыкочуць у полі вясёлыя жняяркі, увесну і ўвосень тарахцяць трактары, узрываюць зямлю і сэрца Трыфона Мікалаевіча.

Сьціснулася і гулка ўздрыганулася сэрца. Несьцярпіма захацелася задушыць гэта новае, расьціснуць пад нагою як вось той камяк пульхнае зямлі пад яго ботам.

І седзячы пад мэндлікам толькі што зьвязаных снапоў, сказаў, крывячы рот:

— Урадзілася збожжа на славу. Толькі і палюбуешся, калі ўбіраеш ды малоціш.—Бралкоў раптам злосна глянуў на Брагіна:— Слухай, гаротнік, ды разумей. Усёроўна сплыве збожжа няма ведама куды.—І другім спачувальным тонам:—Бач, як цябе падцягнула, нібы конь у дрэннага гаспадара, і ўсё праз тое, што ня ўмееш ты жыць. Так, ня ўмееш.

Брагін сядзеў пень-пнём; ён ніяк ня мог зразумець адкуль гэта ўзялася да яго ў Трыфона Мікалаевіча літасьць. Ён ікнуў ад нечаканасьці і здолеў толькі сказаць:

— Так, так... яно, канешна, ня ўмею я жыць, таму і худы.

Бралкоў страсянуў галавою, крэкнуў і, нібы адганяючы ад сябе непатрэбную думку, сказаў:

— Вось што, Іван, пагаманіць мне з табою трэба. Чуў я адзін розум добра, а два яшчэ лепей.

Аднекуль зьявілася ежа і бутэлька гарэлкі.

— Добрая гарэлачка,—сказаў Бралкоў і патрос бутэлькаю. Заіскрыліся іголачныя пырскі і так яскрава, што Брагін нават зажмурыўся.

— Пасьцеражыся, душа, а то абальлю.—Бралкоў перахрысьціўся і кульнуў пад вусы кубачак.

Ён наліў зноў і падаў Івану Антонавічу.

— Трымай. Надта-ж добрая.

Брагін зрабіў нешта накшталт крыжа, выпіў і крэкнуў:

— О, каб яе. Нібы ката ў горла пасадзіў—замахаў галавою Брагін.

— Нічога, браце, твая душа ня мыш—кот не задушыць, і Бралкоў моцна расьсьмяяўся.

Асалавела глядзеў Брагін на неба, на сжатае жыта пустымі туманнымі вачыма. Што яму гаварыў яго ўчарашні гаспадар—не памятаў. Чаго яму не ставала, ён ня мог зразумець: ні то гаспадаркі, якой ён да калгасу ня меў, ні то хлеба, ні то грошай на гарэлку.

Але чагосьці не ставала.

— Эх і натрэскаўся-ж,—злосна гаварыў Бралкоў, штурхаючы пад бок п'янага. Ды ці зразумеў ты, дубіна, што я табе гаварыў? Ну, адказвай-жа, зразумеў?

— М-мы... І-і-к... Гаспадары. Маю права... як мы гаспадары... мы гаспадары... І-і-к...

Бралкоў расьсьмяяўся.

— Эх вы! Сапраўды... гаспадары. Чэрці галадраныя, разбурылі маё гняздо. Ну ўставай, балван.

Яны ледзь усталі і хістаючыся, як маятнікі, пашлі па полю.

Назаўтра пад вечар Брагін пашоў да Бралкова. У галаве пустата, смагнуў пахмяліцца.

Гаспадар сустрэў яго на вуліцы і павёў у пярэдні пакой, дзе шумеў самавар.

— Садзіся, Іван. Нябось, хочаш пахмяліцца?

— За гэтым і прышоў. Усё нутро як у агні.

— Садзіся. Садзіся. Не адмоўлю. Гаспадар я шчодры. Пасьля чаркі гарэлкі капуста была асабліва смачная і прыемная. Брагін еў прагна, апаражніў дзьве міскі і ніштаваты кавалак мяса.

І калі ахмялеў Брагін, павёў Бралкоў сваю ўчарашнюю атаку.

— Іван! Іван, чуеш!

— Што?

— Гляджу я на цябе і думаю: ня ўмее чалавек жыць. Вось, напрыклад, жыў—ты ў мяне—ні клапот у цябе, ні бяды аніякае. Думаў за цябе гаспадар, круціў мазгамі. Што мо' няпраўду кажу?

Брагін, працягваючы есьці, ахвотна паддакнуў:

— А як-жа Трыфон Мікалаевіч, на тое ён і гаспадар.

Бралкоў засьмяяўся здаволеным сьмехам і пагладзіў сваю шырокую бараду.

— Ты гэта, праўду сказаў: „ты гаспадар, твае і клопаты“ А хочаш сам ўдастатку пажыць—навучу.

Замоўклі. У вакно веяў лёгкі ветрык. Уздоўж вуліцы грукацелі калгасныя вазы з палявою паклажаю.

Дзяўчына сьпявала.

Стары парадак мы зруйнуем
Да аснаваньня, а затым...—падтрымаў мужчынскі бас.

— Палопайце чэрці крываротыя, каты вы мае,—зашаптаў разьюшаны Бралкоў і пагразіў кулаком у вакно. Быў ён у гэты момант жаласны да сьмеху ў сваім бясьсільлі і ў той-жа час грозны: шмат чорных дум перадумана—адна больш ліхая за другую. Перагнуўшыся праз стол, зашаптаў:

— Не забыўся, пра што ўчора гаманілі? То-то. Па снапку, па два цягні ў свой сьвіронак. Цяпер цэны на хлеб во як падняліся.

— Небясьпечна, Трыфон Мікалаевіч,—таксама паціху зашаптаў Брагін.—Праўленцы нашы пракляты народ, ледзь што—з калгаса—вышвыргнуць.

— Ня бойся, дурань. Ня чужое будзеш браць—агульнае. А схадзіць—ты схадзі. Не прыкладзеш рук—не разжывешся.

Вяртаючыся да хаты, паглядзеў Брагін на пацямнеўшае неба, паківаў галавою і сказаў:

— Цёмная ночка будзе.

* * *

Не шчарбатая вышла капейка ў Трыфона Бралкова. Чацьверты дзень працуе ён у калгасе кладаўшчыком, запраўляе калектыўнаю гаспадаркаю. Засекі сьвірноў былі падрамантаваны, абабіты новымі дошкамі. І чыстата ідэальная: выскрабена і падмецена.

Кончыўшы работу, Трыфон Бралкоў не сьпяшаўся да хаты. Больш цёрся ў праўленьні, разважаў, пытаў, па начальніцку даваў парады радавым калгасьнікам, праяўляў нязвычайную ўвагу да старшыні праўленьня Ванькова і да Карагіна, намесьніка сакратара партыйнай ячэйкі.

І дзе толькі магчыма было рабіў ім рад дробных паслуг. Наогул з таго часу як стаў кладаўшчыком Брагін значна зьмяніўся.

Узышоў на ганаровую пасаду Бралкоў не выпадкова. У гэтай справе шмат дапамог яму былы яго батрак. Брагін дзе толькі мог хваліў гаспадарчую дзейнасьць Бралкова і шчыра рэкамэндаваў яго на гаспадарчую пасаду.

Была гарачая пара. Убіралі азімы хлеб, а там пасьпела пшаніца, ячмень... Ды ці мала палявых работ. Знай толькі разварочвайся!

Калі чалавека ахінае змора—тады ўжо не да сходу. І абіралі Бралкова ў кладаўшчыкі вельмі нямногія.

Сям'я Бралковых вячэраць зьбіралася, а ў дом к ім нечаканыя госьці—Карагін і Ванькоў зайшлі.

— За сьпіскамі зайшлі. Учора ўзяць забыліся.

Бачыць Бралкоў: сароміцца Карагін, нязручна сябе адчувае.

— Адну хвіліначку, дарагія госьці. Ведаеце, я ўчора ўсю ноч за падлікам прасядзеў. Думаў спатрэбяцца зьвесткі, вось таму і прыводзіў у парадак.

Забегаў Бралкоў:

— Ды што вы стаіцё, Міхал Сьцяпанавіч, вось крэсла. Таварыш Ванькоў—сюды, калі ласка,—і многазначна паглядзеў на жонку і дачку:—Маці, Наташа! запрашайце дарагіх гасьцей за стол.

Карагін нешта памкнуўся сказаць. Не даючы яму адкрыць рот, пачаў упрошваць:

— Не адмаўляйцеся, Міхал Сьцяпанавіч. Мяне не паважаеце, уважце хлеб-соль. І ня думайце, пакрыўджуся!

Пакуль ішло запрашэньне, ды ўсаджваньне, Наташа за дзьвярмі зьнікла. Вярнулася з бутэлькаю гарэлкі.

— Гэта што?—і Карагін густа пачырванеў.

— Як што?—прытварыўся неразумеючым пытаньня Бралкоў.— Гарэлачка. Яшчэ дзяды нашы казалі „сухая ложка горла дзярэ".

Першую чарку Ванькову прапанаваў:

— Трымайце! І ні-ні. Ня прыму... Пеце!..

Пасьля Ванькова Карагіну нязручна было адмаўляцца.

— Яшчэ па аднэй, Міхал Сьцяпанавіч, шкадаваць ня будзеце. Вось так! закусвайце.

Па трэцяй налівала Наташа.

— Ад мяне, Міхал Сьцяпанавіч!—І глядзіць Карагіну ў вочы гарэзьліва ўсьміхаецца яму.

Праз стол угодліва гудзеў сам Бралкоў.

— Малайчына, таварыш Карагін, хоць ты камуніст і сакратар ячэйкі, а нашым братам ня грэбуеш. Я гэта во як разумею, паважаю.—І сябе ў грудзі кулаком б'е.

Зашумела ў галаве Карагіна, заскакалі думкі, нібы хвалі ў непагоду на рэчцы.

— О-а... я чалавекам ня грэбую... хоць ты, скажам, і заможны, а я вось заўважыў... працавіты калгасьнік будзе... Добры гаспадарнік... Чаму чалавек у дастатку жыў? Бо да работы быў люты... Падавай мне больш такіх, як Трыфон Мікалаевіч... усіх вазьму! Горы варочаць буду!

Бралкоў узваліўся на стол, разамлела цела, пасьпешна наліў поўную шклянку гарэлкі і падаў Карагіну.

— Пі, Міхал Сьцяпанавіч! ніколі не забудуся...—і раптам:—Ой, ды ў вас пярэдняга зуба няма! тырчыць адзін корань. Уставіць трэба... і абавязкова залаты. Таварыш Ванькоў, паглядзеце, праўда, няпрыгожа. Зуб? Што зуб? Ах, так... абявязкова залаты.

— Золата?.. Ды гэта дрэнь!—голасна закрычаў Бралкоў:—Маші, ідзі сюды! У цябе ад куфра ключ?

...У пакоі завешаны вокна. Цьмяна гарыць лямпа. Стол. На стале скураны мяшочак. У мяшочку жоўтыя бліскунчыкі, бліскунчыкі цяжкія. Ці гэта мо' так здаецца?

Спалохана заёрзаў на крэсьле Карагін.

— Дурань я, пад суд захацеў... І нашто я ўзяў?

Думае Карагін што рабіць:

— Відаць, Бралкоў мае золата, ня ўсё-ж яму аддаў—стукнуў крэслам.—А калі да агалоскі дойдзе... Што падумаюць ячэйка, райком? Расказаць трэба. Расказаць усё бяз ўтайкі.

На сьцяне люстра. У люстра глядзіць распаленымі вачыма Карагін—бачыць там сябе. Ашчэрыўся. У роце няма пярэдняга зуба!

— Ах, чорт!

Шэсьць крокаў наперад—шэсьць назад.

— Ха-ха-ха! І хітры бэстыя гэты Бралкоў! Спрытна ён мяне зубам узяў! Спрытна!

...Бралкоў саўсім другім стаў. Памажнеў целам і памаладзеў з твару. Цяпер ён бяз страху і сумненьня гнуў сваю лінію. У бытнасьць нажывы і ўлады ён вывучыў сваіх вясковых людзей з вонкавага і нутранага боку. Яго набітае вока ўмела знаходзіць у чалавеку патрэбную для яго жылку. Прымаючы збожжа, гародніну, ласкава гаварыў калгасьніку:

— Дачакаліся такі дзянькоў, дзякаваць табе божачка. Ёсьць што і самому зьесьці і сям'і. І тут-жа хітра падміргіваў:—нябось, нацярусіў у кішэні збожжа. Ня чырваней, мілы чалавек, жывот есьці хоча. Толкам кажу. Толькі і мяне ня сьлед падводзіць.

І заўсёды пасьля такіх размоваў збожжа і прадукты, што паступалі ў сьвіран, трацілі сваю вагу.

Скора здарылася тое, аб чым шапталіся па-за вугольлю калгасьнікі. Старшыня праўленьня Ванькоў панурым голасам паведаміў Карагіну:

— Мы ня выканаем пляну хлебазагатовак, а мы апрача дадзенага заданьня высунулі свой сустрэчны... Калгасьнікі разьбягаюцца. Чатыры сям'і падалі заявы аб выхадзе з калгасу.

Карагін утаропіўся ў дзьверы, пацёр калені і хрыпла прабурчэў:

— Трэба праверыць наяўнасьць збожжа і ўсё такое. Прыходзілі ў сьвірны члены праўленьня, прыходзіў Карагін, мацалі, правяралі, узважвалі і ішлі, ківаючы галовамі.

* * *

Кантора праўленьня ахутана шызаю імглою прадымленага паветра. Дзесяткаў два актывістаў і калгасьнікаў шчыра дымілі самакруткам і смачна, сакавіта сплёўвалі на падлогу. Чакаючы адчыненьня сходу вялі размову на розныя тэмы: хто пра разьмеркаваньне ўраджаю, хто пра пастанову ўраду аб ахове грамадзкай маёмасьці, а некаторыя проста пераходзілі ад аднае групы да другое, лавілі слова, устаўлялі свае заўвагі.

У Івана Брагіна свой клопат, свая мэта. Мэў ён даручэньне ад Трыфана Бралкова і Карагіна: „па разумнаму з сім-тым пагаманіць". І таму аддаліў у кут Хведара Мураша, падазронага і хітрага мужыка.

— А ты ведаеш, Мураш, справа то дрэнь выходзіць. Прыдзеце нам падцягнуць жываты. Накшталт паста савецкага паспрабаваць.

На твары Мураша зьявілася дзіцячае зьдзіўленьне. Гарачы канец „казінай ножкі" апёк губы.

— Што ты там яшчэ гародзіш? Які гэта савецкі пост? Мо, якая новая пастанова ёсьць?

Брагін смачна сплюнуў на бот суседа і хітра адказаў:

— Накшталт гэтага. Ты ведаеш плян хлебаздачы дзяржаве?

— Не,—сьцішаным голасам адказаў Мураш і тут-жа схамянуўся.—А як-жа. Сам Карагін казаў, што хлеба хопіць і нам і дзяржаве прадаць.

— А сустрэчны плян, галава садовая. Уцяміў цяпер? Вось ты і пакумекай, пакруці мазгамі.—І зусім ціха:—Ведаеш, ты сяму-таму шапні. Бо сустрэчны для нас—пагібель. Бяз хлеба застанёмся. Трэба толькі ўсім гэта сказаць. „Обчае" слова закон.

Нядоўга шаптаў Брагін, але дабіўся шмат чаго. Мураш пераходзіў ад аднае групы да другое і перадаваў навіну.

Калгасьнікі захваляваліся. Акружылі галоўку, загаманілі. Лаялі Ванькова, праўленьне за выскокваньне перад райкалгассаюзам і раённымі арганізацыямі.

— Дзе ў нас лішкі?—кіпяціўся Мураш.—Хто іх бачыў?

— Дзяржаўны плян і той вялікі, а тут яшчэ сустрэчны. Ня будзе на гэта нашай згоды і баста.

— Правільна,—стараўся Брагін,—няма нашае згоды і баста. „Обчае" слова—закон.

Загадчык хаты-чытальні Круглікаў Сяргей і выхавальніца Каця пачалі былі гаварыць, што лішкі былі-б, калі-б праўленьне раней здолела наладзіць ахову ўраджаю.

На іх зацыкалі, пачалі дакараць.

— Ня правільна гаворыце. Нашто паклёп на людзей наводзіць.

З-за стала ўстаў Карагін і папрасіў сьціхнуць, адчыніў сход. Паволі з запінкамі расказваў аб бурнай калектывізацыі. Прыводзіў лічбы. Параўноўваў „у іх і ў нас".

— У Эўропе ўпадак, шырыцца хваля беспрацоўных. У нас... Карагін запнуўся. Слова „у нас" успрымалася ім двояка. У нас гэты тэрмін, што абазначаў фразу—ў нас у Саюзе, і ў нас—гэта—тое, што ёсьць сапраўднага ў іх у калгасе. У іх праспалі ахову ўраджаю. Сёй-той надзяліў сябе незаконнымі прыбыткамі. Гэта ў нас адбіла ахвоту рабіць далейшае параўнаньне. Скамкаўшы і насьпех паспадаўшы пра міжнароднае становішча, перайшоў да асноўнага.

...Мы таксама ўзялі на сябе абавязацельства датэрмінова прадаць дзяржаве лішкі. Заміж—„ураджай не апраўдаў нашых надзей", ледзь не сказаў:—расьцягнулі. Але ўбачыўшы Наташу Бралкову, хутка загаварыў:

Мы правяралі сьвірны, гумны на полі і... не знайшлі асаблівых лішкаў.

Потым быў шум. Тыя, хто прысутнічаў на сходзе, аднагалосна залемантавалі:

— Няма ў нашым калгасе лішкаў.

— Памыліліся, мераючы на вока.

— Куранят увосень лічаць.

І нарэшце кароткая рэзалюцыя.

„...Зямля была няўгноеная, а таму ўсходы і ўраджаі вышлі нізкімі. Агульны сход калгасьнікаў калгасу „Зара" просіць райкалгассаюз і раённыя партарганізацыі зьнізіць калгасу дзяржаўны плян хлебаздачы да...

Старшыня—Бралкоў
Сакратар—Ванькоў
Сакратар парт. ячэйкі—Карагін.

Калі расходзіліся, адзін з двух, што ішлі апошнімі, сказаў:

— Любата, як ціха абышлося і скора. А галоўнае і рэзалюцыя была гатовая. Ведай толькі—прымай. Пацеха!

— Адкуль-жа актыў і іншыя калгасьнікі хлеб возьмуць? З сваіх сьвірноў ці што?—адказаў, закурваючы папяросу Трыфон Бралкоў.

* * *

Худы, хворага выгляду, мужчына злосна тузануў рукою. Кінуліся цяжкія, бухгальтэрскія кнігі, куча папер, чарадою ўзагнаных птушак, услала бельлю падлогу.

— Хаос! У дакумантах нічога не разьбярэшся. Крадзі і не пападзешся.—Памутнелымі вачыма паглядзеў на рэвізыйную камісію, пачаў

дакараць:—а вы, олухі цара нябеснага, чаго глядзелі?!. Дзе вашы зрэнкі былі? На вачох ва ўсіх калгас разваліліі хоць бы што. Едучы лячыцца—па-чалавечаму прасіў, ледзь што чыркануць мне. Чырканулі.

Нявідовіч устаў з-за стала і адышоў да вакна. Ад хваляваньня мацней звычайнага білася сэрца і дрыжэлі ногі. Ён адчыніў вакно і паглядзеў на двор. Каля кладовай стаяла куча баб з малочнымі бітонамі і за нешта горача спрачаліся з старшынёю Ваньковым. Чуліся паасобныя галасы:

— Ня скуголь, доўгі чорт, вашага хлеба і да новага году ня хопіць. Напляваць мне на вашу работу.

— Я аб сабе клапачуся,—крычала другая.—Абнасіліся мы ці не? Толькі каровы і падтрымліваюць.

Нявідовіч адчуў, як нешта зашчымела, заныла пад ложачкаю. Ні тое, ні гэтак было пры ім. Расхістаўся калектыў, як стары плот. Ён, чырвоны партызан, сакратар ячэйкі—аснова. На ім трымаўся плот. Не, ён яшчэ не развалены! Гніеньне не кранула яго. І адчуў на шчоках жар. Загрымеў па падлозе ботамі.

— Куды сабраліся?—спытаў Нявідовіч у жанчын, што стаўпіліся каля выхаду.

— На кірмаш. Малако прадаваць.

— Разбагацець хочам,—перабіла другая хітра і крыкнула:— хадзем, жаначкі, малако пракісьне.

— Я забараняю,—закрычаў натужана Ванькоў, бачачы, што бабы пашлі да выхаду.—Працаваць трэба. Хлеб у полі прарастаць пачаў,—і ня скончыў.

Аднекуль раптам зьявіўся Бралкоў.

— Не да рэчы гаворыш, старшыня. Тут тваё поўнае супраціўленьне партыі і ўраду. Забараняеш савецкі гандаль.

Словы кладаўшчыка сустрэлі сярод баб спачуваньне і надалі ім больш сьмеласьці. Падняўся страшэнны шум. Загрымелі пагражальна бітоны. А бойкая Матрона Падзерачова зрабіла Ванькову камбінацыю з трох пальцаў.

— Паслухайце мяне, маладзіцы,—закрычаў Нявідовіч і падняў руку. Ён быў спакойны, адна толькі глыбокая складка легла на яго ілбе.

— Нявідовіч гаворыць. Паслухаем, жаначкі.

— Пётру слухайце.

— Няхай Нявідовіч нам скажа што і як.

Шум галасоў разам змоўк. Усе чакалі што скажа Нявідовіч, якога вельмі паважалі калгасьнікі.

— Маладзіцы,—ціха пачаў Нявідовіч.—Чуў я, і сам бачу—непаладкі ў нашым калгасе. І сапраўды, добрага мала. Быў хлеб і няма яго. Мышы, ці што яго зьелі? Але аб гэтым пасьля. Вось вы малако нясіцё на кірмаш прадаваць. Добрая справа. Сваё працоўнае ня сорамна і не ганьба прадаваць. Але адно ня добра ў нас выходзіць.

Носіце і прадаецё малако па-сабе. І самім клопат і калектыву нашаму дрэнна. Цяпер самы разгар уборкі, а рабочай сілы няма. Хіба я ня праўду кажу?

— Чаму-ж не, праўда,—закрычаў натоўп.—Праўду гаворыце, Пятро.

— Правільна кажа. Да гораду, як не кажэце, чатыры вярсты, ды назад столькі-ж.

Нявідовіч трохі пасьмялеў, ён знакам папрасіў калгасьніц сьціхнуць і, калі ўсё супакоілася, зьвярнуўся да Ванькова.

— З сёньняшняга дня калгасьнікі на кірмаш будуць езьдзіць, а не хадзіць пехатою. Ты гэта цьвёрда запомні.

— Езьдзіць? — зьдзівіўся Ванькоў і недаверліва паглядзеў на Нявідовіча.—Калі так, дык у нас і коняй ня хопіць.

— Так, езьдзіць,—паважна сказаў Нявідовіч.—Але ня так як ты думаеш. Прадаваць будуць 2—3, а выручка павінна разьмяркоўвацца кожнаму за яго прадукты паасобку. Гэта і называецца арганізаваным гандлем.

Калгасьніцы з глыбокаю ўвагаю слухалі простую, навучальную прамову свайго „мудрага Пётры“, як іншы раз называлі Нявідовіча. І калі ўсё змоўкла і, пастукваючы бітонамі, воз на кірмаш вёз усяго дзьвёх калгасьніц, а астатнія пашлі на поле, Нявідовіч даў знак рукою Ванькову, ісьці ўсьлед за ім і сам першы накіраваўся ў праўленьне.

— Будзе навальніца,—прамармытаў Ванькоў. Ад яго не схавалася зьдзіўленьне і гнеў на твары Нявідовіча, калі ён убачыў Трыфона Бралкова.—Чуе сухотны чорт. Прымчаўся не далячыўшыся. Эх, не пасьпеў зьнікнуць. Ну, але яшчэ пабарукаемся, супакойваў сябе Ванькоў, усё-ж ад гэтага не зрабілася лягчэй. Сумяціца і страх аўладалі старшынёю. У праўленьні тыя-ж калгасьнікі—рэвізыйная камісія, гнеўны Нявідовіч і Ванькоў.

— Адчытвайся, гаспадар,—гаворыць упэўнены голас.

— Так, брат, адчытвайся,—уторыць камісія.

Патрэбная рэч справаздача і рэвізія. Маса пытаньняў—адказаў больш. Аб'ектыўныя прычыны. Спасыланьні на ўсялякія зачэпкі. Злы голас перапыняе:

— Слоў менш. Твой язык. як званок, прывязаны да шыі каня, звоніць ад маленькага руху.

Праходзячы па калідору, Брагін пачуў гаворку некалькіх асоб І хаця дзьверы былі зачынены, пазнаў некаторых па голасу. Гэта былі Нявідовіч, загадчык хаты-чытальні Круглікаў, Губін—сакратар камсамольскай ячэйкі і яшчэ нехта.

— Цярпець у сваіх радох апартуністаў, кулакоў? Не,—гэтага ніяк не магу зразумець,—злаваўся Нявідовіч.—Дзе была ячэйка, камсамольцы?

— Ды я заставаўся амаль адзін, хлопцы ў разьездах—хто ў горадзе, хто ў раёне,—слаба абараняўся Губін.

— У такім выпадку трэба было прыцягнуць на свой бок актыў беднаты.

— Пустое, таварыш Нявідовіч! У нас актывісты накшталт Брагіных наровяць у сваю кішэню. Паспрабуй заахвоціць іх, прыцягнуць у дапамогу.

— Заўтра-ж еду ў горад у райком партыі і трымайся тады ўсякія там Бралковы, Брагіны і ўсе нашы недацяпы—партыйцы,—закончыў са злосьцю Нявідовіч.

Сышліся ў хацінку Брагіна. Жонкі дома ня было, дзетвару на вуліцу справадзілі. Дзьверы на засовец закрылі і для ўпэўненасьці на кручок яшчэ.

— ...І так ён, злосьнік, крычаў, што мяне ў пот кінула. Я, кажа, найду на іх управу. Усіх іх у турму, у Салаўкі ўтахтару. А ў першую чаргу міраеда Бралкова і недацепаў—камуністаў. Вот вам крыж—гэтак крычаў:

— Міраеда Бралкова і недацепаў—камуністаў. Ах, чорт сухотны!

Брагін змоўк. Стаў шукаць месца дзе-б прысесьці, але наколькі ў хаце была адна табурэтка, ды і тая занята, грузна апусьціўся на кучу бруднае бялізны каля печы.

— Што на гэта скажаш, Міхал Сьцяпанавіч?—спытаў Бралкоў пасьля працяжнага маўчаньня.

Што мог адказаць Карагін? Гэта пачатак таго, што ён прадбачыў раней. Успомніліся словы Бралкова:

— Зуб трэба ўставіць, і абавязкова залаты.

Фыркнуў, як на вадапоі конь.

— Правільна ты тады заўважыў, Бралкоў:—тырчыць ні зуб, а адзін толькі корань. Але аднаго ня ўзяў у толк. Зуб залаты ўставіць можна, але ён ня будзе натуральны, прыродны.

— Я і вы карэньні і карэньні гнілыя. І цэлага з нас ніколі ня будзе. Але ў мяне ўжо ўсё вырашана. Сёньня-ж начным цягнікам еду адгэтуль назаўсёды. Куды—ня ваша справа.

— Так... напакасьціў і ўцякаеш. Значыцца, на нас усё ўзваліць хочаш, злосна ўскрыкнуў Бралкоў.

— І паршывы-ж ты пасьля гэтага чалавек! Цьфу!

— Так, уцякаю!—няпрытомна крыкнуў Карагін і накіраваўся да дзьвярэй.—Скажу на разьвітаньне—памыліўся я наконт мірнага ўрастаньня кулака ў сацыялізм. Былыя Бралковы толькі і думаюць пра нажыву, пажыць сытна, таўсьцей напакаваць кішэню грашыма. Усё...—і адчыніўшы дзьверы вышаў на вуліцу.

Бралкоў паглядзеў на Ванькова, Брагіна, махнуў рукою і сказаў:

— Ня так усё вышла, як думалі. І ўсё гэта праз чорта сухотнага здарылася. Скрыпун праклятыI Забіць мала, ідала,—сказаў і сутуліўся.

Твары Ванькова і Брагіна ня добрымі сталі—зьбялелыя, непарушаныя, вочы ў падлогу глядзяць.

А Бралкоў, коса паглядаючы на дзьверы, шапацеў:

— Хто як не Карагін забіў, яго рук справа. Укакошыў і сам зьнік.—І штурхнуў у бок аднаго і другога:—што мілей Салаўкі, ці..-

Падняў цяжкую галаву Ванькоў і прыдушана сказаў:

— Яму і жыць усяго тры дні. Растае, як воск...

Брагін:

— Так, сапраўды, так. На далонь дыхае.

І зноў цяжкае маўчаньне.

І невядома хто з траіх прапанаваў выпіць...

Пілі... бесьперасьціханку пілі. Расказвалі і будзілі гарэлкаю зьвера, што жадаў крыві.

* * *

Каранёўскія могілкі знаходзяцца на высокім месцы, на няпрыгоднай зямлі, з абрывам у глыбокі яр. Мёртвы—не араты, а жывому чалавеку патрэбна і каштоўна кожная пядзя, кавалачак пульхнае зямлі. А каб нябожчык ня быў пакрыўджаны, засадзілі могілкі дубам, ліпаю, вярбою. І з часам вырасьлі пасаджаныя дрэвы вышэй за найбольшы дом у Каранёўцы. Улетку могілкі, што парк, асабліва той бок, які ўпіраецца ў яр. Густы вербалоз зялёным плюшчам абвіс над абрывам. Ззаду калёна з дубоў і ліп, нібы пастроеныя да бою салдаты. Сюды якраз трапіў хатнік Сяргей Круглікаў не выпадкова. Выхавальніца Каця назначыла яму спатканьне. Ціха, толькі яму на вуха шапнула:

— Чакай каля старога дуба, што ля абрыва. Прыду.

Сеў на тоўсты, вылезшы з зямлі корань, прытуліўся да ствала. Дастаў тутун, паперу і пачаў круціць папяросу. І вось у гэты час, ціха нібы ўздых, охнула ў абрыве.

— На могілках ды стогн!?—мільганула думка. Сяргей выпусьціў з рук папяросу і падаўся наперад. Абрыў—цёмная жахлівая яміна. „Што за насланьнё.. як быццам нехта стогне“.

— Хто! там?—голас Сяргея абарваўся. За яго сьпіною хруснула. Гістэрычна ўскрыкнуў і абярнуўся.

— Вот і я.—І Каця кінулася наперад.

Узрадаваўся жывому чалавеку, зашаптаў:

— Ідзі скарэй сюды. Там нехта стогне.

Трымаючыся за рукі, пашлі к абрыву. Сяргей зноў крыкнуў:

— Эй, міл чалавек! Скінуўся ці што?

У адказ стогн і хрыплае: „Памажэце“.

Задрыжэлі абое. Спазналі па голасу—Нявідовіч! Чапляючыся за кусты, ірвучы вопратку, абдзіраючы аб сукі цела, сталі апускацца ўніз.

— Тут! Асьцярожна Каця!—і чыркнуў запалку.

Цьмянымі, крывянымі вачыма глядзеў на іх Нявідовіч. Пазнаў. З болем загаварыў:

— Зарэзалі ўсё такі, сволачы... Бралкоў, Брагін і...—з хрыпам закашляўся, сплёўваючы згусткі крыві.

Сяргей спалохаўся.

— Бяжы ў вёску, Каця! Дапамога патрэбна. Мажа жыў будзе! Толькі без аніякага шуму. Скажы, двум тром камсамольцам і ша.

Ячэйка не марудзіла.

Двое надзейных хлопцаў конна паімчаліся ў горад.

Ледзь пачало займацца на золак, грамадзкі вартаўнік калгасу Сьвірыдаў са зьдзіўленьнем убачыў з боку гораду нязвычайны рух: чалавек дваццаць вайскоўцаў, па ўказаньню тых двух, што з камсамолу, абкружылі дамы: Ванькова, Брагіна і Бралкова. З-за павароту выскачыў закрыты аўтамабіль з чырвоным крыжам, засакатаў дробам і спыніўся каля хаты-чытальні.

Каранёўка прачыналася.

* * *

Пасьля апэрацыі Нявідовічам заўладала гарачка. Ірваўся з пасьцелі, адштурхваў сядзелку, нешта незразумелае мырмытаў і, калі зьнікалі душэўныя сілы, упадаў у забыцьцё. Дактары ківалі галовамі і чакалі горшага.

На шосты дзень Нявідовіч расплюшчыў вочы. Каля яго на табурэтках сядзяць людзі—усе каранёўскія. Сяргей нахіліўся і хацеў нешта сказаць, але сястра не дазволіла. Гэта злавала хворага. Заварушыў перасохшымі губамі, слаба, няўпэўнена спытаў:

— Ну, як калгас?

За Сяргея адказаў сакратар камсамольскай ячэйкі Губін:

— Усё добра. Да развалу не дапусьцілі. Зладзеі і раскрадальнікі, што пралезьлі ў наш калгас, вычышчаны і пакараны. Сяргей Круглікаў абран сакратаром ячэйкі...—І, бачачы ўпарты погляд хворага на Каранёўскіх сялян, растлумачыў:—Гэта нашы новыя калгасьнікі. Пасьля зьверскае справы бандытаў, амаль уся Каранёўка ўвайшла ў калектыў.

І па тону Губінавага голасу, па вясёлых, але ўважлівых тварах сялян зразумеў, што так і ёсьць. Цела яго халадзела, астывалі ногі і, перамагаючы надыходзячую цемень, пытаў:

— А тыя... як іх?

Губін выцягнуў наперад руку.

Сяргей і Каця з розных бакоў трымалі чырвонае палотнішча, што зацьвіло словамі Леніна:

„Мы будзем бязьлітасны як да нашых ворагаў, так і ў адносінах да ўсіх хістаючыхся і шкодных элемэнтаў з нашага ўласнага асяродзьдзя, якія асьмеляцца ўнесьці дэзарганізацыю ў нашу цяжкую творчую работу па будаўніцтву новага жыцьця працоўнага люду“.

А Губін паціху гаварыў:

„Гэтыя словы Леніна пры ахове грамадзкай уласнасьці набываюць асаблівае значэньне і павінны быць рэалізаваны. Да зладзеяў і забойцаў грамадзкіх дзеячоў пралетарскі справядлівы суд будзе неўмалім“...—так заявіў пракурор.

— Грамадзкасьць патрабуе суровага пакараньня — вышэйшай меры сацыяльнай абароны.

Нявідовіч удыхнуў паветра поўнымі грудзьмі і падняў з падушкі галаву. Паплылі ў вачох Губін, каранёўскія калгасьнікі. Чырвонае палотнішча цьвіло, гарэла, іскрылася словамі правадыра. Вось яно закрыла сабою ложакі, твары, палату адным чырвоным колерам і... абарвалася.

Пераклаў з рускага арыгіналу П. А

В. Лошыца, 1932 г.

**Валеры Маракоў**

## Ля кастра чалавечага ўсходу надзей

Мы едзем
і хлопцы сьпяваюць:
„Белая армія,
чорны барон
Зноўку рыхтуюць нам
царскі трон"...
Над полем грыміць
І сьвітае...

Цытрынныя зоры
упалі ў ваду
І там паміраюць
адна за аднэю.
І гэта, таварышы,
ўсё на віду,
У нашых пачуцьцях,

што, днеюць.

Трэба да ўсяго
падыходзіць цьвяроза,
Да сіняй ночы,
да яе вышыні,
Трэба ісьці,
ня губляючы розум,
Каб зьзялі поэмай
высокія дні.

Стаіць сэмафор
з зялёнай ухмылкаю:
адчынены шлях,—
крый на поўны ход,
каб грала жыцьцё—
сьветазарны усход,
кожнай нязначнай
і значнаю
жылкаю...

Гляджу і дзіўляюся—
юнацтва, як сон,
Як слаўная песьня
барвовага краю.

І мы,
аскабалкі змарагданых дзён
на струнах лятункавых
граем.

Прастуе цягнік
у імпэтную веліч
І з грукатам кол
нараджаецца сказ:
„Мы людзі
вясновых паселішч,
акраса
найвышшых акрас“.

Дазволь, дарагая,
дазволь—пагаворым.
Ты мяне знаеш
і ты мне прабачыш

За тое,
што быў бязуважным учора,
За тое,
што думаў учора
іначай...

Мы не знаёмы?
якая розьніца?
Нас—жа
адна гартавала эпоха...

Дружа!—
лета бярэцца
і возьмецца
за нашыя твары
жахліваю
вохрай.

І тады гарады
з іх садамі і сквэрамі,
з музыкай зор
і з пялёсткамі руж,

будуць для нас,
як і дні нашы,
шэрымі,
схаванымі ў смутку
пад свой капялюш.
Жыцьцё для жывых.
Каб сьпявала краіна,
Гарэла вясна,
палыхалі сады,
будзем
ісьці намі ўзятай пуцінай,
мінаючы роспачы
дні і гады.

Не заўжды патрэбна
суровая ўдумнасьць
І зморшчкі чала
не рашаюць ўсяго.
На бруку жыцьця,
Растрывожана—шумным
ёсьць права
на вусны
І сьмех дарагой.

Няма без красы
у наступнае візы,
няма без каханьня
правоў на жыцьцё,
І ты,
што ідзеш на шляхі комунізму—
Ты ўвесь чалавек,
чалавек—пачуцьцё...

Машын для машын
не патрэбна нікому.
Заводы растуць
перш ўсяго для людзей,
каб ты узьнімаўся,
як волат-нязломак,
як песьня поэта
і заўтрашні дзень.

І комунізм комунізму
не надта патрэбен,
ён новаму ўсход
і мінуламу сьмерць.

У яго трэба верыць
і трэба умець
любіць,
нібы сонца пад восеньскім небам.

Мне дваццаць тры,
і мне хочацца жыць,
сьпявае ў грудзёх
навальніцы поэма.
Тут край мой
на самым стаіць рубяжы,
і тут вось маё непакорнае
племя...

Ідуць, нібы казка,
лясы і узгоркі,
ляжыць
поўнагрудай каханкай зямля...
Нямеюць жыты
і удумнасьць лягла
у гулы людзкой і птушынай
гаворкі.

Люблю
анямелым стаяць ля кастра
высокага ўсходу
надзей чалавечых,
каб падалі ружы
на дужыя плечы
і ў вочы ўлівалася заўжды
зара...

Я за Бэтховэна:
ўзьлёт
і падзеньні,
і за блакітную постаць зямлі,
дзе нараджаліся
й падалі геніі
і дні
па касьцёх чалавечых ішлі...
І хоць я ня геній,
(ня гэта мне трэба!).
Я знаю—
Рэспубліцы трэба зашмат:
жалеза і вугалю,
нафты і хлеба

І шчырага слова
І нават, гармат.

І гэта затым,
каб мае аднагодкі,
мае маладыя
сябры—муляры
надзейна змаглі
вартаваць і тварыць,
эпохай узьнятыя ў бой
Пяцігодкі.

І гэта затым,
каб гарэла каханьне,
сяброўства
на ружы схіляла чало,

І ты
не сьмяяўся над ўсім, што было,
За тое,
што ты чалавек,
а не званьне...

Любоў і поэзія
йдуць праз вякі,
праз краты улад
і кароны цароў,
праз хітрыкі ворага,
здраду сяброў,
і доруць зямлі
залатыя
вянкі...

Я за няўтомную музыку
ўсходу,
Я за усход—
справу сэрца й крыві,
Я за найвышшае ў эрах
жывое жывых,
За комунізм і вясну,
не скаваныя
лёдам.

Толькі ня мумію!
Дружа, паслухай,
хмара кране
над табою брыво,

і ты захлынешся
у рогаце руху
над непаўторным
зямлі хараством...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ўсёй далей цягнік
і імпэтная веліч

Выростае ў бляску
барвовай зары,
Каб мы—
захапленьня свайго разьбяры—
ва ўсім разабрацца змаглі
і умелі...

І знаем—
Рэспубліцы трэба зашмат
жалеза і вугалю,
нафты і хлеба,
І рэк многаводных,
і яснага неба,
І шчырага слова
І, нават,
Гармат...

**Цішка Гартны**

# Змагар

## I.

Сакратар ячэйкі Майсей Восілка пры ўваходзе на колгасны дзядзінец пачуў моцны гоман у канцылярыі колгасу „Змагар". Там адбываўся сход і вырашалася бягучае пытаньне.

Увайшоўшы ў памяшканьне, запылены і зморавы з дарогі, Майсей ужо ўгледзеў ад дзьвярэй, што пры стале, за якім сядзела некалькі чалавек, відаць, прэзыдыуму сходу, стаяла трое старых колгасьнікаў, і адзін з іх сярдзіта ківаў рукою насупроціў старшыні колгасу Карпука Міхеявага сына Кропіка.

— Гэта павінна знайсьці канцы і калі толькі яно мае месца...— пераняў сакратар ячэйкі з вуснаў высокага барадатага дзядзькі, які заўважыўшы Майсея, кожнае слова выказваў на ноту мацней.

Малы вузкатвары, але рухавы малады мужчына з прэзыдыуму, пазіраючы на Кропіка, памыкаўся перарваць дзядзькава слова.

— У чым справа?—пралезшы да стала, запытаў сакратар ячэйкі ў прэзыдыума.

— Вось паслухай дзядзьку Лукаша,—адказаў старшыня колгасу, ён-жа старшыня сходу, ушчыльняючыся за сталом.

— Так... Майсей Хлёравіч мусіць выслухаць... сказаць сваю думку,—з аплёмбам, уперыўшы ў Майсееў твар празрысты вымагальны ўзрок, праказаў Лукаш.

— Рассудзіць, вядома, і знойдзе праўду... Прыкусіш язык,— перабіў з-пад печы сярэдняга веку, астаркаваты на выгляд мужчына.

— Чакай, таварыш Міклашэня!—папрасіў Кропікаў сусед з прэзыдыуму.

— Кажы, дзядзька Беразак,—зьвярнуўся да барадатага здаравяка сакратар ячэйкі.

Лукаш Беразак азірнуўся на сваіх суседзяў, з якіх адзін быў Пракоп Дзяруновіч, а другі—Самусь Покаўка, пераступіў з нагі на нагу і, голасам пакрыўджанага, пачаў казаць:

— Старшыня наш зусім ня добра сябе вядзе. Ён падзяляе нас, колгасьнікаў, на некалькі сартоў: на горшых і лепшых, бліжэйшых і чужэйшых. Я, напрыклад, у яго зусім далёкі і нялюбы чалавек, а вось Міклашэня, як родны брат,

— Бліжэй да справы, дзядзька Лукаш,--падагналі Беразака з прэзыдыуму.

Па хаце пракаціўся глухі сьмех і перашэпты.

„Размазаў куцьцю", падаў жаночы голас з паддзьвярэй.

— Куцьцю, куцьцю! Маўчала-б, язычніца,—абярнуўся Беразак да аудыторыі і, яшчэ больш расьсьмяшыўшы сабраных, працягваў сваю скаргу на старшыню колгасу:

— А справа яна вось якая. Аднойчы я ўкасіў жменю лыгі сваёй падцёлцы—дык і вылікі з працадню, і вымова і... хай бог крые што.. бач Карпучок наш мілы, старшынка... (Па хаце прайшоў покатлівы рогат і хтосьці зычна праляскаў у далоні)... А, калі датычыцца вунь таго, во Язэпкі,—Беразак ткнуў да печы пальцам і скрывіў для дражненьня левую шчаку—дык, як з гуся вада: яму і канюшыны падсуне і кулёк падаткне і... нават, добрыя людзі кажуць, два пуды пшаніцы-лядоўкі даў... Бяз дай прычыны—за дзякуй...

— Каб гэтак вы жылі, дзядзька,—выгукнуў Міклашэня і папнуўся, каб пралезьці да стала.

— Хлусьня, кламства, няпраўда! — пачулася з розных месц і галасьней, напярэкрыкі, з вуснаў Покаўкі і Дзяруновіча:

— А то-ж і праўда, Лукаш ня схлусіць...

Кропікаў сусед з прэзыдыуму порстка ўсхапіўся з месца і падняў угару руку з карандашом.

— Ш-ша-а, ттаварышы-і колгасьнікі.

У надышоўшае зацішэньне ён кінуў:

— Вінаваціць таварыша Кропіка па чутках,—засьмела, таварыш Беразак... Вы павінны ведаць, што таварыш Кропік пастаўлены на кіраўніцтва колгасу нашай партыяй, што ён член колгаснае ячэйкі і за кожны свой крок нясе адказнасьць перад партыяй, перад колгасам і ўсімі вамі. Я вельмі сумляваюся ў правільнасьці чутага дзядзькам Лукашом, бо ні ячэйка, ні, скажу сьмела, ніхто з вас нічога дрэннага за ўвесь час Кропікавага кіраўніцтва ад яго ня бачыў... Так што-а!..

— Правільна, таварыш Цырбун! Беразак хлусіць. Ганьба табе, дзядзька Лукаш!

Крычала пераважная большасьць прысутных, якім спачувалі і шмат маўчаўшых.

Але Беразак, упарты, як бык, і саманадзейны, пільна глядзеў на Майсея Васілку, спадзяючыся, што той іншых думак аб ім.

— Майсей Хлёравіч павінен выясьніць. Таварыш Васілка ня менш Кропіка адказная асоба...

Сакратар ячэйкі абарваў Беразака махам рукі і сказаў:

— Так, мы адкапаем канцы... А да старшыні колгасу, хоць-бы як да таварыша, трэба мець крыху павагі, дзядзька Лукаш.

Заўвага, хоць і мякка выказаная, хвасянула Лукаша, як мокраю анучаю па твары, і ён апусьціў голаў. Пасмутнела ў вачох Дзяруновіча і Покаўкі.

Рэдка хто з прысутных на сходзе не заўважыў гэтага, ня мінуўшы перашапнуцца з суседам.

Кропік, трымаючы сябе ў руках, не праказаў і слова, пакуль не перайшлі да чарговага пытаньня—аб засеве азімага кліну.

Цырбун даў старшыні слова для інформацыі сходу, і Карпук Міхасёў сьцісла і выпукла намаляваў плян пасеўнае кампаніі, які амаль ня выклікаў сур'ёзных спрэчак.

Па дзелавому сход вырашыў і пару дробных пытаньняў пад рубрыкай „індывідуальныя конфлікты“ і разышоўся каля дванаццатае гадзіны ночы.

Кропік амаль апошнім вышаў з канцыляры, якую замыкаў рахункавод колгасу,—Міхась Дзянцо.

— А таварыш Васілка і сёньня праявіў сваю мяккасьць да Беразака,—прабуючы, ці зашчаўкнуўся замок, выказаў рахункавод.

— Ну, ужо мабыць гэтак трэба...—двухзначна адказаў Карпук і разьвітаўся з таварышам.

Ачуўшыся на кватэры, ён дапомніў некалькі рысак з апошніх адносін да яго Майсея Васілкі і вывеў іх у наступную думку:

Гэткага становішча нельга лічыць за нормальнае. Патрэбна, каб намі зацікавіўся райком... Мы-ж абое партыйцы і ў нас адны задачы, навошта-ж тое недавер'е, тая халоднасьць адзін да другога. Мяшчанскім тулем зацягнутае...

II.

Ужо з дзьвярэй сталовае Майсей Васілка прыкмеціў у сваёй кватэры агонь і ажно сумеўся, прыпыніўшыся ля парогу. „Алена? Няўжо такі яна? А мо...“

Далей напрашвалася думка, якой няёмка было верыць, і Майсей рушыў да сябе захоплены асабліваю цікавасьцю.

Зрабіўшы некалькі крокаў, ён спыніў вочы на прыгушчанай цені з левага боку ганку, а яшчэ пару раз ступіўшы, вылавіў з цені абрысы фурманкі, а ў ваконным сьвятле—сілуэт жанчыны.

Так, хтосьці прыехаў і бяз спросу забраўся ў кватэру.

Параўнаўшыся з падводаю, Майсей угледзеў пры кароткім вазку чалавека, які моцна хроп, апёршыся абодвыма локцямі на фурманскае сядзеньне. Конь хрумстаў падкінутую канюшыну.

— Адкуль падвода?—прагукаў Васілка і ўстрывожыў спаўшага.

— З раёну... таварыш Сідорчык прыехала... яе завёў якісьці чалавек, во ў гэту хату... Дзе-б тут з канём уладуваць, га?

— Сідорчык з раёну?—адказаў сакратар ячэйкі на адрыўныя хрыпаватыя запытаньні разбуджанага чалавека і ўпэўнена хапіўся за клямку ў дзьвярах.

— Каню і вам дамо месца, зараз...—кінуў ён з-за парогу і пачуў з пакою:

— Кандрат?

— Майсей, а не Кандрат,—жартаўлівым тонам здаволіў Васілка нечаканага госьця.

Госьць стаяў тварам у дзьверы і ня даў гаспадару апынуцца ў сваім пакоі, як паслаў яму перапрашэньне:

— Даруй, таварыш сакратар: ня прошаныя позьнія госьці...

Сідорчык яшчэ была ў дарожным плашчы, толькі пукаты, як падушка, бразэнтавы портфэль адпачываў на парожным незасланым стале.

— Добры вечар!—прывітаўся Майсей, даруючы мяккім выглядам твару Сідорчыкава „злачынства".

— Крыху пазнаватыя, а каб ня прошаныя... Тут дваяка можна... Напэўна важныя справы?

Сідорчык, скідаючы плашч, адказала:

— Ня думаю, каб мяне „Змагар" не чакаў... Прынамсі яго кіраўнічыя работнікі...

— Ад райколгассаюзу, ці вышэй?

— Вядома, што вышэй...

Яна адвярнулася да портфэлю і спрытна выняла з яго згорнутую ўдвое паперку.

— Чытай!—падала яе сакратару ячэйкі.

— Кропікава справа!—двусэнсоўна выказаў Майсей Васілка, ў яго на твары сумная міна сагнала лёгкую ўхмылку.

— Што-ж, вельмі добра... Сядай,—дадаў ён прачытаўшы і затупаў ціхімі крокамі па пакоі.

— Была скарга ў райком?—з процілежнага канца ад Сідорчык запытаў яе сакратар ячэйкі.

Раёнка стаяла бокам да стала і глядзела на портфэль, як-бы правяраючы ў думках яго зьместоўнае.

— Вам лепш вядома... Мяне паслалі, не сказаўшы, хто скардзіўся... Ну, пра вас гутарку я чула...

Сідорчык зрабіла кароткую паўзу і ў выглядзе запытаньня дасказала:

— Што тут у вас вышла з нейкімі двыма пудамі пшаніцы? Няўжо такі таварыш Кропік сапраўды?..

— Я толькі заўчора вярнуўся з Менску... І сам трапіў на сход, дзе пра гэта ішла размова,—перарваў Сідорчык Майсей.

— А ўсё-такі, ты дапускаеш што-колечы падобнае?

— Кропік з Міклашэнем блізкія людзі, але...

Сакратар ячэйкі ўхіляючыся ад простага адказу разьвёў рукамі.

— А я баюся, што ў гэтай справе адны нагаворы, кампаньня супроць старшыні колгасу... Вось будзем бачыць, таварыш Васілка. Тут нехта старанна працуе, а ты, бач, ніяк не згаворышся з Кропікам, каб сплочана весьці справу... Навошта вам дзьмуцца адзін на другога і даваць ворагу выкарыстоўваць гэта для сваіх мэтаў?..

Майсей Васілка спыніўся на месцы, як загнаны ў загарадзь. Надзіны словы кранулі за жывую струну, якая загула калючаю прыкрасьцю. Сакратар ячэйкі не знайшоў-бы важкіх матэрыялаў, каб хто ў яго дамагаўся, абгрунтаваць свае халодныя адносіны да старшыні колгасу, але, яму здавалася, што няма даных і перамяніць іх на сяброўскія, таварыскія. Шэраг дробных і нязначных выпадкаў наслаілі досыць высокую сьцяну між імі, якую павінен хтосьці зьнесьці.

— Бачыш, таварыш Сідорчык... Карпук Міхасевіч убіў сабе ў галаў вучэньне і з-за гэтага спакайней адносіцца да колгасу... Астыў і свабодна можа ачуцца ў абоймах опортунізму... Мне-б думалася, што час паставіць пытаньне аб мэтазгоднасьці яго далейшага прабываньня ў „Змагары"... Ён, зразумела, ня дрэнны працаўнік (леташні прарыў нельга ставіць яму ў віну), але абставіны нашы ня тое... зьбіваюць яго з панталыку...

Майсей характарызаваў для Сідорчык старшыню колгасу і ўстрымляным узрокам правяраў узьдзеяньне на раёнку свае характарыстыкі. Надзя сур'ёзна слухала сакратара ячэйкі і бачыла, што ён стрымлівае ў сваім тоне і выказах падбіваючую на злосьць крыўду, некае туманнае, няяснае раздражненьне. Сідорчык заўважала Майсееву сумятню, прыцягнутыя да выпадку недаразуменьні і трапунковыя здарэньні, якія сумеснае жыцьцё і праца з Кропікам нарадзілі. І як не павярхоўнымі паказваліся яны з об'ектыўнага пункту гледжаньня, усё-ж даволі ясна сьведчылі аб нацягнутых узаемаадносінах паміж сакратаром ячэйкі і старшынёю колгасу.

— Ты не адпіхай ад сябе об'ектыўнасьці, таварыш Васілка.

Майсей нэрвовей затупаў па пакоі.

— Ды не... калі сумляваешся ў маіх словах, то... ты-ж, чаго таіць, прыехала не мяне толькі выслухаць...

— Так, не цябе аднаго, але і цябе, як... кіраўнічую ў колгасе асобу... Паслухаю цябе і паслухаю Кропіка... яшчэ іншых таварышоў з ячэйкі таксама паслухаю...

— Калі ласка!

Сідорчык хапіла за крысо Васілкавай жукеткі і спыніла яго.

— Не хвалюйся, Майсей Хлёравіч, партыйцу гэта ў падобных выпадках не да твару... Я ня вычытваю табе авансам прыгавара, і скажу, што справа зусім ня так дрэнна стаіць, як ты хочаш яе бачыць...

— Або я заслужыў, Надзя, таго? Сем год у радах партыі, а пакуль ніякага нараканьня, ніяківа сумненьня ў маёй бальшавіцкай вытрыманасьці я ад райкому... ды ад нікога ня чуў... Можа, хіба таварышу Кропіку здаецца...

— Ді нічога, па мойму, яму не здаецца... Кінь, Майсей...

Пачуўся моцны стук у сьцену, ажно дзвэнгнулі шыбы ў вакне.

— У чым справа?

— Напэўна конь аглобляю.

— Пасядзі, Надзя, я адвяду фурмана з канём у прыгрэбіцу і зараз назад... Ах, запазьнілася ты і проста няма цябе чым пачаставаць.

Майсей абвёў узрокам негаспадарчыя сьцены свайго пакою і разьняў рукамі.

— Саламяны ўдавец... Жонка... нешта ёй надало... ў Ленінград на курсы, а я... Даруй ужо, госьцячка...

Сідорчык не спускала з твару ўхмылкі, вітаючы ёю ласкавы заспакоены Восілкаў настрой.

Майсей выбег з ім на двор.

III.

— Таварыш вазьніца!—прагукаў Майсей у месячную ноч і падышоў да абуджанага фурмана.—Едзем!

Затарахцелі калёсы па выбрукаванаму рундучку і ажывілі ціхі заснуўшы дзядзінец. Глухаватае рэха адгукнулася дзесьці за садам і не пасьпела змоўкнуць, як скрыпнулі вароты ў конскай стайні.

— Стаўце, таварыш, ваш воз і распрагайце каня, а самому ці ня лепш у гумно на сена?

— Дзінькуе, я ўжо сяк-так агойтаюся пры возе... Ідзеце, тут я сам...

— Можа-б сена з бярэмя падкінуць у воз?

— Ды ці варта турбавацца... Дзінькуе!

— Дабраноч!

Сакратар ячэйкі вышаў за вароты стайні і пакінуў іх не запёртымі. „Чалавек з коньмі можа замяніць запор“, ня зусім праўдзіва заключыў ён.

Але пераглядаць свайго заключэньня Восілку ня было як: яго думкі вярнуліся да прыезду Сідорчык і да гутаркі з ёю. Здарэньні разыгрываліся многа хутчэй, чым дапускаў гэта сакратар ячэйкі. І чамусьці яны бралі якісьці дзіўны паварот! Гутарка з упаўнаважаным райкому асабліва выразна сымбалізуе гэта. Прычым тыя намекі Сідорчык на яго, Майсееву, віну ў адносінах з Кропікам, яе недаверра да яго слоў? Няўжо тут Карпуковы манэўры?

Майсей перш накіраваў праўцом да сябе на кватэру, дзе сядзела аднэю Надзя Сідорчык, пасьля раптам павярнуў да гумен, каб праверыць, ці зачыняты вароты, ці запёрты весьніцы на выяздах з дзядзінцу. Ён быў каля першых варот новае аборы, як пачуў зьненацкі вокліч пазадзе сябе:

— Хто там?

Гукаў Карпук Кропік, якога Восілка пазнаў па голасу.

— Я, Майсей, нічога,—і сакратар адвярнуўся на сустрач старшыню колгасу.

— Гэта ты скрыпаў гаротамі ў стайні? Каго ты пусьціў начаваць?—запытаў Карпук, падышоўшы да Майсея.

— Ёсьць госьці з раёну... дапрацаваліся, бачыш...

— Чаму ты быццам хочаш мяне ў гэтым абвінаваціць?

— Я—цябе? Кінь, Карпук... Што ты ўздумаў? Калі правільна судзіць, то мы—абое рабое. І ні я-ж... Прынамсі я ня маю натуры езьдзіць з скаргамі на другога...

— Выходзіць, што я з гэтым пастараўся?

— Або я кажу?

Карпук зрабіў паўзу на час, які патрабаваўся яму, каб дастаць з кішэні і закурыць цыгарку. Зацягнуўшыся, ажно папярхнуўся, ён тонам ніжэй запытаў:

— А хто прыехаў?

— Надзя Сідорчык, мо' ведаеш?

— Сідорчык? Ён пару хвілін памаўчаў. Ведаю... Значыць прыслалі Надзю Сідорчык—ага! І яна спынілася ў цябе?

— Мо' зойдзеш?

— Пасьпею заўтра... Мушу абысьці дзядзінец... Ужо дзядзьку Лукаша захапіў з мяшком канюшыны...

Карпук праказаў гэту навіну з характарным падморгам левым вокам, што не захавалася ад Майсея.

— Э-э, стары д'ябал!—вылаяўся сакратар ячэйкі.

— Гэтага мала, таварыш Васілка... Беразак гэтым карыстаецца—з адбіткам нотацыі ў голасе заўважыў Карпук.

— Чым?

— Тваёю мяккасьцю...

Слова за словам яны паднімалі голас і выяўлялі разгарачанасьць, якая брала наварот супярэчак, аснашчаных едкімі ўпікамі і дакорамі. І адзін і другі пасьпелі выцягнуць на паверх даўно трапленыя факты і здарэньні. Майсей, нарэшце, не абмінуў, каб ня ўлыгаць у гутарку выпадка з сваёю жонкаю, якую аднойчы застаў у Кропіка. Не асталіся ў баку і два пуды пшаніцы.

— Дайсьці да таго, каб сачыць за таварышам?—ня ўтрымаўся Восілка і гэтым паварушыў Кропікавай рукою, якая схапіла яго за рукаў.

— Хлусьня, таварыш Восілка! Мяне цікавіць колгас, а не...

Яны не разьвітаўшыся пашлі ў супроцьлежныя канцы, заканчваючы свой абход колгаснага дзядзінцу.

Было а трэцяй гадзіне ночы, як Кропік апынуўся ў дзьвярах свае кватэры: у гэты час Восілка занёс ногу на першую ступню ганку.

IV

Пераступіўшы парог у сенячкі, Майсей Васілка вярнуўся думкамі да Надзі Сідорчык. Няўжо яна ўсё яшчэ ня сьпіць ды чакае яго? Тады добра, ён, Майсей, перакажа ёй аб сваёй стрэчы з старшынёю колгасу. „Кропік не адгаворыцца, ён сачыў за мною. Няхай прадстаўніца райкому ведае гэта. Можа іначай характарызавацьме Карпука“.

Асьцярожліва, каб ня стукнуць, сакратар ячэйкі засунуў сенешнія дзьверы, ціхенька адчыніў хатнія і з-за парогу ўгледзеў, што Надзя не разьдзетая сьпіць на канапе. У лямпе, зсунутай на край стала, па-за портфэлем, дагарвала газа і кнот выводзіў чорную стужку сажы. У Надзі на грудзях, пад растапыранымі пальцамі левае рукі, ляжала разгорнутая вокладкаю ўгару кніга.

Майсей падышоў да стала і кінуў узрокам на кнігу—то была „Пытаньні ленінізма“ Сталіна—а з кнігі на здаровы, прыгожы, пачырвонены твар Сідорчык. Як ён быў далёкі ад таго выразу, калі Надзя вяла з ім сухую, чуць не афіцыяльную гутарку! Майсей заключыў, што яна зусім іначай падышла бы да Кропіка, каб ён яе абудзіў і паведаміў пра нядаўную з ім стрэчу. Яму рупіла гэта, але будзіць Сідорчык ён не дазволіць.

Паціху зьняўшы з дзяўчыніных грудзей кніжку, Майсей пашкадаваў, што ня мог ёй даць чаго-колечы падвячэраць. Ніколі ён з часу ад'езду Алены не паклапаціўся дастаць на ўсякі выпадак кавалак сала і акрайчык хлеба! Гэта ўжо сапраўды нядбайнасьць, і колькі разоў Васілка ўпікваў сябе за падобную бесклапотнасьць. Зусім недаравальным было на сёньні.

Ён нездаволена абвёў вачыма полкі пустое гратаўкі, голыя сьцены пакою, кіўнуў разоў са-тры галавою і лёг у ложак, не захацеўшы разувацца.

У пасьцелі, ужо з тыдзень не пасланай ні разу, зьмятай і стоптанай, Майсей вярнуўся думкамі да Кропіка. Асеўшая ў яго нутры прыкрасьць межавала з востраю крыўдаю на старшыню колгасу. Гэта-ж Карпук, відаць, на праўду думае, што ён, Васілка, папускаецца Беразаку. І з гэтага, вядома, заключае аб страце Майсеем клясавае пільнасьці, калі ня горш. Становішча зусім агіднае. Недапусьцімае ў адказнай працы паміж двума партыйцамі. Пахне выпіраньнем прыватных дробных інтарэсаў на першае ад агульнай справы месца. Каму ад гэтага выгада? Няўжо такі Кропік ня спыніцца надалей працягаць свае інтрыгі?

Азіраючыся ў мінулае, сакратар ячэйкі выцэджваў факт за фактам, якія лыгаліся ў тоўсты вузел Кропікавай віны. Але шукаючы ёй абгрунтаваньня для пастаноўкі пытаньня на сход ячэйкі, Васілка губіўся ў беспадстаўнасьці цэлага раду натузаных і падагнатых

апд Карпукову віну выпадкаў. Між тым прыкрасьць заставалася на сваім месцы. Яна перашкаджала ўступіць месца самакрытычнаму аналізу.

З гэтым пачуцьцём Майсей заснуў і прачнуўся ў шмат весялейшым настроі. Была шостая гадзіна раніцы. Сідорчык адсутнічала з пакою. На дзядзінцу бегалі па сваіх справах колгасьнікі. Першым за другіх пакінуў кватэру старшыня колгасу, накіраваўшы вярхом на кані ў яравы палетак. Ён спаў не даўжэй за сакратара ячэйкі і адпачыў за ноч ня больш за яго, бо доўга снаваў падобныя да Майсеевых думкі: іх нагнала зьянацкае дасьледваньне „Змагара" і прыезд для гэтага Надзі Сідорчык.

Кропік ведаў гэтага таварыша ня менш за Васілку і быў аб ім добрае думкі. Ён чуў пра яе партыйны стаж і палітычную падгатоўку, пра яе начытанасьць і об'ектыўны падыход да кожнае зьявы і да кожнага чалавека. „Добра, што прыехала іменна Сідорчык", выводзіў старшыня колгасу, мяркуючы аб стрэчы з ёю.

Але ён ужо соп сьвежым жнівеньскім паветрам у абоймах мэндляў і бабак ярыны, а Надзя, здарожаная, толькі што прамывала заспаныя вочы.

— Вось спала, як пшаніцу прадаўшы; за цэлы тыдзень выспалася,—пахвалілася яна Майсею.

— А я лёг тады, як ты ўжо, напэўна, прасьніла першыя сны...

Было слушна расказаць Надзі пра ўчарашнюю стрэчу з Карпуком, але ў Майсея не знашлося на гэта настрою. Чаму? Ён і сам ня даў-бы адказу, хоць Сідорчык настойліва сказала:

— Цікава! У чым-жа справа?

— Будзе час і месца...

Спусьціўшы дзесяць хвілін яны пашлі ў сталовую.

## V

Прыезд Надзі Сідорчык у колгас „Змагар" стаў вядомы з самае раніцы: пра гэта расказаў прыходзіўшы ў стайню па коні Надзін вазьніца; як важную вестку перадаў Амельку Цырбуну, сябру бюро парт'ячэйкі і сакратару комсамольскай ячэйкі, Міхасю Дзянцу, актывісту партыйцу і Язэпу Міклашэню сам старшыня колгасу. Кропік заінтрыгаваў „госьцем" і гаспадыню сталовае, вялеўшы той падгатаваць Сідорчык сьнеданьне. Нарэшце ўгледзелі прадстаўніка райкому ў Васілкі на ганку ўсе тыя, хто ў час, калі яна мылася, ішлі на агароды, у абору і па ваду. Гэта зразу расцэнілася, як нязвычайнае здарэньне і водлуг сваёй важнасьці выклікала адпаведныя па цікавасьці гутаркі. Казалі аб перабудове колгасу ў саўгас і аб пераводзе колгасьнікаў на палажэньне заводзкіх рабочых; гаварылі пра магчымую чыстку „Змагара", пускалі чуткі аб дадатковай лічбе на хлебаздачу і, болей усяго, ішлі дагадкі пра „суцэльную"

рэвізію. Пад „суцэльнай“ рэвізіяй разумелі вывучэньне гаспадарчага становішча колгасу і праверку суладнасьці ў рабоце паміж сакратаром ячэйкі і старшынёю колгасу. Складаліся на ўсе лады прозьвішчы Кропіка і Васілкі, выцягаліся з забыцьця ўсялякія ўпушчэньні, недагляды, супярэчкі. Комэнтаваліся складзеныя на працягу гадзіны—другое нябыўшыя пастановы ячэйкі, не існаваўшыя яе пляны ды конфлікты паміж адказнымі партыйцамі. Зажаўцела на языкох славутая пшаніца—лядоўка, пушчаная ў лягенду Лукашом Беразаком. Беразак злараднічаў па адрасу Карпука Кропіка, праракуючы яму нялёгкае ад прыехаўшай раёнкі.

Партыйцы і комсамольцы расцэньвалі па своему прыезд Надз Сідорчык. Многія былі ў курсе справы, поўнасьцю орыентуючыся ў складзеным у „Змагары“ становішчы. Тое, што адбылося, павінна было адбыцца. Шурпатасьці ў адносінах паміж Васілкаю і Кропікам, нязначныя і дробныя па сутнасьці, выраслі ў хваравітае зьявішча, даволі шкоднае для справы разьвіцьця гаспадарчага ўмацаваньня колгасу. Абое як сакратар ячэйкі, так і старшыня колгасу цьвёрдыя бальшавікі і адданыя справе таварышы, тым ня меней зайшоўшыя паміж сабою ў некі недарэчны тупік, з якога як найхутчэй трэба іх вывесьці. Кропік маласьць апусьціўся, астыўшы ад ранейшай палкасьці і парываў, а Васілка так-такі недапусьціма памякчэўшы ў адносінах да падкулачнае групкі колгасьнікаў. Ячэйка не магла аставацца абыякавай і не давясьці да ведама райкому. Цяперака-ж...

Некалькі варыяцый чутак, што хадзілі сярод колгасьнікаў, Майсей пераняў, забегшы па дарозе ў сталовую, у канцылярыю колгасу і перадаўшы іх Сідорчык за сталом.

Надзя занатавала іх сэнс у неадлучным блёк-ноце.

— Гэта ня шкодзіць,—заключыла яна.

Майсей цалкам ня быў згодзен з яе заключэньнем, але і гэту тэму палічыў лепшым адкласьці на потым.

Знайшліся і іншыя мотывы: ужо дзявятая гадзіна ступіла на дзядзінец пакарочанымі ценямі і повеям цёплага ветрыка—раз, падругое—ня варта было перашкодзіць Сідорчык астацца для вырашэньня тых ці іншых пытаньняў аднэй.

Майсей пакінуў Надзю ў сталовай і пашоў запрагаць коняй—ехаць зябліць. І з гэтым ён так хутка ўправіўся, што Сідорчык толькі пасьпела перагаварыць з гаспадынею сталоўкі і, перайшоўшы ў канцылярыю колгасу, задаць рахункаводу Дзянцу першае пытаньне аб расцэнках на працу, як стукат калёс параконнай падводы адцягнуў яе ўвагу на дзядзінец. То рысьсю праехаў Майсей Васілка ў бок пагону; блішчастыя лемяхі плугу адбілі пару зайчыкаў, скочыўшых на пачарнелую сьцяну канцылярыі. Хвілінаю пазьне. Майсей у весьніцах сустрэўся з некалькімі поўнымі аўсу вазамі, якія на некі час спыніліся. Да Надзі данясьлася ў адчынетае вакно наступная гутарка:

— Падсохла збожжа?—спыніўшы коні, запытаў Майсей пярэдняга вазака.

— Не якраз, таварыш сакратар,—адказаў сярэдніх гадох мужчына:—На іх чэмярыца, на іх, узялі і не павярнулі ранічкаю снапоў. Ужо хіба на азяродзе расставім. Дай ты рады, распусьнікі, нядбайнікі.

— Хто-ж мусеў дагледаць?—перапытаў Васілка, значна гульчэй.

— Ласьне знойдзеш цяпер вінаватага? —Яська Чапец браўся ўмеркаваць гэта, а ці спрабаваў зрабіць—не скажу...

— Ах, таварышы-ы... колькі вам не кажы і... а вы-ы... Не кладзіце-ж хаця, Саўка, мокрага ў стаўпы...

— Хло-апцы!—гукнуў той, каго Майсей назваў Саўкам:—Спыніцца-а каля аборы! Канцавое слова выгуку заглухла ў грукаце калёс рушыўшых падвод.

Дзянцо паглядзеў на Сідорчык: яна кіўнула некалькі раз галавою і правяла гэта нявыразнай ухмылкаю.

— Дысцыпліна церпіць, відаць?—абярнулася Надзя да рахункавода, які адхіліўся ад вакна і пачаў выказваць свае меркаваньні на гэты конт.

Сідорчык зрабіла гэта ўсьлед за Дзянцом, адняўшы ўзрокі ад пагону, а думкамі праводзячы Васілку да месца яго працы.

Было-б ня лішнім паглядзець, як у яго руках ідзе плуг і ці слухаюць сакратара ячэйкі пудкія коні. Але Дзянцо адцягнуў яе ўвагу на другое. Гэтым часам Майсей апынуўся на паскароджаным полі і пры першай спробе запусьціць плуг, стрэўся з новым прыкладам чыёйсьці нядбайнай працы. Ён раззлавана спыніў коняй і прайшоў некалькі сажняў управа ад сьценкі: ў вачох зарабацілі тоўстыя груды зямлі, не разьбітае баронамі і часта пасеянае каменьне. „Эх-жа і праца, рукі паадбіваць мала!“ вылаяўся сакратар ячэйкі ў пазалочанае сонцам паветра, колеру старога херэсу. Пяток буйных каменьняў апынуліся ў яго на бярэм'і хутка забразгалі ў кучы раней падабраных і паскіданых на прысьценьні. „Вырасьце ім жыта—дуля з гарбуз, а ня жыта!.. Між тым Карпуку быццам бы і ня ўцям,..Пасадзілі га тутуню, таксама на гэткіх грудах, дзе каліва ад каліва на вярсту, а сьледам—калі ласка тое-ж і на азіміну“.

Ён вярнуўся да коняй і крутнуў над імі ахвосьцем пугі; націснуты на дзяржаньні плуг улез у зямлю і забарашчаў аб каменьні, падганяючы пару здаровых коняй, якім ня так ужо і цяжка было цягнуць плуг. Майсей нэрвова ківаў галавою і меркаваў і пра ўзьняцьцё працдысцыпліны на большую вышыню; пры гэтым ён ня мінаў папікнуць Кропіка і сябе, Амельку Цырбуна і ўвесь партыйны, комсамольскі і непартыйны актыў колгасьнікаў. „Ці не пара прывучыцца па-бальшавіцку шанаваць сваю гаспадарку? Трэці-ж год ужо вядом колгас, а ніяк“...

Майсей прайшоў першую прадоўжную баразну і хацеў павярнуць на нераточную, як угледзеў на адлегласьці ганоў двух коньніка; той ехаў лёгкай рысьсю праўцом да яго. Коні натапырылі вушы і сівы паслаў у прывітаньне рэзвы покат рогату.

„Карпук?" паведаміў уголас сакратар ячэйкі і апёрся рукою на плуг, чакаючы старшыню колгасу. Кропік пад'ехаў весь запылены з падгарэўшым тварам; прывітаўшыся з Восілкай, запытаў:

— Даўно зябліш?

— Во, бачыш, пакуль магу пахваліцца толькі аднэю баразною. Пацікаўся, як забаранавана!—абвёў Майсей пужальнем дугу ў паветры і ткнуў вялікім пальцам нагі ў бліжэйшую груду.

— Ліха ведае што,—разьвёў рукамі старшыня колгасу:—хоць бяры ды пускай яшчэ раз пружыноўку.

— Ды ўжо лепі зазябліць... Хто тут баранаваў?

— Запытаю Міклашэню—ён павінен ведаць... Падаслаць падмогу плугоў з пару?—іншым тонам запытаў Карпук у Майсея.

— Калі ня многа асталося вазіць...

— Вазіць-жа нямнога, але,..

Кропік азірнуўся на поўдзень і з хвіліну выглядаў алавяную палосу хмары, якая роўнаю лініяй, падзалочанай раньнім сонцам, вісела над прыцёмненым лесам.

— Баішся дажджу?

— Прыпарвае... Калі ўздымецца хмара, кідай зябліва і прыяжджай па авёс...

Кропік прыцісНуў абсацам канёва падчарэўя і тузануў за ўздэчку. Чырвоны рвануўся іці, але пачуў, што гаспадар нацягнуў рам'яні і выгнуў шыю крутою дугою.

— А рэвізарша дзе?—чуць павярнуўшы галаў да сакратара ячэйкі суха запытаў старшыня колгасу.

— Рэвізуе!—тым-жа тонам адказаў Майсей і пагнаў коні.

— Яшчэ з Беразаком не сустракалася?

У Кропікавым голасе выразна прагучэла вострая іронія.

— А ужо запытаеш яе, сустрэўшыся... Рупіць?

Кропік не дачуў Майсеевага адказу: ён той-жа рысьсю памчаўся ў бок жанцоў. Восілка паглядзеў на поўдзень і аддаўся зябу.

Ён з запалам, не адрываючыся ад плуга, зазябліў добрую чвэрць гэктара пакуль праканаўся, што хмара не абміне змагарскіх палеткаў. Пачасьціла бліскаць маланка і глухаваты аддалены гром раптам наблізіўся чуць не да самага зэніту.

Майсей хутка выпраг коняй з плугу, запрог у драбіны і паскоранай яздою накіраваў па сьлядох Кропіка. Яго апошні сказ скроб расхвалёванае нутро ўразьлівага да кожнага слова старшыні колгасу чулага Восілку.

## VI

Дождж не разышоўся: пакрапіўшы буйнымі рэдкімі каплямі, ён хутка сьціх, быццам назнарок прасыгналізаваўшы колгасьнікам трывогу. Тыя ня былі захоплены непадгатаванымі і не даліся сораму. Бліскавіца з громам, яшчэ затуленыя сьцяною лесу, ужо справодзілі разварушанае завіханьне каля снапоў і просту кінуўшых сярпы жняцоў. Жоўтыя дарожкі просту, як палоскі парчы, спрытна рваліся на часткі і абварочваліся ў важкія снапы. Іх падхоплівалі другія рукі, складаючы рады мэндляў і бабак.

Плянаваньнем работы займаўся Карпук Кропік і Амелька Цырбун, які да гэтага першым сярод ручных жанцоў гнаў свой захоп жніва. Яны абое лічыліся спрытнымі і дападкімі гаспадарнікамі і маглі даць вочка любому ў любым працэсе сельскагаспадарчай работы. Майсей Васілка яшчэ з воддалі прыкмеціў, як старшыня колгасу увішліва круціў перавяслы і спрытна падаваў зьвязаныя снапы свайму пабочніку, Амельку Цырбуну, а той ёмка будаваў з іх пукатыя, як свахі, бабкі і крыжавыя мэндлі. Сакратар ячэйкі чуў з Карпуковых вуснаў далятаўшыя к яму распараджэньні, якімі той наводзіў струну баявых тэмпаў працы; у такту яго выгукам, было відаць, рытмічна хісталіся прыгнутыя постаці жняцоў і пад'ехаўшых вазакоў, лебядзінымі крыльлямі раздымаліся азрэбленыя рукі, зьвязваючыся ў конвэерны пас, па якому беглі снапы і копы зжатага аўсу ў бабкі, а падсушанага—як напуджаныя буслы, на вазы. Вазы ўвачавідкі расьлі ўгару і пукацелі ў бакі, пераганяючы сваёй вялічынёй перш бабкі, адаля і сялянскія дробныя хаткі.

Майсей завярнуў да падвод і спыніўся ў чарзе за сёмай пара-конкай, запрэжанай у раскідзістыя кары. Плуг хутка апынуўся ў мэндлі, а на яго месца пачалі ўкладацца аўсяныя снапы. Развой працы магутнай сілаю ўцягнуў сакратара ячэйкі ў свой вадакрут, паставіўшы яго новай шрубкай у жывую конвэерную машыну. Ён размахваў рукамі, угінаўся ды вярцеўся, зусім забыўшыся пра паднесеную Кропікавым сказам кусьлівую прыкрасьць. Перад Майсеем тут, во, на фоне суладнай, разгойданай, прасякнутай агульным настроем і супольнымі заданьнямі колектыўнай працы, старшыня колгасу выглядаў перавыбражаным, зусім не падобным да таго, з якім даволі няміла і холадна даводзіцца сакратару ячэйкі гутарыць і вырашаць колгасныя справы. Тыя факты і выпадкі, да якіх апэляваў звычайна Майсей Васілка ў перадумах прычын і скуткаў сухіх парадаў і нявырашаных пытаньняў з Карпуком Кропікам, у гэтыя хвіліны да таго памізарнелі, з гор перавярнуліся ў гарошынкі, што нават сорамна рабілася іх успамінаць. Нават болей усяго прыкрыўшы Васілку інцыдэнт з-за жонкі-і той браў інакшы наварот і выгляд, ценявым бокам датыркаючыся Алены Якаўны, а зусім не старшыні колгасу, яго, Майсеевага таварыша і супрацоўніка, вось гэткага руха-

вага работніка і, як-ніяк, дбайлівага гаспадара. Каб ды Карпук зьмяніў крыху сваю амбітную натуру ды сваю хваравлівую каразьлівасьць, каб адкінуў некаторыя дзівацтвы і пераняў хоць-бы ад Амелькі маладую нязлосьлівасьць, тады б... Тады-б, уяўлялася Майсею на ходу працы, можна было-б прыці да ладу, пагадзіцца і павясьці работу ў „Змагары"... ды якую спорную работу! Бо на-ліцо гэтулькі магчымасьцяй, такія роўныя, прасторныя шляхі, столькі багатых рэсурсаў, сьветлых пэрспэктыў... і ня было-б лішніх чутак і размоў, і ня прыехала-б Надзя Сідорчык, якой бязумоуна хтосьці няправільна абрысаваў яго, Майсееву, ролю ў заблутаньні становішча ў „Змагары". Не набыў-бы, бадай, таго значэньня Беразак з сваімі гутаркамі ды нашэптамі, і нявінны Міклашэня з пшаніцаю, і...

— Кон-нча-анна-а! — выляцеў зычны расьцяжны сыгнал з Кропікавых вуснаў і абарваў баявую зарадку сьпешлівай працы. Ды ўжо яна не адпавядала пагодзе: цёмная хмара асядала за ўзвышша на поўдні-захадзе, заглушаючы грамовыя гукі і засланяючы выблісноўшым сонцам пабляднеўшыя маланкі. Пара было пераключацца на новыя функцыі: варочацца да жнівяркі і да сярпоў, адаслаўшы накладзеныя падводы ў колгас.

Старшыня колгасу праверыў наяўнасьць незжатага аўсу, закелзаў чырвонага і пакінуў і жанцоў і вазакоў. Чамусьці ён нічога не сказаў сакратару ячэйкі, хоць з Амелькам Цырбуном перакінуўся некалькімі словамі. Гэтага выстарчыла на колкі дакор, які знашоў сабе месца ў Майсеевым нутры, ізноў зацягнутым флерам разуверра ў Кропікаву таварыскасьць.

— Наш старшыня ўсё нешта дзьмецца,—паскардзіўся сакратар партыйнае ячэйкі сакратару ячэйкі комсамольскай, які падышоў пасабіць Восілку завязаць воз.

— З чаго ты ўзяў?—проста запытаў Амелька Цырбун.

— Няўжо табе ня відаць?

— Чаму ня відаць—я ўсё бачу, лепш было—б ня бачыць...

— Ты, пэўна, як і Сідорчык, адмоўнага на мяне погляду.

Амелька спрытна карабкаўся на воз, азіраючыся на пастаўлены дубам рубель.

— А чаму ты западозрываеш мяне ў гэтым? На якіх падставах? Калі хочаш ведаць, я... ды весь наш комсамольскі актыў... дужа незадаволены становішчам, якое склалі твае з Кропікам недарэчныя адносіны. Я табе скажу, Майсей, той-бы ня быў бальшавіком, хто-б не рэагаваў на нашы ненормальнасьці і не паставіў-бы аб гэтым у ведама райком... Папіхні яшчэ рубель! Т-так, так! Закідай вужышча з боку.

— Дастаў?.. Значыць, па твоему, ва ўсім мая віна, Амелька?. Націскаць?

— Таварыш Сідорчык, калі об'ектыўна падыдзе да справы, зробіць свае вывады... Яшчэ націсьні! Апусьці крыху вяроўку з пераду! Т-так, так!

— Ты пацьвярджаеш?—расхвалёвана паслаў Майсей чарговае запытаньне сакратару комсамольскай ячэйкі.

Але яно не дайшло па адрасу: і не таму, што Восілка выказаў яго седзячы на вяровачнай пятлі, з вагнутай пад іспод накладзенага возу галавою, а з прычыны няпрыметнага астаўленьня Амелькам возу і ўзвароту да сярпа.

Майсей выявіў гэта, калі падвязваў рубель і адышоўся крокаў на пяць праверыць раўніну воза: на версе нікога ня было, і Цырбуноў сваяасаблівы альтавы голас тучэў у шэрагу сагнутых жняяцкіх сьпін, як перапёлка ў гушчыні збожжа.

Амелька старанна махаў сярпом, наганяючы сваіх пабочнікаў: яны ўцяклі ад яго за час увязкі Майсеевага воза і зараз паджартоўвалі над Цырбуном, які жменя за жменяю наганяў апярэдзіўшых яго. Жніво давалася яму не цяжэй за ворыва і з сярпом ён спраўляўся адмыслова. Рухавы і пёрсткі, як ласіца, Амелька Цырбун не саромеўся ня толькі жаць з жанкамі, а і палоць лён і грасаваць грады. Ня здарма яго імя красавалася ў пярэдніх радох ударнікаў, як старасты ўдарнай комсамольскай брыгады.

— Наганяеш?—кінуў яму запытаньне Майсей, прыпыніўшы коняй і цешучыся з Амелькавага завіханьня.

— Чаму-ж? Ласьне мне аднаму тут пахне густым кісялём? Ня ведаю, як хто, а я ўважаю спажыўную аўсяную крупку і тлустае рассыпчастае талакно. А, пачуй, во як звоняць яго зёрны? Гэта-ж свае, колгаснае, а ня панскае, ня кулацкае—свайго я ніколі ня жаў—словаахвотна нагаварыў Цырбун.

— Праўда, дарагі таварыш, праўда...

Далей пачуцьцё ўцехі не дазволіла казаць, і Майсей тузнуў лейцамі. Яму так весела было везьці вагромністы воз колгаснага аўсу!

## VII

Да шостае гадзіны дню Майсей Восілка пяць раз зьвярнуўся ў поле, пакінуўшы зяб на другі раз і за кожным завозам наведваў кватэру. Пасьля абеду, напэўна, Надзя Сідорчык заходзіла ў пакой, бо кніжкі з стала перабраліся на вакно, пад якім стаяла канапка, але дзьверы заставаліся акуратна запёртымі. Цікава, якім мэтодам яна вядзе свае досьледы? Напатканы пры калодзезі Міхась Дзянцо паведаміў, што прадстаўніца райкому прагутарыла з ім амаль не да абеду, нават яны разам паабедалі, а далей ён Сідорчык ня бачыў. Напэўна яна папершае, як аб тым прызнавалася Дзянцу, перш усяго пазнаёміцца з нярухомай маемасьцю „Змагара“ і наведае кватэры некалькіх колгасьнікаў.

Пад якім кутом погляду ішла ў Дзянца гутарка з Сідорчык, Майсей палічыў лішнім дапытваць і паехаў па чарговы воз аўсу. Ён вярнуўся адвячоркам і ахвяраваў яго на падпас коні: звоз кончыўся, а ворыва пачынаць было позна.

Гэта ўрывала долю працоўнага дня, так ашчаднага на рабочую сілу, ды ўжо ня варта было з-за двух-трох баразён ганяць у возе лішні раз даволі патомленых коняй. Чаму ня вылучыць ім крыху хоць няўрочнага папасу?

Па дарозе ў Падгор'е і заняты прыпонам коняй ён абмяркоўваў пытаньне з рабочаю сілай у колгасе. Людзей, вочавідкі, не выстарчала на сваячасовае выкананьне працы. Гэта вельмі моцна адчуваецца ў прыпар, у жніво. Будзе спазьненьне і далей—чаго хаваць. Малацьба, сяўба, выбарка ільну, бульбакапаньне... Між тым у іх з Кропікам няма канчатковай дагаворнасьці. Колькі разоў не ўздымалася гэта важнае пытаньне, але з-за іх несуладнасьці ячэйка ня прышла да адзначанага рашэньня. І толькі, дзякуючы ўмацаваньню Цырбуновай ударнай брыгады, пакуль ня выявілася вялікага прарыву. Усё-ж ня гледзячы на героічныя тэмпы ўдарнікаў, гэтых мерапрыемстваў ня досыць... Патрэбна...

— Прабач, Майсей Хлёравіч!—прагучэў над Восілкай асьцярожлівы голас Беразака.

Майсей кінуў уганяць калок прыпону і падняў вочы ўгару: каля Беразака стаяла ваткнутая ў зямлю каса, адбіваючы сабою пачырванелы сонечны промень. Рука старога, з абверчаным у брудную анучку сярэднім пальцам, трымала аблезлы казырок старое, колеру абветранае зямлі, шапкі. Расшпілены адкладны каўнер прапацеўшай кужальнай сарочкі агаляў Лукашовы шырокія, зарослыя рудым валасеньнем, як сухою мятліцаю, грудзі. Космы дэрэшавачае барады хавалі сабою кароткую, пабабленую маршчынкамі і ўпыленую шыю. Падвязаныя палопаным на вузкія рознакаляровыя палойкі поясам грубыя шарачковыя ў вакенцы порткі былі нядбайна дагледжаны ў поясе, выпускаючы з-пад сябе падол сарочкі. На левым Беразаковым плячы вісела на вяроўцы апаражненая баклажка.

— Калі ласка, дзядзька Лукаш, калі ласка... Вы-ж адкуль гэта? Жалі што, ці?..

— Дажынаў з Дзяруновічавымі крыху ячменю пад грушкамі... Падсьпяваў... Копак са тры наскублі... Э! Куды той ячмень! Куколь адзін ды асот... Да гэтага, відаць, Дуднік Лазар, прытоўк гавядай і... Таксама і жнецца ня гэтак, як трэба... як маглося-б жацца, каб тая хенць чалавеку...

Майсей ускочыў, як на вызаў і ўстрэмленым узрокам пракалоў загараны, яшчэ пашкоджаны маршчынамі Беразакоў твар.

—Дзівішся, таварыш Восілка? Няма чаго дзівіцца ў нашым палажэньні. Раней, хто таго ня бачыў, я іначай працаваў, а цяпер...

Ён падняў шапку і выцягнуў пальцам з-пад казырку густую палойку доўгіх кос.

— Чаму вы, дзядзька, так дрэнна настроены?—дагадваючыся аб Лукашовых думках, запытаў Майсей.

— Гаспадар у нас ня-людзкі... ня той што патрэбен нашаму „Змагару“ гаспадар... Быць-бы на старэннага і дбайнага чалавека—наш колгас абагнаў-бы ўсе іншыя... Гэта-ж, таварыш сакратар, такая ў нас адмысловая зямля, столькі ўдоб'я, а лугоў, а... Між тым... успомні, што нарабіў Карпук у леташнім годзе... Цябе яшчэ ня было як ён зламаў першы зуб на гародах: засеялі ў Падлесьсі гектараў са тры тутуню ды так і пакінулі—хоць-бы пакрапіць калі ў гэткую сухавею, дык не-э... І ўсе тры гектары, як вадою змыла—ні зялінкі я табе кажу... А восеньню, як табе вядома, ільняная гісторыя, сілосная... Дый што казаць... А сёлетнія гароды... сёлетні тутунь—лепшыя? Ня той, нябожа, пастаўлены да гаспадаркі, хто трэба... Ведаеш... Хлёравіч,—Лукаш зьнізіў голас на шэпт:—каб на яго месца цябе... Мы, старыя колгасьнікі, ужо даўно падмецілі твае шчырае стараньне над колгасам, тваю гаспадарскую сьмікалку, і кажам паміж сабою: старонецца Майсея Хлёравіча, ня так яно як трэба. І навошта нам гэта рэвізыя—сорам гэты, навошта?..

Лукаш уваходзіў у смак, меручыся праказаць Майсею цэлую прамову, відаць, загадзя надуманую. Але дазволіць сабе яе выслухаць Васілка не рашаўся нават і пры гэткіх сьведках, як коні. Беразак расьперазваўся на ўсе дзіркі, чаго нельга было яму дазволіць пры ўсёй мяккасьці да старога, і Майсей перш сарваў працяг яго гутаркі водбегам на перапон коняй, а пасьля чарговасьцю свайго слова.

— Чакайце толькі, дзядзька Лукаш, чакайце... Вы пачалі зусім іначай гутарыць... Вось іменна, чаго вам дагэтуль няможна было ўпікнуць за дрэнную працу, або за зрыў яе, тое цяпер намульваецца. Незалежна ад вашых скаргаў, мы лічылі вас старанным работнікам. А гумно і поле, конь і карова—ці-ж вы адны з імі рассталіся? Або, думаеце, ніхто ня ведаў, што вам гэта самае пісалі вашы сыны?

Лукаш быццам зьбянтэжыўся і недаверна паглядзеў Майсею ў вочы.

— Давайце, пойдзем...

Майсей рушыў з месца першым.

— Значыць мая няпраўда? А я дапускаў, што Майсей Хлёравіч бліжэй мяне зразумее, ніж наш старшыня...

Васілка ведаў, што агітацыя Беразаку мала абыходзіць, але яму шкада было рэзкім словам раз на заўсёды асадзіць старога колгасьніка. А можа дзядзька Лукаш пераменіцца? Можа кіне сваю няўтрапёнасьць і спакойліва ўвойдзе ў каляіну сталага працаўніка? Паадрыгалася трэха старое і, вось, яно пройдзе, забудзецца: Беразак, чаго добрага, стане ўдарным колгасьнікам.

У гэткую схэму складаліся Васілкавы думкі і погляды на закаржэлага варчуна Лукаша Беразака, які не на вецер кідаў сваімі няпрызнымі да „Змагара“ і да яго старшыні словамі. І тут менавіта знаходзілася тое ўразьлівае месца, аголенае для ўскрыцьця накіраваных на яго

ўколаў, якога сакратар ячэйкі не даваўся заўважыць і праз гэта ня мог затуліць бранёю клясавае чуткасьці.

Хітры і пранозаваты Лукаш Беразак заўсёды, як на пэдаль, націскаў з гэтага боку на Майсея Восілку.

— Вы передумайце, дзядзька Лукаш, свае вывады, і яны для вас пакажуцца няправільнымі і безгрунтоўнымі... Мне думаецца...

Майсей заўважыў, як з стайневых варот вышла Надзя Сідорчык; ён перапрасіў Беразака і гукнуў:

— Ттаўва—рыш-ш Сідорр-чы-і-к!

Надзя абярнулася на вокліч і паківала Восілку рукою. Майсей забыўся пра Беразака і крануў іці да раёнкі. Зрабіўшы некалькі крокаў, ён апамятаўся, што ўсяго не дагаварыў з дзядзькам Лукашом і азірнуўся: той ужо схаваўся за будынкамі, накіраваўшы да сябе па загуменьню.

— А-а... тым і лепш,—матнуў Восілка рукою і хутка апынуўся каля Сідорчык.

— Рэвізуеш?—пажартаваў ён.

— Няхай будзе так... Тым ня меней, пакуль скаргі маю нямнога. Дагледжана... можа і ня зусім дасканала, а добра.

— Аглядала будынак стайні?

— Не, сказала вазьніцу, каб ехаў назад...

— Значэ трохі пагосьціш у нас?

Іроніі схаваць было нельга, і Сідорчык адказала на яе чуць прыкметным кіўком галавы.

— Затрымоўвае не „Змагар“, а яго кіраўнікі.

— Ляпей скажы—Майсей Восілка.

— Не без яго ўдзелу.

— Бачыла Кропіка?

— Сустракаліся.

— Нябось ахарактарызаваў мяне як належыць?

— Абое-рабое, пераказваю... Што вы, жалезца не падзялілі?

— І ты на мяне... Таварыш Цырбун, Дзянцо—тыя пад Кропікаву дудку, ну, а ты?...

— Кінь, таварыш Восілка. Ты-ж не з учарашняга бальшавік і сакратар ячэйкі, а ня чуж нейкіх сэнтэнцый.. Вось слухай—мы ўмовіліся склікаць вечарам аб'яднанае паседжаньне ячэек—ты не супярэчыш?

— Ні ў якім разе—вельмі добра...

Наступных хвілін пяць, ідучы на кватэру, Майсей маўчаў: таварыш Сідорчык не хацела выдаць яму аттэстату на яго поўную нявіннасьць у адносінах з Кропікам. Што-б гэта адзначала? Хіба льга з гэтым пагадзіцца?

Ён ужо на парозе ў пакоі разьняў вусны для працягу каразьлівай яму гутаркі, ды Надзя Сідорчык пераняла яго запытаньнем:

— У чым справа, што запазьніліся пусьціць малатарку?

— Зломкі... Спадзяваліся, што сваячасова прыбудзе з Менску чырвоназорная, ажно... Ну, і бюрократызм, ведаеш ніякага клопату, каб пасьпяшыць з высалкаю. Вырашылі пусьціць старую .. Дзён пяць ужо рапартуюць...

— Жыта многа павінны здаць?

— За пяцьсот пудоў... На добры лад ужо трэба было-б адсылаць, а вось, запазьніліся. Па праўдзе сказаць і я тут назіраю замаруджаньне з Карпуковага боку: будучы ў Менску...

Стук у дзьверы перабіў Майсея: ён адчыніў і, нечакана для сябе, сустрэў за парогам старшыню колгасу.

— А-а? Добры вечар!—прывітаў Майсей Кропіка.

— Так, не аглядзеўся, як і вечар...

У пакоі віўся шэры змрок, скрадаючы нарысы Надзінага твару.

— Хтосьці ўжо маецца?

— Таварыш Сідорчык.

Майсей захадзіў з лямпаю, а Карпук моўчкі сеў каля вакна і разгарнуў яшчэ не разрэзаную кніжку Галавача „Спалох на загонах". Некалькі цытат ён схапіў на ляту і апавяданьне адцягнула старшыню колгасу ад сапраўднасьці. Карпук ужо прабягаў апошнія радкі старонкі і выпрастаў палец, каб засадзіць у неразрэзаны ліст, як пачуў ад Надзі запытаньне:

— Дык ты кажаш, што малатарка пазаўтра пойдзе?

— Можа і заўтра: устаноўка ідзіме напруджаным тэмпам... Цікавая ведаеш, аповесьць... Галавач паказаў паміж усім іншым.,.

Карпук прытуліў вуха да вакна і настаражыўся.

— Ладзяць, нябойсь во... Гэта здольны твор, хоць зразумела з некаторымі недахопамі. А з уборкаю кончыцца латва?—увязала абедзьве тэсы Сідорчык у адно.

— Тугавата, але мусім налегчы...

Майсей павярнуў галаву туды, дзе сядзеў Карпук і натапырыў вушы. У іх уляцелі пачутыя гукі некалькіх колгасьнікаў-партыйцаў, якія накіроўвалі на сход.

## VIII

Бяз чвэрткі дзевяць Майсей Восілка падлічыў прышоўшых і запрапанаваў пачынаць сход. Ніхто не пярэчыў і аднагалосна абраны старшынёю сходу Восілка прачытаў складзеную перад гэтым павестку дню: яна была кароткая, усяго з двух пытаньняў: „Даклад прадстаўніка райкому т. Сідорчык" і „Бягучыя справы". Пад апошнім пунктам ня мелася конкрэтнае тэмы, і другое пытаньне занесьлі ў павестку болей на ўсякі выпадак.

— Дадатку і зьмен ня будзе?

Атрымаўшы адказ, Майсей падаў Хведару Рэжку паперу і паказаў яму знакам, каб вёў пратакол. Тут-жа ён праказаў:

— Даецца слова для дакладу т. Сідорчык.

Надзя стала ў куток за сталом і пачала гаварыць. Яна ў кароткіх словах, з частымі паўторамі цэлых сказаў, паведаміла сход аб мэтах свайго прыезду і заклікала таварышоў партыйцаў ды комсамольцаў пасадзейнічаць у паўнейшым выкананьні ўскладзеных на яе райкомам заданьняў.

У наступным тэзісе свае прамовы Сідорчык спынілася на сучасным становішчы колгаснага руху ў рэспубліцы, адмеціла яго рост і замацаваньне. Далей яна ахарактарызавала, як шкоднае зьявішча, пранікшыя ў некаторыя колгасы месьніцкія тэндэнцыі, заклікала рашуча змагацца з тымі таварышамі, якія паспрабуюць стаць на гэты антыпартыйны шлях, і, нарэшце, перайшла да ўнутрыколгасных спраў. У Сідорчык ня было досыць даных, каб з імі можна было поўнасьцю орыентавацца ў становішчы „Змагара" і ў працы колгаснай ячэйкі. Але яна ўжо сумела сабраць матэрыялу настолькі, што з ім льга было абараняць сваю ўстаноўку і свае вывады.

Пра гэта Сідорчык не забыла папярэдзіць сход.

„Я не прэтэндую, таварышы, на вычарпальны даклад: мне цяжкавата рабіць абагуленьні на падставе тых фактаў, якія маюцца ў маіх руках",—папярэджвала прадстаўніца райкому.—„Усё-ж некаторыя матэрыялы ў мяне ёсьць і яны мне даюць права на мае заключэньне... Што датычыць уплыву ячэйкі на колектыў колгасьнікаў—ён наглядаецца і даволі ў значнай меры. Пра ячэйку вы пачуеце нават ад моцна адсталага Віктара Бубеля: ён з павагаю гавора пра яе пастановы... Але ячэйкавы аўторытэт мае ў сябе слабае мейсца, і гэта ізноў-жа ў стасунках паміж сакратаром ячэйкі і старшынёю колгасу. Ня думайце, таварышы, што народ у „Змагары" палітычна няграматны, што ён не зацікаўлены вашым кіраўніцтвам. Будзе буйнай памылкай недаацэньваць і не даўлічваць яго пільнай чуласьці і ўсебаковай расцэнкі кожнага вашага ўчынку. Вашы слабыя мейсцы на воку ў кожнага колгасьніка. І той, каму трэба скарыстаць ваш недагляд ці пераацэнку, вашу памылку супроць ячэйкі або колгасу, той пільна сочыць за любым з вас. „Змагар" запісаны ў шэрагі перадавых колгасаў нашага раёну і тым большая адказнасьць ускладаецца на яго кіраўніка і на партыйны актыў. Між тым ёсьць адзнакі, што сярод змагарнікаў варушацца шкодныя, варожыя нам элементы. На іх нельга заплющчваць вачэй. Вашы посьпехі ў замацаваньні колгасу адыгрываюць вагромністую ролю ў справе агітацыі за ідэю колектыўнае гаспадаркі... Ці трэба вам пра гэта дапомніць? Лік прынятых вамі за мінулую вясну ў „Змагар"—яскравейшае таму сьведчаньне. Не забывайце-ж аб суладнасьці і шчыльным адзінсьцьве вашых шэрагаў. Дайце па руках таму, хто заганяе клін у адносіны паміж асобнымі таварышамі. Бліжэйшым заданьнем ячэйкі налегчы на тое, каб разрэдзіць атмосфэру. Больш клясавае пільнасьці!"

Прамова прадстаўніцы райкому зрабіла моцнае ўражаньне на ўвесь сход, які актыўна прыняўся за яе абгаварэньне. У спрэчках выказалася да дзесятку таварышоў. Становішча ў „Змагары" падлягло ўсебаковай рашучай крытыцы, як рэдка траплялася дагэтуль. Выплылі на паверх усе ўпушчэньні і недагляды, зрывы і недахопы: іх знашлося даволі, каб даць страву гарачым, а, часамі, і завостраным нападам на Карпука Кропіка і на Майсея Восілку. Але рэдкі прамоўца імкнуўся апраўдаць ячэйку ў цэлым і сябе самога ў прыватнасьці. Крытыка ў іх вуснах абярнулася ў самакрытыку , у колектыўную праверку свае бальшавіцкае вытрыманасьці і клясавае сьвядомасьці; крытыка прыняла адбітак таварыскай споведзі. І няхай выбачаюць сакратар ячэйкі ды старшыня колгасу, што іх імёны часта паўтараюцца на вуснах выступаючых. На іх больш ускладзена адказнасьці і з іх больш вымагаецца. Дарэмных закідаў ніхто ня мае на воку—так, па крайней меры, запэўніў кожны прамоўца.

„Мы павінны вітаць прыезд да нас таварыша Сідорчык"—адзначыў у сваёй палкай прамове Амелька Цырбун:—„Бяз гэтага было-б многа цяжэй нам вясьці далей сваю работу. У нас, таварышы, пакуль ня так ужо і дрэнна—нельга так думаць—аднак і далёка ад належнага ды пажаданага.

Трэба казаць праўду і ня глядзець на асобы—то наш бальшавіцкі прынцып—становішча ў ячэйцы вымагае некаторага аздараўленьня. А калі ў ячэйцы, то і ў колгасе, зразумела. У гэтым наша ўсіх віна—я кажу ня з тым, каб разуверыць і апускаць рукі, я заклікаю паднімацца на вышэйшыя ступені. Ужо таптаньне на мейсцы ёсьць непапусьцімая адсталасьць і шкодлівасьць для справы. А таптаньне, таварышы, у нас назіраецца. І няхай выбачае мне таварыш Восілка, да яго гэта больш усяго накіроўваецца. Я ўжо казаў яму пра тое ў вочы і лічу ня лішнім паўтарыць, тым болей, калі мы сышліся для гэтага".

Хведар Рэжка адобрыў выступленьне прадстаўніка раёну і, сьледам за сакратаром комсамольскай ячэйкі, прывітаў яе прысылку райкомам. „Церце паміж нашымі правадырамі асабліва чуйна ўспрымаецца комсамольскай ячэйкай. Кожны комсамолец прыкмечае ў нас штосьці гэткае, што выразна шкодліва адбіваецца на ўсёй колгаснай працы. Няможна сказаць, каб тут мелася чыясьці злая воля, не. І таварыш Кропік і таварыш Восілка—чэсныя і адданыя справе партыйцы. Але гэтага мала: неабходна цьвёрдасьць і клясавая пільнасьць у дадатак, а іх не выстарчае, асабліва... таварышу Восілцы. Навошта дапускацца, каб па колгасу хадзілі гутаркі пра сябраваньне „дзядькі Лукаша" з сакратаром ячэйкі. З гэтым трэба раз назаўсёды скончыць. „Змагар" патрабуе чысткі, я скажу гэта адкрыта, калі дагэтуль маўчалі. І таварыш Сідорчык няхай гэта прадумае".

Далейшыя прамоўцы дапаўнялі і дэталізавалі Амельку Цырбуна і Хведара Рэжку, у огуле „згаджаючыся з папярэднімі та-

варышамі“. Усе яны сыходзіліся на важнасьці сёнешняга сходу, які павінен даць рашучы зрух ва ўсім жыцьці „Змагара“.

„Я цалкам далучаюся да ўсяго тут сказанага“,—цьвёрда заявіў старшыня колгасу, трымаючы прамову перад апошнім:—і поўнасьцю падзеляю думкі аб сваячасовасьці бягучых здарэньняў у нашым змагарскім жыцьці і працы. Тыя заўвагі, што адрысаваліся выступаўшымі таварышамі да мяне, вельмі карысны, і я іх прымаю, як дарады, як таварыскія ўказаньні, а зусім не як дакоры і закіды.

Нельга будаваць колектыўную гаспадарку з лёгкасьцю складаньня шаблённага зьместу ў звычайным ведамсцьвяным адносьніку. Гэта творчасьць і творчасьць вышэйшага характару, першы ў гісторыі прыклад. І мы не заштрахаваны ад міжвольных памылак, недаглядаў, упушчэньняў. Так, дарагія таварышы, я маю на воку толькі міжвольныя памылкі, бо сьвядомыя памылкі—то не памылкі, а шкодніцтва. Ня думаю, каб хто з вас западозрыў мяне з гэтага боку. А калі хто мае падозраньні—кажэце... Я-ж хачу запэўніць сход у цалку і прадстаўніка райкому ў прыватнасьці, што мятлічкі не сарваў з злачыннай мэтай. Тады-б я ня быў бальшавіком... Адно прызнаю ў сабе—гэта занадтую ўражлівасьць з прычыны той ці іншай няўдачы, або зрыву намечанага мерапрыемства, і гэтя ўражлівасьць адбіваецца на мне надыходам не ўласьцівай загартаванаму бальшавіку нэрвовасьцю. Гэта зьява апошняга часу і не скажу, каб яна абярнулася ў прыпісваны мне паасобнымі таварышамі опортунізм ці хныканьне; кожнаму об'ектыўнаму таварышу відно, што я не дарма абіваўся, а старанна выконваў волю партыі; з тым большым запалам я буду працаваць надалей“...

Ніхто не ўсумніўся ў Кропікавай шчырасьці і сход праслухаў яго слова з адпаведнай увагай. На твары кожнага ўдзельніка сходу была выпісана думка, якая казала: „Карпук гавора праўду. У ім жыве адданы бальшавік“.

Інакшай думкі трымаўся Майсей Восілка: ён прыняў Кропікаву прамову як папрок сабе. І толькі той, хто ня глядзеў на старшыню сходу, ня прыкмеціў яго хваляваньня. Восілка ня стрымаўся, каб раптоўным уздрыгам ня выявіць гэтага пры дапамінку Кропіка аб опортунізьме... Ён папярхнуўся і пачаў казаць на вельмі нізкай ноце, паступова ўваходзячы ў роўнавагу:

„Бязумоўна, што з мяне партыя павінна сыскаваць больш, як з кожнага з вас, таварышы: бо мне партыя даверыла кіраўнічую ролю ў нашым ячэйкавым і колгасным жыцьці. Я не магу і ня маю права ківаць пальцам на другіх, выбаўляючы і бароначы сябе. Толькі было-б несправядлівым, з майго пункту гледжаньня, грахі ўсіх звальваць на аднаго. А гэткія ўхілы можна адмеціць у некаторых з выступаўшых таварышоў: „Становішча ня дрэннае, але было-б лепшым, каб не Майсей Восілка“, праскоўзвала гэткая думка, напрыклад, і ў таварыша Кропіка. Я не без граху і мой грэх, зразумела, відней

з боку, усё-ж яго мерацца некаторыя на многа павялічыць... Выходзіць, бачыце, што я і адказных таварышоў трэтырую, і дапамагаю, (нават! слухайце адно!) Беразаку распаўсюджваць яго шкодныя думкі... Даруйце мне, таварышы, а гэта ўжо занадта... Магчыма і ёсьць мая віна ў тым, што я не паставіў сябе перад гэтым тыпам як належыць, але мне здавалася (і дагэтуль здаецца), што чорт не такі страшны, як яго малююць. А Беразак, калі і не абярнецца ў ангела—іх нам ня трэба—то чортам быць кіне. Чаму-ж перашкодзіць старому? Магчыма, што тут я і не зусім праў, магчыма, што я памыляюся... але, скажу словамі таварыша Кропіка, я маю сваей мэтай адно: карысьць нашай справе соцыялістычнага будаўніцтва".

У невялікай заключнай прамове Сідорчык адзначыла дзелавітасьць, з якою прайшоў сход, таварыскую самакрытыку, праведзеную ім і выказвала ўпэўненасьць, што яе прыезд нічога, апроч карысьці для колгасу „Змагар", ня дасьць.

Ёй зааплёдыравалі, пасьля з уздымным настроем запяялі Інтэрнацыянал, з якім вышлі на дзядзінец, аднак спроба Амелькі Цырбуна абгаварыць па дарозе ў сталовую некаторыя дробныя гаспадарчыя пытаньні колгасу не прыняла да нічога: і старшыня, і сакратар не знайшлі на гэта ні часу, ні ахвоты. Дзелавое асталося на заўтра, уступіўшы месца вясёлай бесклапотнасьці і таварыскай пацесе праз усю расьцягнутую на паўгары гадзіны вячэру.

## IX

Чырвонае раньняе сонца абмывала сьвежым праменем буйнае зярнё жыта. Малатарка тарахцела ў варотах былога Беразаковага гумна, мнучы высокую тоўстую салому важкіх снапоў. Лахматы, няпрычэсаны мудрагелісты хлапчук, Зьмітрок Лучнік, у двойцы з нясьвежага зрэб'я—порткі і кашуля—галёкаў на коняй, падсьвістваючы і меньцячы ядлоўцавым пужальнам з ахвосьцем дратаванкі над правым сіваком. Увіхаліся дзяўчаты з снапамі ды граблямі, пара мужчын: адзін пры падачы ў карыта, другі пры адсыпу жыта на таку Рэзвыя перамоўкі зьліваліся з малатнёю малатаркі, якая баязьліва чакала свае магутнае пасьлядоўніцы і сьпяшалася малаціць. З дзесятак замурзаных дзяцей папаўнялі таварыства, любуючыся з машыны, з коняй, з дзядзькоў ды з цяток і завідуючы Зьмітрыку Лучніку. Наколькі ён выглядаў самавіцей іх усіх разам! Сапраўдны, сталы рабочы. І дзядзька Міхась Дзянцо адводзіць ужо яму, як і іншым, сталую графу ў сваей шырокай, расьпярэшчанай кнізе. І гэты-ж лахмач штодня носіць ад цёткі Матруны літроўку малака. Што-ж за дзіва, што Зьмітрок адганяе іх ад малатарні і крычыць, як на парасят? Ен ня толькі на гэта мае права, а, нават, вось, выдае сябе сталым у гутарцы з дзядзькам старшынёю колгасу, які жартаўліва пакеплівае з Лучніка...

Кропік з самага ранку аглядае работу малатарні, падказвае, як лепш уціскаць у скрынку салому, куды адгрэбаць зярнё, чым дараваць снапы з стоўпу. Яго зусім не здавальняе гэта круцёлка, і вельмі старшыні прыкра, што Менск ня рупіцца з прысылкаю чырвоназорнага волата. Вось бы ён хапіў у работу вунь тыя снапы—толькі спраўляйся падаваць!

Карпук з асалодаю апавядае рабочым пры малатарцы пра купленую ім машыну. Дзяўчаты дзівяцца, мужчыны выказваюць нецерп хутчэй бачыць яе на прыгумені. Кропік вымярае месца, дзе яна стане ямчэй і просіць дарады ў сваіх меркаваньнях. Ён не заўважае, як Надзя Сідорчык зьяўляецца на ганку Восілкавай кватэры і ўзіраецца ўбок малатаркі. На яе твары вясёлая ўхмылка, а пад пахаю падушкаю портфэль.

Раёнка перадумала канчаць пачатую запіс і пакінула пакой, каб пайсьці паглядзець на малацьбу. Яна толькі што расплюшчыла вочы і кінула першы ўзрок на стрэчу яснай раніцы, як угледзела прамігнуўшага між вакон старшыню колгасу. Карпук заклапачоным накіроўваўся з пагону да гумна і ўжо яго чорная рубашка была запалавеўшай ад пылу.

Хто-б асьмеліўся адмаўляць таварышу Кропіку ў яго рухавай дбайнасьці? Нябось, вунь тыя дзьве маладзіцы, што стрэлі старшыню на дзядзінцы, засарамеліся свайго спазьненьня і гатовы былі кінуцца на перапросіны... А гэткіх выпадкаў ня мала. Прайсьці паміж гэта, не адмеціўшы, нельга: і Надзя на хаду прысьвяціла ў блёкноце старшыні колгасу некалькі цёплых нататак—пасьля яны ўплятуцца ў адно цэлае і вывядуць з сябе цікавую рысу Кропікавай істоты.

Ідучы пад малатарку Сідорчык напаткала Амельку Цырбуна: з сярпом на плячы, а з баклашкаю на другім, ён сьцігаў у подбяжкі праўцом да пагону. Амелька паслаў раёнцы прывітаньне, але яно сплялося з трапяткімі Цырбуновымі выдрыганьнямі і не дайшло да адрасу. Сідорчык правяла ўзрокам комсамольца-ударніка да апошняга будынку, і калі з-за маркоўніку тырчэла адна галава Амелькі, Надзя заўважыла яго возіркі і кіўнула рукою.

У гэты момант на ўскрыж Амелькавай дарогі, відаць, да азяродаў накіроўваў Лукаш Беразак; яго смутнаму выгляду пярэчыла ўсё вакольнае—прырода і людзі, і зусім не падыходзіла да Лукашовага настрою ветліва праказанае на сустрач Сідорчык, мяккае: „Добрае раніцы“! Надзя ўжо ведала гэтага чалавека і перш памкнулася закінуць яму словам, ды Дзяруновіч з Міклашэняю, агароджваючы студню, адцягнулі яе ўвагу. Міклашэня ўвішліва круціў дубцы і заліваўся з рогату, пераказваючы Дзяруновічу якуюсьці гісторыю. З воддалі тыкала ў іх бок каромыслам якаясьці рэзвая з высока падаткнутаю спадніцаю круглая жанчына: было відаць яе разьнятыя губы і ў два рады бялюсенькія зубы. На сустрач ёй Дзяруновіч махаў разгатым дубцом. З-за Восілкавае кватэры дайходзіў грукат падвод,

ужо ўдвойчы ехаўшых на поле. Усюды, куды толькі Надзя Сідорчык ня кідала ўзрокам, варушыліся людзі, як рычажкі ў пушчанай машыне, рознастайныя гукі і траскаценьне, як ручаінкі, зьліваліся ў русло сухога манатоннага лёскату малатаркі.

Карпук Кропік сустрэў прадстаўніка райкому каля платоў прыгуменьня і далікатна адчыніў ёй весьніцы.

— Пацікаўся, дарагі таварыш. Хоць і благі гаспадар, а крыху сяго-таго прыдбаў.

Ён падвёў Надзю да высокага кургана жыта, зачарпнуў з яго ўёмістаю рукою, як шуфлем, і паднёс к яе вачам.

— Пахне-э? Пажадаю, каб мой намесьнік падвоіў гэту буйнасьць і колькасьць.

Зерня пераплыло ў разьнятыя прыгаршчыны Сідорчык.

— А калі ды сапраўды цябе тут ня будзе, то ласьне гэта жыта цябе не цікавіцьме?

Старшыня колгасу адпіхнуў шапку на патыліцу і адкрыў высокі роўны лоб: на ім гармонікам каляіліся не па гадох глыбокія маршчыны.

— Дзядзькі Кропіка мы не адпусьцім з „Змагара“.

То быў голас высокае стройнае дзяўчыны, запыленай з галавы да ног густым слоем мякіны. Але цёмныя празрыстыя вочы і ўмераныя чырвоныя губы выкрывалі прыхаваную харашуню.

— А ці я табе не дадзеў, Ліжбета?

— Вот калі... Кінь, дзядзька Карпук, гаварыць ліхаведама што... Каб дадзеў, та мы пашлі-б наперэд за цябе... А падлічэце, хто вышаў...

— Няхай той пакідае „Змагар“, хто вам надазоліў,—дадаў маладжавы работнік, запісваючы трэцюю копу абмалоту.

Сідорчык тузянула Кропіка за рукаў і кіўнула галавою ў бок казаўшых.

— А ты дапускаеш, што зараз прыедзе намесьнік?

На што не нахілены быў Карпук у гэту хвіліну да сьмеху, а тота-ж падаўся: Надзя дужа адмыслова падала гэта запытаньне.

— Як табе сказаць...

Яны вайшлі ў сярэдзіну вялікага дворнага гумна, і Карпуковы рукі закрыжаваліся перад раёнкаю, паказваючы ёй здабыткі палёў— высокія стаўпы жыта і канюшыны, пшаніцы і сена. Яны падымаліся да шчытку, роўнымі сьценамі агароджваючы глыбокую разору з токам на дне.

— Выплацім, таварыш Сідорчык, і леташнюю запазычанасьць і сёлетні падатак. Ня можна скардзіцца. Ня хопіць нараканьняў і майму намесьніку. Я правёў „Змагар“ праз організацыйную стадыю, а ён ужо няхай разьвівае далей...

Сідорчык маўчала, але не бяз уцехі азірала агульнае дабро колгаснае гаспадаркі. Яна справілася аб колькасьці коп зьвезенае

ў гумно збажыны, аб памеры ўраджаю, і сустрэла Карпукова паведамленьне радаснаю ўхмылкаю.

— А лён як, лён?—пацікавілася яна, пакідаючы прыгумень.

— Водлуг майго пляну, зьбяром да часу. А цяпер...

— Што цяпер?

— Не ад мяне залежыць, дарагі таварыш.

— Пра гэта яшчэ рана казаць.

Сідорчык пакінула Кропіка па другі бок агароджы.

— А першай гадзіне ў канцылярыі?—кінуў ёй удагон Кропік.

— Так, так. Абавязкова. Прашу!

X

Сідорчык пашла ў сталовую, дзе яе ўжо чакала крыху падстыўшае сьнеданьне. Гаспадыня ўвіхалася з прыпасамі для абеду.

— Вас пытаў таварыш Восілка,—паведаміла яна Надзю, калі тая вылезла з-за стала.

— Ён ужо сьнедаў?

— Ня так даўно.

Сідорчык падзякавала гаспадыні і вышла з памяшканьня сталовай. На дзядзінцы яна ўспомніла пра лён і павярнула направа, між кароўніку, усьцяж роўнай абмураўленай сьценкі. За хлявамі стаяла густая града ясеняў і клёнаў, а насупроць беглі новыя платы капусьніку.

Сідорчык зазірнула ў гарод: нельга было наракаць: гародніна буяла, як трава ў мурагох.

— Любуецеся, таварышка?—адняў Надзіну ўвагу ад капусьніку Лукаш Беразак.

Ён нёс на плячох вязку шырокалісьцянага алешніку для падсьцілу ў стаўпы.

Сідорчык прывіталася.

— Бачыліся, здэцца,—дадала яна.

Лукаш як-бы не зачуў і перайшоў на другое.

— Як падабаецца вам, таварышка, наша гаспадарка?—запытаў ён і насьцярогся не прапусьціць Надзінага адказу. У кудлатых валасох Лукашовае барады, у яго прыжмураных вачох і ў радку дробных маршчынак пад імі тулілася тонкая хітрасьць, у голасе прагучэла калючая нотка іроніі.

Гэта не схавалася ад Сідорчык, якая ўжо мела некаторае ўстаўленьне аб гэтым чалавеку.

— А чаго-ж, гаспадарка ня дрэнная, дзядзька,—упэўнена адказала яна.

— Ой-ой!—недаверліва паківаў галавою Лукаш і разьліў па твару яхідлівую ўсьмешку.

— Ня праўда, па вашаму?

— Нябога, нябога, ня бачыла ты яшчэ ўрадлівасьці гэтых гародаў. Што яны бывала давалі дабра! Горы, родная. Бачыш, зямля заўсюды

любіць руплівасьць да яе і аходжваньне, а ў нас абы з рук... Вунь грады з моркаўю, паглядзеце, як-бы хто назнарок выбіў іх... А капуста? Куды яна гадна... Не гаспадар, бачыце, наш старшыня. А таму і ня лад. Нашы людзі кажуць, каб гэту, бач, гаспадарку ды ў рукі тлумнаму і дбайнаму гаспадару, ну хоць-бы і нашаму Васілку, было-б усяго па горла: і „Змагару". і казьне, і местачковаму рынку... Вось...

— Гэта вам, дзядзька, думаецца, ці вы наперакор старшыні?

— А навошта мне падкопвацца пад Кропіка... Мне ён мала абыходзіць; справа кранае майго сэрца, нябога... Ты не патурай, таварышка, ветраным нагаворам... Слухацьмеш—ліха ведае чаго наплявузгаюць... Карпук майго хлеба не пяройме, хоць і мае прывычкі распускаць яго, як свой.,. Колгас...

Сідорчык ня сутрымалася ад ахапіўшага яе абурэньня і, каб не зрабіць чаго горшага, затупала на месцы.

Беразак абарваў сказ і ня ведаючы, як быць, ці пакідаць раёнку, ці дагаварваць пачатае, глядзеў у Надзін пабялеўшы твар.

— Памылковыя, дзядзька, вашы думкі... або—знарочыстыя... Мне думаецца, што ні колгасная гаспадарка, ні старшыня колгасу тут ня прычым. Вы, відаць, наогул не далюбліваеце колектывізацыі. Бадай давялося здаць сюю-тую маёмасьць і гэта вас злуе. Чалавек, — бачу я, вы ня дурны, каб вам расказваць гэта. Пэўней, дзядзька загадзя кінуць падобныя развагі.

Лукаш прытрымаў набегшыя на язык словы і паправіў на плячы алешнік. Лісьця зашамалі па платох і скралі Лукашоў міжвольны ўздых. Нечага было працягаць далей узьнятую гутарку. Ці ня лепш было-б пакінуць неўгаворную партыйку. Але на языку варушыліся дадатковыя пытаньні і рупіла праняць дзяўчыну скаргамі пажылага чалавека. Ужо зрабіўшы намер завярнуцца, Беразак яхідлівым тонам выказаў:

— Але-ж ходзяць чуткі, што вы не здарма прыехалі. Прынамсі мне адзін з партыі казаў... Праўда?

— Яшчэ вам на гэта нічога пэўнага не скажу... перш пазнаёмлюся з усімі колгасьнікамі так, як з дзядзькам Лукашом, і тады відней будзе...

— Вот-вот, пазнаёмцеся, пагаварэце... Абгледзьце поле ды пільна... Вы правільна робіце... Бывайце!.. Прыгледцеся і да Кропіка...

Беразак узяў пад казырок і закрыў густым вецьцем алешніку сваю зрэбную постаць.

Сідорчык сурова паглядзела яму ўсьлед і пайшла ў канец агароджы. Лукаш адняў шмат часу і трэба было скарачаць програму агляду. Іці туды, дзе дажыналі авёс, Надзя раздумала і павярнула за гароды, налева. Там жаўцеў густы высокі лён. Яго важкія галоўкі ветліва схіляліся перад ёю, нібы адчуваючы дбайнага аб іх чалавека. Лёгкі ветрык, праходзячы імі, званіў прыгожую мэлёдыю ўраджаю. Было люба глядзець на вялізарны чатырохкутнік гнедага атласу, на

якім разьлівалася золата... Павеяла цудоўнасьцю казкі, калі Надзя дала волю свайму ўяўленьню: пад полагам ільну ляжаў пласт сталі і стаялі новыя машыны-блюмінгі і экскаватары, ратацыі і камбайны. Лён усё гэта хаваў у сваім валакне, доўгім і мяккім, белым і шоўкавістым. У яго плаўкім звоне плылі знаёмыя гукі індустрыяльных гігантаў... Але перад тым, якператварыцца ў залатую валюту, лён вымагаў ад сваіх гаспадароў дбайлівага догляду і шматклапатлівых уходзін.—Хлопцы, не пасарамацеся.

Надзя Сідорчык кранула леташняга выпадку, калі ў „Змагары" прапала добрых пяць гэктараў лёну. Нельга сказаць, каб цалкам праз Кропікаву віну, але значная доля яе падае на старшыню колгасу. Гэта ня згладзілася з Карпуковай памяці: яшчэ дагэтуль служыць яму папрокам, хоць Карпук Кропік пасьпеў за гэты час акупіць сваю віну. Не-э! Сёлета лён не павінен згінуць.

Сідорчык запэўнілі і сакратар ячэйкі і старшыня колгасу.

Яна ўважліва ды зацяжна ўзіралася ў вялікі простакутнік дарагое расьліны і перабірала тасьмо руплівых думак. Пасьля тэзісы іх Надзя ўнясла ў расьпісны ды разьмешчаны многімі зацемкамі блёкнот і павярнула назад.

З колгаснага двара дайходзілі ажыўленыя гукі і развcovered рух, якія сьведчылі за абедзены час.

Яе перагнала некалькі жанчын-колгасьніц з прыполамі травы, праехаў вярхом на кані рыжы хлапчук у аднэй бялізьне. Магчыма, што і Кропік пасьпеў вярнуцца з поля, калі яшчэ хадзіў туды, як казаў. Так! Як быццам яго голас...

На дзядзінцы, пры рашчынятых варотах хлява Сідорчык сустрэла пяцера душ мужчын і адну жанчыну: яны стаялі ў рад і, глядзючы на здаравеннага чорнага быка, абгаварвалі яго становішча. Карпук спавядаў свайго суседа, нізкарослага рыжавусага мужчыну гадоў сарака, паказваючы на прыгнутую голаў харашуна шгіца.

— Або я не казаў, што сёньня яго ня трэба было трывожыць? Дык не, ніколі ты, Лазар, ня хочаш са мною згадзіцца... І на табе— куды ён стаў варт, Буян бач!..

Ён адхіліўся і ўгледзеў каля сябе Надзю Сідорчык. Паскардзіўся пры ўсіх:

— За кожнаю дробязьзю трэба даглядзець і... і праверыць...

— Вось бачыце, таварыш Сідорчык, наша гордасьць, можна сказаць, а ў людзей ня вымагчы да яго належнае спагады... Учора яна, вось, Матруна (старшыня кіўнуў на прысутную маладзіцу) распарадзілася пусьціць да каровы, а сёньня зранку Лазар як наперакор выгнаў з хлява і... жывёліна ледзьве стаіць на нагах... Ай ды...

Кропік схамянуўся ад падзёргу злосьці, ажно ня мог дасказаць. Прысутныя сьціснуліся ў маўчанку, чакаючы, чым гэта кончыцца.

Сідорчык глядзела на асавелую жывёліну. Доўгі і высокі, блішчасты ад тлустасьці і гладкі ды стройны Буян выглядаў зусім ня-

дужым; яго бакі абвісьлі і ўпалі, кароткая галава з невялікімі рагамі была апушчана на бярэмейка падсохлае канюшыны, пару розак якое тырчэла ў быкавым роце, але Буян ня то што не жаваў спажыўнае стравы, а нават і не глядзеў на яе. Засьлежаныя вочы кідалі абыякавы ўзрок у неазначную кропку; з губ падалі камякі цягучае сьліны...

— Завядзі яго, Лазар, у хлеў ды пайдзі па вэтарынара... Дай больш падсьцілу...—павялеў Кропік.—Пойдам,—абярнуўся ён да Сідорчык.

— А да кароў пускаць гнядога?—упэўнілася Матруна, калі Кропік з Сідорчык ужо былі сажняў на чатыры ад хлява.

— Толькі гнядога... Вот так, во... часамі сам не агледзішся, адкуль і што надыдзе тое здарэньне, і ўвесь настрой да д'ябла...—паскардзіўся Надзі старшыня колгасу.—А ў гэткай, як наша гаспадарка, ці мала падобных выпадкаў... Між тым людзі яшчэ не дайшлі да сузнаньня таго, што кожная парушына ў колгасе павінна крытаць і іх, а ня выключна мяне... Яшчэ многа патрэбна выхаваўчай працы...

— А хто з гэтым не згаджаецца...

Яны ўжо ўзыходзілі на нявысокі ганачак старшынёвай кватэры, як Кропіка пазвалі:

— Таварыш старшыня, на адну хвілінку! Просьба разам з упаўнаважаным...

Да іх падыходзілі двое колгасьнікаў—Пракоп Дзярувовіч і Самусь Покаўка.

— Вам мы вельмі патрэбны?—справіўся Карпук.

— Мы просім вас да рахункавода, калі ласка!—у адзін голас выказалі падышоўшыя, павяртаючыся да канцыляры колгасу.

— Пяройдзем!—запрапанавала Сідорчык, яшчэ з аддалёк колгасьнікі перавялі сваю гутарку на крыклівую лаянку па адрасу рахункавода.

— Кожны дзень тое самае... хітрыкі, утайка...—крычаў Самусь Покаўка, нацягнуўшы на свой шырокі твар міну няўмеру пакрыўджанага чалавека:

— Падумайце толькі, таварыш старшыня і таварыш упаўнаважаны, што ні тыдзень, то пару працадзён і зьесьць, і зьмінтрэжыць недзе... Што ён да нас мае?

Покаўка з-за парога накіроўваў палец у бок Міхася Дзянца, якому, відаць, скаржнікі ўжо добра надазолілі.

— Робім, пане мой, як валы...—працягаў Самусёвы словы Дзяруновіч:—а з нас адкрытыя зьдзекі... Якая там плата, а і тую рознымі спосабамі ўрываюць... Ці-ж то ёсьць лад?

— У чым справа, таварыш Дзянцо?—пераняўшы рукою скаржніка, запытаў у рахункавода Карпук Кропік.

Той прыпадняўся з крэсла і, гледзячы на Надзю Сідорчык, адказаў:

— Або іх калі ўкантактуеш чым? З імі што ні дзень-адное самае: ўсё ім здаецца, што калгас іх абдурвае, ці... Заўчора дзядзькі крылі страху на новым сьвіронку і ўжо а чацьвертай гадзіне пашлі дамоў... Прапрацавалі чыста ня болей пяці гадзін... Ну, ці-ж я мушу ім гэты кавалак дню залічваць за цэлы дзень? Пасудзеце самі...

— Ммы-і... у адзін голас выгукнулі Дзяруновіч і Покаўка:—Не на гадзіны лічым сваю працу... (працягваў Покаўка адзін).

— Зрабілі работу, што другія ў два дні ня скончылі-б, а ён на гадзіны. Спытай у каго хоць, ці лічымся мы з гадзінамі. Надовечы да цёмнага зяблілі, а ці прыпісаў ты што? Выкусіце... Іншы дык любіць галялёкаць, што ён ударнік, перадавы, а на дзень з пяцьдзесят разоў курыць бярэцца—і ўсё сходзіць... Нават і боты, і адзежыну якую—дык яму... Гэта-ж колгас, а ня прыватніцкая капрыза..

— Ш-ша-а, дзядзькі, ціха... —спыніў яго Кропік:—Давайце ладам. Дзянцу няма інтарэсу вас ашукваць... Дарма наракаць... Колгас, зразумела, ня прыватніцкая справа, але і да яго трэба адносіцца як да свайго... Ш-ша-а, уладзім, дзядзькі, гэта, ідзеце абедайце... Дапомніш мне гэта вечарам, Міхась,—абярнуўся старшыня колгасу да рахункавода і маргнуў Сідорчыкісьці.

Яны чулі яшчэ з двара, як Дзяруновіч з Покаўкаю перакрыквалі ў канцыляры свою надзьмутую скаргу.

## XI

— Я зараз вярнуся!—перапрасіў Кропік Надзю Сідорчык, якая прысела ля круглага хісткага століка ў досыць чыстай для адзінокага каморцы:—Вось пpаглядзеце!—ён падаў ёй у ашмуленай вокладцы стары альбомік з відамі Масквы і хутка зьнік за дзьвярыма.

Сідорчык не пасьпела пераглядзець і чвэрткі відаў, як пачула з-за вакна зычны голас старшыні колгасу.

— Ну, дзе-ж тая асьцярога! Ай, ай! Усё вы робіце на тандэт. Дзьве гадзіны—ня больш на рапарацыю... І пускаць...

Яшчэ не адгучэлі словы, як з нейкім асабліва рэзкім піскам затарашчэла малатарка. Сьледам данёсься гучны стук і быццам выціснутая ім прыўзьнятая галосная гутарка. Гэта паўтарылася засаб да трох раз. Далей Надзя ня прыслухоўвалася: Кропік прынёс з сталовае абед, і яны прыняліся апаражняць прыастыўшую страву.

— Навошта гэты клопат: пашлі-б у сталоўку і там зьелі-б,—выказала Сідорчык, якую гаспадар, аднак, пасьпеў напаіць чаем.

— Усё на хаду, так што прыходзіцца выбачыць,—уладжваючы з пасудаю, перапрашаў Кропік.

Сідорчык не прапусьціла падмеціць Карпукоў спрыт у абыходжаньні з пасудаю і ў дасьціпнай увішлівасьці пры гэтым.

— Дзесьці, бачу, сумеў налаўчыцца...—заўважыла дзяўчына не без жартаўлівасьці.

— Жыцьцё ўсяму навучыць... Прымусіла дагэтуль абыходзіцца без жанчыны і адукуе розным навукам... Не здарма таварыш Васілка прыраўнаваў мяне да свае жонкі,—ухмыльнуўся Кропік, пасьпеўшы разоў каля дзесяці абкружыцца ў каморцы, выбегчы ў пярэднюю ды вярнуцца назад.

— Было і гэта здарэньне,—прысеўшы насупроць Сідорчык, паўтарыў ён, зрабіўшы з гэтага ўступ да дзелавое гутаркі.

— Чула бокам,—адказала раёнка, выняўшы свой блёкнот і разгарнуўшы яго на рубрыцы „Змагар“.

— Т-а-ак!..

Яны перанастроіліся, і старшыня колгасу ўстраміў вочы на сваю суседку.

— Дык вось, таварыш Кропік, я хацела з табою пагаварыць пра ўсе вашы (і нашы) справы... парадзіцца як-бы з табою...

— Слухаю, да тваіх паслуг...

— Я прыехала,—пачала Сідорчык строгім дзелавым тонам—як табе ўжо вядома па даручэньні райкому... Палажэньне тут у вас, як я пасьпела даведацца, ня зусім нормальнае... Атмосфэра напружаная, усё-ж, я бачу, не настолькі, як аб тым нагаварылі...

— Падобна да таго...

— Я-б не сказала, што віною ўсяму ты, як іншым хочацца гэта зрабіць... Н-не-э, трэба быць об'ектыўным... Колгас—здаровае цела, ня дрэнна дагледжаны, ёсьць вока і.., рука... Асноўная работа прароблена... Райком ацэньвае вашу працу і ваша стараньне... І думкі яго пра цябе не мяняюцца. Яно, зразумела, леташнія ўпушчэньні многа табе пашкодзілі, таварыш Кропік. І ты сам не адмаўляешся ад свае віны і... ад вынікаў, якія балюча адбіліся на тваіх настроях.. Мы абое, браток, бальшавікі-партыйцы, і мусім праўду казаць у вочы. У цябе... давай па-таварыску ўжо... нешта надарвалася крыху. Сіла ёсьць, здольнасьць маецца, а вось хенць пачынае астываць... Кожная дробязь кратае цябе за жывое, злуе, нэрвуе... Дармо! Трэба ўзяць сябе ў рукі! Не патурай нагаворам—яны табе, як гарох аб сьцену... Майсей няўдала сябе вядзе: я ўжо яму казала гэта і з ім, напэўна, прыдзецца гаварыць іначай. Згаджаешся?

— Цалкам... Хоць я думаю, лепей было-б весьці і з ім і са мною аднакавую гаворку.

— Кінь, Карпук,—замахала рукою Сідорчык:—Ты сябе не даацэньваеш, а гэта ўжо нядобрая рыса ў наш час. Будзь пэўным, што на гэтым другія строяць свае разьлікі... „Опортунізм“, які прабуюць табе прыпісаць, адкуль, як ня з гэтае крыніцы. Мне здаецца, што табе самому відно. Пакуль яшчэ ты ня страціў даверра з боку партыі—і даражы ім... Ну, а з Васілкам—іншае. Я больш яго ведаю, даўжэй з ім працавала і не скажу, каб ён мне не падабаўся, як партыец, тым ня меней тут ён пачаў зьвіхацца. Гэтыя яго па-

пусканьні Беразаку—дрэнны сымптом. Пачуй, што Цырбун кажа... паслухай думак радавых таварышоў, і табе ўсё стане відно, як на далоні.

Старшыня колгасу не схаваў выбліснуўшай у прасіяным ваччу падзякі Сідорчык. Яе не падфарбаваная об'ектыўнасьць і тварыская непасрэднасьць нахілілі да сябе Кропіка. Значыць не аднаму яму здаецца, што „Змагар“ мае ў сябе плёны Карпуковай працы. Гэта ня тайна, каб ня ведаў той, каму належыць гэта ведаць.

— Ну ўсё-б, таварыш Сідорчык, мне ня шкодна было-б гадкоў з пару падвучыцца. Як па твойму?

— Гэта ніколі ня шкодна і... ніколі ня позна: пачакай гадкоў з пару... Вось канчайце работу на полі, упраўляйцеся з падрыхтоўкай на зіму і не забудзьце абавязкаў перад краінай... Разумееш?

Хто ў тым сумляваўся і навошта адказваць на тое, што ў сваім зьмесьце хавае адказ?

— Яшчэ-б выняць стрэмку з колгасьніцкага колектыву ў выглядзе гэтых Беразакоў, ды...

Ён прыслухаўся:

— Чуеш, малатарка зноў запрацавала...

— Так, Беразакі—нарыў, і яго вы мусіце пракалоць. Няправільная думка ў Восілкі... не партыйная... чакаць, пакуль болька сама загоіцца...

Яны вышлі з кватэры.

XII

У гэты момант на колгасны дзядзінец узьехаў абоз з збажыною. Міклашэня падаваў распараджэньні вазаком. Шэсьцера пярэдніх вазоў ён накіраваў у новую абору, дваім вялеў скідаць снапы каля азяродаў.

Сідорчык магла засьведчыць дысцыплінаванасьць і рухавасьць колгасьнікаў, якія ўвішліва і паслухмяна выконвалі загад старшага. Яна яшчэ больш задаволілася, калі праз кароткі тэрмін абоз з пустымі падводамі варочаўся ў поле.

— Дружныя ў цябе колгасьнікі,—палісьціла старшыню колгасу прадстаўніца райкому.

— Ня ўсе—да шкоды. Гэта брыгада Міклашэні, на ўзор старэннага гаспадарніка і дбайлівага чалавека. Ён ніяк ня хоча адстаць ад комсамольскай брыгады Цырбуна... Але, бачыш, Восілка аго недаацэньнвае, бо... Міклашэня не цярпіць Беразака...

— Не перагінай, палкі, Карпук...

Хутка яны стаялі перад новымі будынкамі: то была сёлета скончаная абора; будынак быў складзены з тоўстага брушчатага дзерава, як зьліты з цэманту. На моцнай асадзе ляжала, як залатая, новая жоўтая страха; па ёй гуляла перадвячэрняе сонца.

Абора мела трое варот і тры такі; гэта давала магчымасьць адначасна разгружаць цэлых тры вазы са збожжам. Міклашэнява брыгада менавіта таму так хутка і справілася, што ёй не давялося доўга чакаць з заездам. У аборы ішла праца па ўкладаньню ў стаўпы нядаўна прывезенага аўсу. Гулкая гутарка разносілася па ўёмнаму прастору вялікай будыніны, з якое нясло пахам сьпелае збажыны і салодкага сена.

— Каля пяцісот коп можна ўтахціць, і яшчэ знойдзецца вольнага месца.. —пахваліўся Кропік:—Праўда, улажыў капіталу, як сьлед, таксама; але няхай будзе на памяць аб нядбайным старшыні... Ніхто, зразумела, ня ўлічаў пакладзенага стараньня. А сам, паверыш, начамі варочаў комлі ды ачэсаў плахі.

— До-обрая будыніна!—цешылася Надзя Сідорчык, не адводзячы вачэй ад аборы і робячы выгляд, што ня чуе Карпуковае недамеснае скаргі. Яна не заўважыла пры гэтым, калі Карпук пакінуў яе адну стоячы перад сярэднімі варотамі аборы, а сам апынуўся з доўгімі віламі на таку, падкідаючы важкія снапы на стоўп. Адначасна ён падаваў складчыкам распараджэньні.

Праз некалькі хвілін Сідорчык магла назіраць спрытныя павароты старшыні колгасу, сама паспрабаваўшы вясёлага ўпражненьня. Але зачэплены ёю віламі сноп выявіўся досыць не паслухмяным і без дапамогі Карпука ніяк ня мог трапіць у разьнятыя рукі складчыка.

— Трэба да ўсяго прылаўчыцца,—выказала яна ісьціну, народжаную ў абмыўшым твар поце:—Малаціць, здаецца, крыху лягчэй,—дадала Надзя, прабуючы круціць знойдзеным тут-жа цэпам.

— Крыху...—згадзіўся Кропік, які таксама ад засопу ня ў поўны голас выказваў словы.

Абое абцерлі пот, вышаўшы на двор, на ўмеранае сонца і пад повей ласкальнага ветрыка. Насустрэч яго ціхаму дыху яны абагнулі правае крыло аборы і хутка апынуліся перад дасьпяваючай нівай рэштак высокага густога, але позьняга аўсу. Паўз сьценку гэта адмысловая збажына паказвала сьляды дзікага, безгаспадарнага абыходжаньня: тут былі заезды на некалькі сажняў у глыб нівы, сталі аб'едзеныя сьцяблы і выглядалі дзесяткамі павязаныя заломы.

— Вось падзівіся, таварыш упаўнаважаная, проста як барбары якія прайшлі... Ай, ай! Каб, здаецца, захапіў каго, вушы-б паабрываў-бы. Ніяк ня могуць навучыцца шанаваць агульнае дабро... Каб то на сваім, бывала, Беразак гэта заўважыў—было-б не прайсьці ад яго...

Кропік тросься ад злосьці, як асінавы ліст.

Раёнка нездаволена ківала галавою.

— А гэткі прыгожы авёс!..

Праз некалькі крокаў яна пацікавілася:

— Ваша зямля, напэўна, падабае позьні пасеў, га?

— Як да лета... Летась была лепшая ярына на ўзгрудках, а сёлета значна сушэй, і ўрадзіла на спусьцістых мясцох.

— А зьберацё, хаця, к часу?—упэўнілася Надзя яшчэ раз.

— Без сумніву... Я нацягну ўсе струны. На вызначаным сходзе колгасьнікаў на гэтым трэба будзе завастрыць галоўную ўвагу...

— Няйначай...

Ім матнулася з сярэдзіны аўса, дзе бегла сьценка, чыясьці рудая шапка і нявыразны тэнаровы сказ апаў перад самымі вушмі ў гушчыню лахматых аўсяных каласоў.

— Амелька?—абыякава запытаў ні то ў сябе, ні то ў выпархнуўшага з аўсу драча старшыня колгасу і наважыўся іці далей.

Сідорчык стаяла, як укапаная; ёй хацелася як найпэўней адбіць у сабе ўсе прыгожасьці і тонкія рознастайныя адценьні разьлеглай навакола іх багатай фарбамі карціны. Яе зьмест быў варты формы. Калісьці ўсе лініі ў выглядзе сьценак і рэдкіх цяпер разьмежак мелі зусім іншы напрамак і іншае значаньне. Па іх тупалі ўпраўляюшчыя і эканомы памешчыка Загродзкага, а там, вунь, на жаўтаватых узгорках паласавалася вузкімі стужкамі сялянская зямля. І жаваранкі ў пшаніцы і салаўі ў садзе пялі томным паням і панянятам, не дайходзячы да вушэй змучаных парабкаў... Угнаеньні і малатаркі, дранаж і жняяркі спорылі плёны і павялічвалі ўраджай аднаму магнату, які ведаў толькі разьезды па сталіцах для бесклапотлівых трат вольнага часу, які вазіў людзкі пот, ператвораны ў золата прайграваць на манакскіх рулетках. Вялікі Кастрычнік, прайшоўшы абшарамі неаглядных прастораў, уклаў новы, глыбачэзны зьмест у іх нетры. Зараз, во, перад сусьветам сфармавана нячуванае ў гісторыі колектыўнае жыцьцё. Яго будаўнік, комуністычная партыя, гарда і пасьпяхова ператварае краіну ранейшае ўсебаковае няволі ў індустрыяльную краіну социялізму.

Паглыбляючыся ў гушчыню завіхраных узьнёслых настрояў, абданая вялікасьцю і харастком социялістычнае будовы, Нядзя Сідорчык зьлілася з вакольнай карцінаю і, як па мошасьце, бязмоўна прайшла з Карпуком амаль трохкілёмэтравую дарогу зусім незаўважана.

Яна праверыла яе толькі тады, як апынулася на зыроку пры колгасных будынках, на тым месцы, адкуль віднеўся левы бок колгасных ніў.

Карпук Кропік астаўся пры жняярках.

## XIII

Кропік толькі на пацёмку вярнуўся з поля. У кватэры сакратара ячэйкі сьвірэла сумнаватае сьвятло, і Сідорчык падводзіла ітогі прагледжанаму і праслуханаму за дзень. Восілка, з якім Карпуку не давялося ўбачыцца, зьбіраўся іці ў сталовую. Старшыня адклаў сваю вячэру на пазьней, а пакуль зрабіў звычайны абыход гумнаў і хлявоў, праверку аборы і кароўніку, агляд стайні і наведы Буяна. Выг-

ляд яго любіміца аставаўся ранейшым—Буян мучыўся ў хваробе, моўчкі зносячы боль. Карпуку закалола ўнутры і вынікі перажытага дню, ухарошанага абнадзейваючай размоваю з Сідорчык, зацягнуліся лёгкім сумам. Няпрыемнасьць яшчэ павялічылася, калі, па дарозе ў сталовую пераняў яго з просьбаю—з недапусьцімаю просьбаю—малады здаровы колгасьнік з брыгады Міклашэні:

— Я вас моцна буду прасіць, таварыш старшыня,—зрабіў ён умольную міну:—дазволіць мне на нядзелю ўзяць пару коні з брычкаю і паехаць з маладою да шлюбу... Ачамера яна, нявехна мая, але я ня маю волі адказаць... угаварваў, дакараў—а маці—ні на крок назад. Дазволіце?

Кропік выпучыў на хлопца вочы, падняў міжвольна сашчэплены кулак і ашаломлена праказаў:

— Ці ты маеш лад, Вікент? Пасаромся, чалавек. Ударнік, перадавы колгасьнік і да ксяндза!.. Одур цябе ўзяла некая, ці што!.. Ня дам... нізашто ня дам... Досыць—і нікому больш не заікайся аб гэткай блажы. Чуеш, Вікент?

Хлопец сумеўся: ён не чакаў гэткай раптоўнай і разбуральнай вымовы, якую прышлося пачуць ад старшыні колгасу. Зачасаўшы патыліцу, хлопец, мармычучы нешта сабе ўнос, не разьвітаўшыся, зьнік за плотам садку.

Карпук ня мог ачухацца ад гэтага выпадку праз увесь час вячэры. Толькі вярнуўшыся да сябе, ён разьвеяў няпрыемнае ўражаньне і сеў над папераю за плянаваньні новых мерапрыемстваў для „Змагара.“ Ён часта варочаецца да гэтых пытаньняў, але рэдка калі знаходзіць магчымасьць усебакова іх абдумаць. І яны, гэты пытаньні, паступова старэюць, заціраюцца, цягнуцца доўгімі хвастамі ў шэрагу новых, больш дачасных, неадкладных. Няма таго дню, каб не знайшлася іншая, зусім нечаканая патрэба. Гаспадарка, як тая машына—тое й глядзі, што вартуй: там зломіцца, там пэратрэцца, там вымагае паправіць, там ушчыльніць; і як тая-ж машына, ніколі ня можа спыніцца на дасягнутым: што ні ўдасканаль—кожны раз знойдзецца навейшае палепшаньне. На гэтым пабудавана дыялектыка жыцьця...

Карпуку Кропіку гэта было вядомай рэччу, ён асвоіўся з ёю на практычных уроках свае кіраўнічае працы. І, кранаючы зрэдку, калі выпадаў час, тэорыю соцыялістычнага будаўніцтва ў галіне сельскае гаспадаркі, ён галоўным чынам быў зьвязаны з практычным бокам гэтага гістарычнага процэсу.

На сёньні старшыні колгасу замуляла гутарка з прадстаўніцаю райкому; і водлуг гэтай гутаркі ён падышоў да меркаваньня і разьвязаньня надзенных заданьняў з жыцьця „Змагара“. Першым чынам Карпуку замуляла справа свая часовага выкананьня колгасам дзяржаўных абавязкаў. Ён узяў лічбу раскладкі, параўняў з сабранаю колькасьцю збажыны, прыкінуў орыентовачна колгасьніцкую выдачу

знайшоў, што тут ён выйдзе лёгка і добра. Умалот, выяўляецца, будзе не благі: водлуг папярэдніх, навочных падлікаў, капа лепшага жыта дасьць да чатырох пудоў; ёсьць, праўда, частка і горшага ўраджаю, але лепшы компэнсуе гэта. З пшаніцаю справа яшчэ лепш: і зімка і ярка далі добры колас і харошае зярнё. У огуле тое самае і з ярыною. Тут ён задаволіць усіх. Цяжэй будзе з гароднінай і бульбай. Намечаная раней норма наўрад ці выканаецца. А гэта ўжо пасее сярод колгасьнікаў некаторае, нездаваленьне. Многія яшчэ падкармляюць сьвінчат, а ў добрай палавіны нават маецца і карова. Адкажы ім у бульбе...

Карпук вырашыў патрэбу прыкупіць некаторую колькасьць яе: калі нельга будзе як-колечы выйсьці з становішча шляхам іншых комбінацый. Падобная справа і з гароднінай... Але, ня гледзячы на гэта, ён ад дзяржавы ня скрадзе і гарца.

Ад гэтага пытаньня старшыня колгасу перайшоў да выбаркі ільну і загатоўкі сілоснага корму гавядзе. Сідорчык падвастрыла яго пільнасьць і дбайнасьць на гэтым пытаньні. Ды Карпук і сам ня выпускаў яго з думак. Ураджай ільну, праведзены над ім дагляд да апошняга часу, абяцалі з перавышкаю пакрыць леташні прарыў на гэтым вучастку. Толькі-б не падпала што-колечы з боку ды не паперашкодзіла ў яго апрацоўцы. Над гэтым Кропік трасься: хоць-бы абмінуць тут няўпраўку. У яго ўжо меўся гатовы плян на конт ільнянное справы, але ён пры кожным выпадку ня мінаў яго прарэвізаваць і ўдасканаліць.

З сілосамі, пакуль, справа стаіць на паўдарозе: частка канюшыны ўжо ляжыць у ямах і, як здэцца, заправае нормальна; горай з іншымі травамі... ды пакуль яшчэ на іх ня скончана траншэя—з цэмэнтам закавыка. Хоць-бы ўжо тут уладаваць! Бо корм—каразьлівае пытаньне... тым болей, што колгас павінен пзвялічыць колькасьць рагатае жывёлы і штук на пяць цягавае сілы... Так, з каровамі ў „Змагары" слабае месца: колгас ня мог выканаць малочнае нормы бескароўным колгасьнікам і запазычыўся ім да пяці вёдзер малака. Гэта дужа няпрыемная рэч, але што зрабіць! Тут падвялі каровы.—Пяцера з іх, даволі ўдойных, узялі і запусьціліся перад самым жнівом. А шостая, аляндэрская—прапала: давялося пусьціць пад нож. У выдачы малака трэба зрабіць некія зьмены—пай дыфэрэнцыраваць разчэй, ці компэнсаваць якім-колечы іншым продуктам, заключыў ён, і начорна накідаў прыблізныя меркаваньні. Старшыня ўжо меў і адгавор перад тымі, ад каго давядзецца ўрэзаць якую чвэртку літру. У кожным разе...

Карпук не заўважыў, калі сюды ўклінілася справа з быком Буянам. Ён не сьцярпеў, каб не азірнуцца на сьценку, дзе вісеў пахвальны ліст, атрыманы вясною на сельскагаспадарчай выстаўцы за яго пястуна. „Якаво хаця з ім?" перапусьціў старшыня колгасу бацькаўскую спагадлівую думку і сьцяпануў плячыма.

Не, Буян не павінен прапасьці, гэта будзе для Карпука неперадосным! Ён памкнуўся ўстаць, але апаўшы на паперу ўзрок улавіў гіерогліфы запісаў аб гаспадарчых прыладах. На першым месцы выдзялялася малатарка. Вось ужо болей двух месяцаў, як Карпук азадачыў чырвоназорную машыну, якая намалочвае і насартоўвае ў гадзіну тры тоны збожжа. І кошт яе—толькі дзьве тысячы рублёў Пяцьсот ужо ён выплаціў. Тысяча-ж намульваецца ад продажу старога, яшчэ панскага, сельскагаспадарчага лому. А тысячу... яе выплата падзе на вясну і можа ўжо не яму давядзецца яе адшукваць... „Не,—Кропік ажно прыстукнуў нагою:—гэта параграф з мае праграмы і я ў трэскі паламлюся, калі не здабуду гэтае снасьціны „Змагару". Ён уявіў сабе на момант работу машыны і ўсьміхнуўся ад задаваленьня. „Вось што можа даць колектыўная гаспадарка! Прыраўнуй чырвоназорную да цэпа! І чаму гэта некаторым ня ўбіць у голаў гэткае наяўнае, жывое, ад чаго не схавацца нікому, выгады! Але, няпраўда такі... яны хоць пазьней, а праканаюцца". Старшынёў настрой пераліўся на пытаньне аб узьняцьці прыгорскага вучастку цаліны. Не, ён не дазволіць, каб пяцьдзесят гэктараў зямлі дзервянелі надалей. Няхай толькі кончыцца сяўба, як ён тут-жа выпіша пару трактараў знарок для прыгорак. Падніме цаліну, разрыхліць пружыноўкаю як належыць і дасьць на зіму добра выпрэць, а вясною—авёс. Шкада, што ўлушчана з жытам—ну што-ж парадзіш... Вясною авёс...

У лямпе выгарала газа і язычок агню залізаў жоўтыя губкі машынкі. Запахла нагарам, па кутках згусьціўся змрок.

Карпук паглядзеў на гадзіньнік і зьдзівіўся: пачыналася першая. Млосьнела—хацелася есьці, але ці ўжо толькі не спазьніўся?

Загасіўшы сьвятло, ён вышаў на двор. З вокан сталовае падалі касьнікі праменьняў на памятую мураўку. „Хоць аскрэбак якіх перахаплю, калі будуць", суцешыў сябе Кропік, ды замест сталоўкі павярнуў да кароўніка: там скрыпнулі вароты.

— Марыля?—гукнуў ён здалёк.

Ніхто не адазваўся.

Вароты былі заперты на калок. У хляве чулася адрыўнае мэканьне Буяна. Старшыня колгасу прачыніў вароты і шмаргануў запалку: бык павярнуў да яго голаў і ласкава паглядзеў заплаканымі вачмі.

— Ці звалі хаця вэтэрынара?—пацікавіўся Карпук і ўжо ў цемнату паслаў да Буяна шчырае спачуваньне:

— А ты ўсё мучышся, небарака... харашун мой дарагі.

Пра быка ішла гутарка і ў сталовай, дзе Карпук застаў яшчэ пастуха Дудніка і Міклашэню.

— Буян адыдзе,—весела паведаміў Дуднік, калі Кропік замяшаўся ў гутарку.

— Гэта вэтэрынарава думка?

— Так.

— Хаця-б, а то... А яму ня лепш?

— Значна лепш, таварыш Кропік.

Гаспадыня падала старшыню ў пляцёнцы хлеба і міску сараквашы.

— Толькі ўсяго і ёсьць, таварыш старшыня, выбачайце... Хлеб пячыма заўтра—рашчыніла толечкі што...

— Добра, добра, нічога... Дзякуй! Па часе і вячэра.

Ён паглядзеў на гаспадыню, якая здалася яму на гэты раз некай інакшай, як заўжды, і намерыўся запытаць, да чаго было яе перапрашэньне. Але тая якраз працягнула яму ў руцэ пакет і праказала:

— Вось вам; толькі што падалі.

Старшыня колгасу, як нёс да рота ложку з малаком, так і спыніўся на паўдарозе: зубы кінулі мяць асушак, а вочы апалі на доўгі зялёны конвэрт. Ён меў тытул райкомпарту, быў памечаны перасьцярогай „вельмі сакрэтна" і перашыты белаю суравою ніткаю. Пячатка ў левым ніжнім рагу пацьвярджала адрас адправіцеля.

Апаражніўшы ложку з малаком, Кропік апусьціў яе на бераг лаханькі і спрытна, з дапамогаю запалкі, прарабіў ускрыцьцё пакету. Знаёмы блянк настаражыў яго ўвагу; райкомпарт прапанаваў „т. К. Кропіку 20-га гэтага месяцу зьявіцца да сакратара райкому па справе, якая яго, Кропіка, датычыць."

Кропік прачытаў і абярнуўся ў напружаную сабранасьць. Дагадлівы Міклашэня зразу зьвязаў зьмест пакету з наездам у колгас Надзі Сідорчык і заключыў, што яго дастава Карпуку не абышлася без яе дапамогі.

Але старшыня колгасу не даўся запытаць аб навінах, што ўжо намерыўся зрабіць Міклашэня, і, не даеўшы малака, вышаў з за стала. На парозе яго запыніла цікавасьць запытаць у гаспадыні, хто да яе прынёс пакет. Тая з ухмылкаю адказала тонам, у якім не знаходзілася нічога асаблівага:

— Алена Якаўна!

— Што вы скажэце!—адступіў два крокі ад парогу Кропік, нібы ў гэтых словах хавалася важнае здарэньне.

— А хіба-ж вы ня ведаеце, што яна прыехала?

І гаспадыня, стуліўшы рукі ў трубку, ціпэйшым голасам паведаміла:

— Прыехала і ўжо пасьпела таварышу Восілцы сцэну ўстроіць... пры гэтай, нават, раёнцы...

Ён многазначліва крутнуў галавою, выказаў штосьці нявыразнае на не азначаны адрас і бразнуў клямкаю дзьвярэй.

## XIV

Старшыня колгасу, пад сьвежым уражаньнем атрыманых ім навін, не заўважыў, вышаўшы на дзядзінец, што ў Восілкавай кватэры не патушан агонь. Яшчэ дзіўней было зусім нечаканае спатканьне амаль не перад вокнамі сталовай з Надзяю Сідорчык. Карпук схамянуўся, калі раптам пачуў каля самага вуха:

— Таварыш Кропік, выбачай, гэта я, Сідорчык.

Яна працягнула сказ прыцішаным сьмехам.

Кропік хутка з'орыентаваўся ў абставінах трапленага і запытаў:

— Маеце навіны? І прыкрыя?

— Ды яшчэ якія! Я апынулася ў бяспрытульных.

— У чым справа?!. Няўжо Майсей пашоў на тое, каб пагнаць з кватэры?..

— Бывае!

— Што-ж, я буду рад даць табе прытулак у сябе... Калі ласка!

І Карпук раптам пашкадаваў, што да апошняга часу не паклапаціўся здабыць сабе на ўсякі выпадак запаснага ложку. Колькі разоў ён мусіў з вялікай няёмкасьцю выкрутацца з прыкрага становішча, калі яму даводзілася даваць прытулак начлежніку. І кожны раз пасьля таго ён пастанаўляў неадкладна абсталяваць другую пасьцель, і ўсё канчалася нічым. Сёньня ён проста ня мог сабе даравацъ за нядбайнасьць, гатовы ўкусіць сябе за локаць. Але і не намякнуў Сідорчык пра свае затрудненьні. Іх Карпук утаіў ад госьця, уладваючы Надзі пасьцель з усіх прылад, якія толькі меліся ў яго пакоі ды маглі прыгадзіцца. Для сябе ён пакінуў голы ўслон у прыхожай якая ў рэдкіх выпадках служыла і кухняй.

— Трапляецца, кажэце,—нешта накшталт выбачэньня, хвалюючыся праказала Сідорчык, якой млосьціла нечаканае спатканьне з Майсеевай жонкай, вельмі поўна самаахарактарызаваўшай сябе ў Надзіным ваччу.

— Чаго-ж яна так неўспадзеўкі сіганула ажно з Ленінграду?—бяз вострае цікавасьці запытаў Карпук.

— Гэтага я не даведвалася. Даволі таго, што яна, вылаяўшы мяне, недвухсэнсоўна прыняла за сваю конкурэнтку.

— Няўжо?—з лёгкай ухмылкай падаў Карпук.—Жанкі-ы...

— У кожным разе мне ня зусім прыемна быць замяшанай у гэтай сямейнай кашы.

— Кінь, Надзя, плёвая рэч. Або-ж варта хвалявацца? Бываюць усялякія прыкрасьці... Ну, а Майсей, як сябе ставіў да гэтага?.. Няўжо ён не рэагаваў на абразу цябе?

— Ня пытай... Майсею горш майго... Толькі я ўтрымала яго ад скандалу... Бр!.. (цішэй). Ён замахнуўся кулаком... Нядобра...

Яна затупала па смугла асьветленым пакоі, каб разагнаць надышоўшыя к ёй адчуваньні.

Карпук, заняты пасьцельлю, раз за разам азіраўся на Надзю.

Праз якіх паўгадзіны, калі Сідорчык крыху ўроўнаважылася ў настроі, намерваючыся лажыцца спаць, ён паведаміў:

— У мяне таксама навіны.

— Няўжо?—пацікавілася Надзя і шчыльна наблізілася да старшыні колгасу.

— У райком прапануюць зьявіцца на 20-ае гэтага месяцу.

— У райком? Па якому пытаньню?

Яна забывала нядаўную прыкрасьць.

— Па пэрсанальнаму, зразумела... Магчыма па пуцёўку на другое месца...

— Што ты, Карпук! Ня можа быць!

Сідорчык выказала гэта з цьвёрдай упэўненасьцю, але праз хвіліну ўсумнілася: яна ведала водзыў райкому аб старшыні „Змагара" і было-б нечаканым, каб ён так крута зьмяніўся. Магчыма тут нешта інакшае, толькі, напэўна, не паміма колгасу.

Паступова выклік Кропіка ў райком заінтрыгаваў Надзю Сідорчык: Карпукова навіна затуліла вобраз Алены Якаўны.

— Так, твая навіна, таварыш Кропік, мяне зацікавіла. Калі так, то і я з табою еду... Але, мне здаецца...

Сідорчык затруднілася ўпэўніць Кропіка, і той зразумеў гэта не ў сваю карысьць.

— Няхай-бы яно хутчэй вырашылася.

— Партыі лепш відаць, дзе мы будзем ёй карысьнейшымі.

— Тота-ж,—пацьвердзіў гаспадар кватэры, кончыўшы ўладаваць госьцю ложак.

Праз момант ён справіўся:

— Ці добра хаця будзе спаць?

— Ды не клапаціся... Выбачай, што надала неспадзяванага клопату...

— Падумаеш, зьвярэдзіла.

Сідорчык выпусьціла з думак запытаць, якаво будзе спаць Карпуку. Каб яна дазналася, што з-за яе яму перадстаіць праваляцца ноч на голым услоне з адным фрэнчам пад галавою,—Надзя ні за што-б не згадзілася на сваю „раскошу".

Кропік астаўся задаволеным яе недагадлівасьцю—можна было крануць свайго адзіноцтва.

— Халасьцяцкае наша становішча заўсёды дае аб сабе ведаць.

— Або хто таму вінаваты, што вам не падабраць пары...

— Хто вінаваты! Нашаму брату не да таго... Жывом, бачыш, на ходу, можна сказаць... А зьвяжыся з кім-колечы на ляту—будзеш мець па вушы Аленіных сцэн...

Ён казаў гэта не без жартаў, нават з адбіцьцём зьдзіўленьня, адкуль да яго падскочыла неспадзяваная ігрывасьць. Але сьледам як-бы што падказала яму на небеспрычыннасьць гэтага: віною быў госьць, у чыіх вачох Кропіку выявілася нябачанае дагэтуль хараство і сымпатыя. Як яму зажадалася пачуць ад Надзі Сідорчык слова—другое, у якіх-бы ён вылавіў хоць аддалены водгук на бліснуўшае ў яго сэрцы жаданьне! Ды Надзя маўчала; мэрам-бы думала пра гэта (паказвалася Карпуку), але не рашалася адкрывацца.

— Няхай то нам, мужчынам, ну а вашаму брату...

Тут хаваўся манэўр, знарок накіраваны па акрэсьлены адказ, які ў Надзі выліўся ў адно скупое

— Зразумела.

Яго было даволі, каб заключыць на сёньня нямаведама адкуль вынырнуўшы настрой.

Кропік пажадаў Сідорчык спакойлівага сну і схаваўся за дзьвярыма.

А на раніцу прышлі свае, заўсёдашнія гаспадарскія клопаты: яны зазіралі ў вокны Кропікавай кватэры, стаялі пры дзьвярах і бегалі па ўжо ажыўленым дзядзінцы. Вось ён адчыніць дзьверы, пераступіць парог і раскідаецца на часткі, стараючыся ўсюды пасьпець, не абмінуць нікога без дарады і распараджэньня, праверыць сваімі вачыма кожную рэч. Ён памятаў пра паведамленьне з райкому, не забыўся ніводнае думкі, прадыхтаванай яго атрыманьнем, усё-ж баяўся хоць што прапусьціць у колгасе, не зрабіць чаго, абмінуць, нават аднесьціся з халадком. То было-б недаравальным яму, як адданаму партыйцу-бальшавіку: „Няхай сабе праз дзень-другі і давядзецца пакінуць колгас, яго заменіць нешта іншае. І ў тую хвіліну, калі рэштка думак і клопату лётацьме па абшарах „Змагара“, іх авангард будзе снаваць новыя пляны. Жыцьцё—гэта дарога, па якой ідзеш і мінаеш розныя віды; тым болей жыцьцё партыйца ў адпаведны час вялікага соцыялістычнага будаўніцтва“, заключыў ён.

Ад гэткіх сваіх разваг Кропіку, як ніколі, зрабілася бадзёра і радасна. І ён моцна ўпікнуў сябе ў тым папусканьні налётам хваравітае разуверанасьці, якая апошнімі часамі стала да яго наведваць. Ён зьдзівіўся сабе, чаму такі дагэтуль не паспрабаваў даць ёй рашучы адпор. Тым болей будзе памятнай яму сёньнешняя раніца!

Карпук выліваў свой настрой у зацятай гутарцы з Надзяй Сідорчык. Яе стольк і знашлося ў абодвых, што яны не заўважылі, як прагаварылі ажно пару гадзін. Кропік правёў раёнку праз усю складаную, але цікавую гісторыю існаваньня „Змагара“, выпукліўшы перад Надзяю багаты зьнізак павучальных эпізодаў і выпадкаў. Паміж іх нельга было прайсьці спакойна, бяз выпытаў і паўгорнае характарыстыкі.

Сідорчык з гутаркі даведалася, што Карпук ня толькі ўсечасовы старшыня колгасу, а і яго арганізатар. Гэта акалічнасьць падняла Надзіну ўвагу да Кропіка.

— І няўжо ты-б згадзіўся кінуць „Змагар“ ды ехаць вучыцца?

— Я-б хацеў набыць больш тэорэтычных ведаў, дужа патрэбных і „Змагару“ і іншым колгасам.

Кропікавым словам не знайсьці было пярэчлівасьці тым болей, што не хапала часу яе шукаць. Ужо і так яны скралі на гутарку многа дарагое пары. Ці-ж трэба было ўмаўляцца пераходзіць да працы?

## XV

Абвешчаны сход колгасьнікаў з удзелам раённага ўпаўнаважанага суліў многа цікавага і надзвычайнага. Пра сход ішла гутарка ў „Змагары“ поўных два дні, з моманту калі даведаліся аб яго скліканьні. Многія з колгасьнікаў зьбіраліся выступаць, знаходзячы адпаведныя тэмы. Казаць хапала пра вошта, ды ці знойдзецца толькі часу выказацца. Дагадваліся і дачуваліся, куды павернуцца спрэчкі і абгаворы і што намеціцца ў іх для далейшага будаўніцтва ў колгасе. На гэткі сход няможна не пайсьці—судзілі амаль ня ўсе змагарнікі. Судзілі і ішлі. Ня ішлі, а сьпяшылі, недаеўшы вячэры, не паклаўшы спаць дзяцей. За паўгадзіны да вызначанага часу—нябывалае зьявішча—у сталовую цяжка было прапхнуцца. Больш як калі знашлося гутаркі. Амельку Цырбуна, які першым з адказных таварышоў зьявіўся ў сталовую, чуць не расьцягнулі на кускі: кожны хацеў што-колечы запытаць, парадзіцца, паскардзіцца. Сеўшы за стол, адведзены прэзыдыуму сходу, ён схаваўся ў гірляндзе лахматых галоў. Яго тэнар згубіўся ў гудзе колгасьніцкіх галасоў. Да Амелькі не падыходзілі толькі Беразак з сваёю хэўраю, якія ўлучылі сабе месца ў праходзе на кухню. У іх ішла свая размова, пэўней - згаворы. Лукаш нашэптваў Покаўку, а Покаўка Дзяруновічу. Толькі шэптам радзіліся на выступленьні, бо кожны бачыў пры печы Міклашэню, а насупроць Дзянца і Дудніка. Го, гэтыя ня спусьцяць, няхай толькі даведаюцца пра іх пляны. Змоўнікі раскідалі ўзрокамі па напакованаму людзьмі памяшканьню і ня прыкмецілі, як увайшлі ў яго сакратар ячэйкі, старшыня колгасу і ўпаўнаважаная раёну; як усе трое праціснуліся да сталу і далі пра сябе знаць выгукам Амелькі Цырбуна да прысутных:

— Таварышы, пачном сход.

Гоман зьнізіўся на некалькі нот і мейсцамі абярнуўся ў зычны шэпт.

— Ёсьць прапанова ў прэзыдыум абраць чацьверых таварышоў: Сідорчык, Восілку, Кропіка і Цырбуна, давыбраць трох колгасьнікаў. Ня будзе супярэчак?

— Ппро-оссі-ым! Дзянца, Дудніка! Рэжку!..

— Дзядзьку Лукаша!

Галасаваньнем прайшлі першых трое, зараз-жа запрошаных у прэзыдыум.

— Няправільна-а! Перагаласаваць! запротэставаў чыйсьці голас з пад кухні: яго ўраз-жа зьнішчылі дзесяткі вострых рэплік, выбухнуўшых, як усплёск прыбою.

І сьледам стала ціха, як пасьля таго прыбою, калі рухавы і порсткі сакратар комсамольскай ячэйкі, прачытаўшы павестку, даў слова Сідорчык „прадстаўніцы райкому і ўпаўнаважанай райколгассаюзу.“ Чуваць было, як дзынкалі мухі, ды з-за вакон даходзіла жабінае

крумканьне і трашчаньне цвыркуноў—праз увесь час Надзінага дакладу. Раёнку калолі вострымі ўзрокамі звыш сотні чалавек.

„Так мала пабыла, а столькі многа „праведала“, казалі жонкі і мужчыны, моладзь і сталыя, зайздроснымі кіўкамі галавы, прыдушанымі ўздыхамі, пераморгамі воч і ўзьдзячнымі воплескамі пры сканчэньні прамовы.

Узбуджэньне, зробленае Сідорчык, папярашкодзіла выслухаць Кропіка з тэй увагай, з якой выслухалі яе. Але і старшынёва слова значна адрозьнівалася ў праламленьні колгасьнікаў ад ранейшых яго выступленьняў. Ён наўзьдзіў дакладна нанізаў трапяткіх фактаў з жыцьця „Змагара“ і ня выслухаць іх ніхто сабе не дазваляў. Лёгкі шум не паперашкодзіў гэтаму—выявілася з спрэчак, у якіх, як і павінна было чакаць, цэнтральнымі асобамі фігуравалі сакратар ячэйкі і старшыня колгасу. Кропік і Васілка пачулі ўвочы ад колгасьнікаў многае з таго, аб чым ня было калі падумаць, але што ў агульнай гаспадарцы мела сваё практычнае значэньне. Актыў колгасьнікаў знаходзіў упушчэньні з боку кіраўніка колгасам у патрэбнай дысцыпліне, несваячасовае вырашэньне некаторых пытаньняў, адставаньне ў ажыцьцяўленьні прынятых сходамі і нарадамі пастаноў. Можа незнарок, выпадкова, але Кропік інады не ўсур‘ёз глядзеў на іншыя рацыянальныя падказы з боку дбайлівых колгасьнікаў. То было залішнім, усё-ж паставілі яму ў віну і дрэнны ўраджай гародніны і выбар не адпаведнага месца для пасеву тутуню. Падказалі на непаднятасьць падгорачнай цаліны і на сьцясьненьне ў пашы колгасьніцкіх кароў. Вышла наверх і справа з завінаватасьцю малака. Усё гэта канстатавалася, як дробныя недахопы ў даволі буйнай „Змагараўскай“ гаспадарцы. Апошняя, вядома, мела і шмат посьпехаў у сваім разьвіцьці: ці-ж можна параўнаць яе з тым, што было два гады таму назад. І, бязумоўна, што на гэтых посьпехах ляжыць пячатка Кропікавых стараньняў, яго, можа, і недастатковай, але ўважлівай дбайнасьці і талковага падыходу.

Было-б несправядлівым замоўчваць дапамогу Карпуку, якую той знаходзіў сабе з боку Майсея. Сакратар ячэйкі быў трэцьцім за час Кропікавага кіраўніцтва „Змагаром“, тым ня меней калгас у многім адчуў на сябе Васілкаву гаспадарнасьць. Яго толк і веды ў сельскай гаспадарцы сталі знаёмы ўсяму колгаснаму колектыву работнікаў.

Лукаш Беразак, узяўшы слова ў парадку запісу, асабліва выпукла, нават старанна адцаніў гэты Майсеевы якасьці; але побач з гэтым ён, хоць і ў мяккай форме, не абмінуў агаласіць створаную ім востра тэндэнцыйную лягенду аб тым, што „Змагар“ меў-бы больш выйгрыш для свайго ўмацаваньня пры „непасрэдным кіраўніцтве ім таварышом Майсеем Васілкай“. „Гэта думка знаходзіць сабе прыхільнікаў сярод шэрагу актыўных колгасьнікаў“, заключыў ён, у болей цьмяных намёках закінуўшы Карпуку віну ў пазычцы Міклашэню двух пудоў пшаніцы.

Прыкрае ўражаньне ад Лукашовага выступленьня, пакінутае на Кропіка і на вялікую частку сходу, поўнасьцю згладзіў сваім словам Амелька Цырбун. Ён, зразумела, „ня можа замаўчаць Карпуковых недахопаў, але ніколі ня згодзіцца, каб імі з задняю думкаю зацемнялі старшынёвы дадатныя бакі і дазвалялі некаторым таварышом разводзіць пустую дэмагогію".

„Гэтым „дбайцам" за супольную справу „Змагара"—паднятым голасам закончыў сакратар ячэйкі:—„ня лішне было-б азірнуцца на сябе і паказаць сходу свае стараньні, а не закідваць шпількі ў чужы гарод".

Майсей Васілка быў згодзен з папярэднім прамоўцам і намякнуў дзядзьку Лукашу на шкоднасьць яго ўстановак.

Беразак не спадзяваўся водпаведзі сабе з боку сакратара ячэйкі і многазначліва перазірнуўся з сваімі суседзямі. Покаўка нешта заўважыў яму ад сябе і адмоўна кіўнуў галавою, што, бліжэй ўсяго, адзначала: „памаўчы лепш на гэты раз". Але рада гэта запазьнілася: атмосфэра дайшла да высокага напалу, і Беразакова слова паслужыла ўдзячным матар'ялам для пераходу самакрытыкі ў рукі радавых колгасьнікаў. Пачалося з Міклашэні, які адплаціў, папершае, Беразаку за яго „плявузганьне і закіды наконт выдуманай гісторыі з двума пудамі пшаніцы".

„Навошта гэта жаваць, як карова жвайку, пры кожным выпадку," гняўліва казаў Міклашэня, апэлюючы да соценнай грамады колгасьнікаў:—„Каму патрэбна гэта хлусьня, скажэце таварышы. Ці не хаваецца ў ёй якаясьці злосная хітрасьць дзядзькі Лукаша! Ці не заслонаю ён бярэ гэта ад сваіх зусім няспрыяльных адносін да нашае агульнае справы. Так, у гэтых Беразаковых манэўрах хаваецца скрытны падрывальны наступ на наш колгас. Удумайцеся: увесь час яму карціць скомпрометаваць таварыша Кропіка і перасварыць яго з актыўнейшымі работнікамі „Змагара" (Беразак: „Асабліва з табою. Ха-а-х!) Гэту шкодную агітацыю мы павінны вырваць з карэньнем. (Покаўка. „Залішня, Мікалай, залішня". У аколеньні Беразака шолам і тупатня). Давайце лепш, па прыкладу таварыша Цырбуна, завострым самакрытыку над самімі сабою. (Дзяруновіч малаўразумліва: „А цябе даўно пара прасьцягаць як належыць"). „Ня любіце, дзядзька Стась?"—праз галавы колгасьнікаў запусьціў у Дзяруновіча Міклашэня.—„Ня любяць праўды!"—паглядзеў ён налева, дзе ўважліва за ім з-за сталу сачыла Надзя Сідорчык. „Ды гэта мала мяне абыходзіць. Усё-ткі я не схаваю ад сходу тэй, часта, шкоднай працы, што мы дапускаем у агульнай сваёй гаспадарцы. Вось мы каля месяцу жалі-жалі. Добра, скажэце, жалі і дажалі. А я скажу, ня зусім і добра, бо: ці мы пільнавалі, каб збожжа, як сьлед прасохла—не, ці старанна вязалі снапы—ня думаю. Во, няхай Герасім Лыч скажа, колькі мы коп з ім паперавязвалі... А ці пацікавіўся, хоць-бы дзядзька Лукаш, пападзьбірваць каласкі на іржышчы, як то ён ёмка ўмеў рабіць на

сваім полі?.. Возьмеш яшчэ... („Пяць хвілін асталося“,—у голас праказаў Міклашэню Васілка). Хутка канчаю (Покаўка: Ведаем усё! Скажы пра сябе! Канчай!). Не хвалю я і сябе, але-ж дзядзька Стась таксама не схаваецца нідзе: недакоша ўсюды яго знойдзе (агульны сьмех), агрэхі ў зябі на жыта, выцягнуць яго за каўнер ды на сонейка. Так, што, таварышы (канчаю, канчаю!), нам трэба абярнуцца на сябе, праверыць нашу дбайлівасьць, нашу рупесьць, наша стараньне і ўзяць нашага „Змагара“ і, як улюбёнае дзіця, пабацькаўскі прытуліць да сябе. Вось што я хацеў сказаць... я скончыў“.

Міклашэнявы думкі працягалі і разьвівалі далей яшчэ многа з выступаючых. Тое-ж закліканьне да пільнай работы, да перабудовы адносін да колгасу. І побач з гэтым бязьлітасная крытыка недахопаў.

Надзі Сідорчык, захопленай дзелавітасьцю сходу і яго практычнай накіраванасьцю, многа чаго прышлося сказаць у заключным слове. Яна адмеціла розьніцу ў выступленьнях Беразака і Міклашэні, холадна абазвалася аб першым і ва многім згадзілася з другім. Об'ектыўна і корэктна кранула яна дадатных і адмоўных бакоў у таварыша Кропіка і ў таварыша Васілкі, але разам з гэтым ня мінула адмеціць ускладзеную на іх адказную працу.

Карпук Кропік, з свайго боку, заявіў сходу, што і ён не сьвяты і „тыя таварышы, якія адмячалі яго слабасьці і ўпушчэньні, былі зусім правы“. Ён толькі маракуе на іх, чаму яны ў процэсе самае работы, заўважыўшы яго ўпушчэньні, ня спыняць яго і адкрыта, па-таварыску, ня скажуць: „Тут ты, браток Карпук, ня праў. Зрабі, вось, гэтак, а не па свойму, і ўгледзіш, колгас выграе ад гэтага“. Я думаю, што калі нам давядзецца ўсім разам працаваць і надалей, то мы сумеем цясьней ставарыскавацца і кожны наш недахоп разам выпраўляць дружна і на ходу. Няхай адно толькі таварышы колгасьнікі запамятаюць, што: я не гаспадар, а вы не рабочыя, усе мы гаспадары і роўныя ўласьнікі нашае змагарскае гаспадаркі, якая ёсьць часткаю рэспубліканскае колгаснае гаспадаркі“.

Кропіку папляскалі ў далоні і амаль увесь сход выказаў адобраньне гучным вольным уздыхам і ласкальнаю ўхмылкаю на тварах. Гэта было ўпяршыню пры такіх абставінах. І таму яно вышла цёпла, таварыска і нават урачыста. І таму ходаўскі настрой моцна крануў старшыню колгасу, якому цяжкімі паказаліся думкі аб магчымым расстаньні з „Змагаром“. Думкі яшчэ паглыбіліся, калі нечакана двое колгасьнікаў, Якаў Цяцера і Карп Шастакол абвясьцілі сябе ўдарнікамі і заклікалі ўдзельнікаў сходу запісацца ў штурмавую калёну.

Майсей выбіраў з бягучых спраў важнейшае пытаньне, на якім бы скончыць сход і ўсё ня мог яго выбраць, яму цяжка было адарвацца ад назіраньня таго, як адзін за другім шэраг колгасьнікаў адклікаліся на прызыў двіх энтузыястаў запісам у калёну.

Лепшага заканчэньня сходу нельга было і прыдумаць. Яго трохгадзінны працяг паказаўся няпрыкметным.

## XVI

Праз паўгадзіны, ужо каля першае, пры Кропікавай кватэры стаяла толькі што прыгатаваная падвода. Старшыня колгасу ўладаваў сядзеньне, нацягваючы дзяругу і ўтоптваючы ў передок мяшок з сенам. Міклашэня папраўляў на рыжым набадры і сядзёлак, пахлопваючы каня па тлустым крыжы. Сідорчык з Васілкай перакусвалі на кухні ў сталовай. Гаспадыня завязвала ў газэты „што—небудзь" на дарогу старшыні і раёнцы. Але і тыя, што сядзелі пры ёй, і тыя, што тупалі каля возу, былі заняты аднакай гутаркаю—аб праведзеным сходзе. Сход паслужыў як-бы мяжою: па адзін бок яе засталося збожжа з сіўцом ды сьвірэпай, а па другі—чыстае, як крынічная вада. Выразнасьць гэтага натхняла і хвалявала ўдзельнікаў гутаркі, роўнасходнай у сваім настроі і накіраванасьці.

— Ад гэтага сходу можна многа чакаць,—казала Надзя Сідорчык Майсею Восілцы.

— Я проста пасьвяжэў!—хваліўся той.

— Малайцы, рэбята, нечага сказаць...

— Знатны сход, трэба замацаваць яго настрой і мы мецьмем круты паварот.

— Кожны з нас, таварыш Восілка, павінен азірацца на сябе, гаварыла Сідорчык.—Зрабіў добрае, застаўляй варушыцца другога, а без актыву за сьпіною некарысна вымаць сучкі з чужога вока... На гэта ахвотліва падбівацьмуць нашага брата розныя Беразакі.

— Ты правільна кажаш... Я, прызнацца, заўсёды сьледваў гэтаму правілу... ды, бачыш ня зусім цьвёрда... Ідом-жа хутчэй, а то яны прачакаюцца...

Між тым Кропік ужо пяты раз папікнуў Сідорчык у яе нерупясьлівасьці. Але ні самому перабегчы некалькі сажняў, ні прасіць гэтага ад Міклашэні, ён не дагадваўся. Тым болей, што яны па сабе не маглі закончыць разьнятае гутаркі наконт вынікаў сходу. Асабліва глыбокае ўражаньне асталося ў старшыні колгасу. Яно ня ў меру захапляла Кропіка таму, што супала з момантам, як суліў магчымую перамену ў яго жыцьці. Таму Карпук вытлумачыў сабе многія выступленьні, як праводзіны, калі, звычайна, вострасьці згладжваюцца і выступаюць напаверх цёплыя, часта сантымэнтальныя, пачуцьці. Праўда, апошняга нельга было бачыць ні ў слове Майсея, ні ў выступленьні Хведара Рэжкі. Можа крыху завільгаціў сьлязьніцаю сваю прамову Міклашэня. Але старшыня колгасу быў упэўнены ў яго шчырасьці і таварыскай прастаце.

— Я з удзячнасьцю прымаю здаровую крытыку, абы яна была позытыўнай,—тлумачыў ён, упоцёмку рэвізуючы брычку і вупраж:— Гэта трэба, таварыш Міклашэня. Актыўнасьць там—дзе здаровая суполка, і, наадварот, там добра, дзе назіраецца актыўнасьць... Вось чаму мне моцна закалола ўнутры, калі я пасьля гэтага сходу еду...

можа з тым, каб ужо не вярнуцца. Да чаго-ж у даным выпадку саладжавая лісьлівасьць, крывадушша гэтак праціўныя бальшавіцкай адкрытасьці і прастаце... заўважыў мо?..

Міклашэня тузнуў яго за рукаў, бо першым пачуў набліжаныя з-пад сталовай крокі.

— Чаго-ж праўды не сказаць у вочы?—неазначальна вымавіўся старшыня колгасу і запаліў цыгарку.

— Ну, мабыць шчыльна, і-ж падвячэралі, што так доўга заседзеліся,—кінуў ён на стрэчу Сідорчык і Васілцы.

— Ня дрэнна,—адказала раёнка:—і цябе не забыліся, во...

Яна здалёк працягнула ў бок Карпука маленькі пакунак, але ён, зразумела, у цемрыве яго не заўважыў, хоць задаволена адказаў

— А то і да рэчы: млосьціць.

Сідорчык абмацала сядзеньне ў воза, прыглядзелася на непазнанага Міклашэню і ўспомніла:

— Не забыць бы сваіх манаткаў. Запалкі хто мае?

— Я ўсё захапіў—папярэдзіў Кропік і пазваў:—сядайце т. Сідорчык, а я праз хвіліну.

Надзя ўсаджвалася, Міклашэня разбэрсваў лейцы і падбіраў недаедзеную канём канюшыну; Васілка ўпрашваў раёнку не забыць наведваць колгасныя дажынкі. А ў гэты момант Кропік пасьпеў зьбегаць у кароўнік праведаць Буяна.

— Наш хворы маладзец,—гукнуў ён вярнуўшыся да воза:—падбірае сена... Ты ўжо яго, таварыш Васілка, папільнуй.

Сідорчык ня стрымалася, каб не засьмяяцца, але, крануўшы ехаць, калёсы сваім грукам паглынулі яе малады і здаровы сьмех.

— Толькі ня бойся там. Карпук!—павяртаючы да кватэры, прыпомніў Кропіку сакратар ячэйкі.

Яму не адказалі: разгарадзіўшы іх будынак скраў Майсееў голас.

*(Канец будзе)*

# Менск

Учора крочыў па бруку.
(Побач мурзатыя вітрынкі)
Ногі ў выбоях—
мука.
Сёньня—
асфальт,
брусчатка
і клінкер,
І рэек трамвайных сталь.
І горда ўсталі
сурова і цьвёрда
будыніны сьветлыя
ў сотні кватэр,
І вось гаспадар на балконе горды
— рабочы
БССР.
У 20-ым
зруйнованы маршалам горад.
Павырваны з мясам
скрываўлены брук.
А сёньня імпэтны,
агнём сэмафораў
няспынна глядзіць,
трансфарміруе рух.
Ды гэтай работы
ня вычарпаць кнігам:
На пустках былых—
расквітнелі сады,
У бэтонныя трубы
замкнута Няміга
і пасмамі чэрваў
ў зямлі правады.
Поту працоўных—
дарэмна ня ліцца:
Дні бальшавіцкіх
зруху і зьмен—
І цэнтрам культуры,
рабочай сталіцай

Стаў
  Наш
    Менск
З гамай фабрычных сырэн.
Люблю цябе я,
        калі лёгка на сквэрах
гушкаецца
      зіма
на галінках;
        і плямаю шэрай
На іртах дзяўчына—й няма.
І толькі пялёсткамі шэрань,
І сьмех:
      — стрымай.
А заўтра,
      У марозны сірэнавы золак
ты йдзеш на вытворчасьць,
            і вось... ці яна
Цябе абагнала ў натоўпе вясёлым?
У руках бутэрброт,
          а вочы... бездна.
Ударніцы. На завод.
На тварах крамяны
          ружамі холад.
Бяжыць на работу
          рабочы посёлак.
Люблю цябе Менск,
          калі раніцой гулкай
Уздымаеш паверхі
          тэатраў, дамоў.
Шумяць інстытуты,
          і ў звонкіх завулках
Снуюць грузавыя „Амо“.
Цябе руйнавалі ў шчэнт окупанты,
ты пусткаю быў,
        быў магілай руін.
Маршалак з цябе
          зьдзёр апошнія транты,
і гымны яму
        склалі ў песьнях сваіх
нацдэмы,
      маршалкавы
          халуі.

Хацелася ім
раскідаць
за портфэлі
рабочых штандараў
чырвоны пажар,
Каб плакала голь
беларускіх асьліц,
каб горда стаяў
на руінах жандар.
Павыгналі ворагаў.
Адбудавалі.
Горда ўзьнесены
шэрагі сьцен.
Шостаюць ціха
аўто па асфальту.
Справай
Заняты
Менск.

1930—1932 г.

Сьцяпан Нортман

## Гады праміну лі

Прабеглі гады,
Праімчаліся экспрэсам,
І вёска інакшай
Мяне спатыкае.
Жыта сьцяною
Паўстала ля лесу,
Колас там буйны
Зярнё налівае.

Адны папялішчы
Былі тут калісьці,
(Пакінулі помнік
Ліхія уланы).
Аб гэтым шапталі
Кляновыя лісьці,
Шапталі пра гора...
Пра раны...

Дзе межы былі
Усьцяж праз палоскі
І конік худзенькі
Цягнуў стары плуг.
Там вецер разьнёс
Аб другім пагалоскі,
Там трактар узрывае
Зямлю як пух.

Як вокам абкінуць
Колгаснае поле
Шэпча калосьсем
Зялёнае жыта.
Пра часы былыя,
Пра новую долю...
Пра тое, што з бою
Здабыта...

Вялікай хадою
Адмераны мілі,
Штодзень барацьба
І штодзень перамога.

І сэрца мне цешыць
Багатая ніва
На полі
Спрадвечнай аблогі.

* * *

Ня шкода мне вёскі
З трухлявай страхою,
Разьляцеліся звычаі,
Як ад ветру дым.
Праходзім свой шлях мы
Інакшай хадою,
У маладой краіне
З сэрцам маладым.

* * *

Гады прамінулі,
Праімчаліся шпарка,
Пакінуўшы сьлед
На жыцьцёвай дарозе.
Праз некалькі дзён
Засьпявае жняярка,
Бо там, дзе была
Зямля ў аблозе,
Наліваецца жыта
У буйных калосьсях.
І песьня гучыць
Ня журбой—
— маладосьцю.

Ліпень, 1932 г.

---

А. Буза

# Ранак

Пазалотай загараўся золак,
Зелянелі хвойкі у бары...
І ліліся песьні комсамолак;
Трахкалі жняяркі, трактары.

Туманы, як белая бавоўна,
Прапаўзалі рэчку па вадзе...
Гэтым ранкам—
кожны сонцу роўны.
Гэтым ранкам—
жыць і маладзець.

Вось і сонца выплыла з-за гумнаў,
Рассыпала срэбра ў паплавох...
Выежджала нашая комуна
Сустракаць машынамі жніво.

Усьміхнулася палёў жытнёвых далеч,
Пахінуўшы долу каласы...
Брыгадзірша—
комсамолка Валя
Загадала:
— Сып, браточкі, сып!

Коні беглі. Цокалі падковы.
Ветрык пыл махоркаю махрыў.
Гэты ранак радасьцю жніўнёвай
Комунараў нашых надарыў.

...Рэчка... Поле... Спраўныя машыны
Папаўзьлі ў збожжавую шыр...
Пад машынамі зашасталі руіны,
Пахінуўшы долу каласы.

23/I-32 г.

**Юрка Бітус**

# Падшыпнікі

(*апавяданьне*)

У мэханічнай сьлясарні камуны „Уперад“ ніколі ня было гэтак ціха і крыху сонна як сягоньня раніцай, мо таму што сонца неяк заплакана вынырнула з-за хмар ці ад імжы, што дзень акунула ў муць?

Ах, сонца, сонца!

Ах, моманты і дні, ах дні і хвіліны!

Вось-жа бываюць такія з іх, што родзяць сум і тады трэба чалавеку хадзіць схіліўшы галаў долу, стаяць бы зачараванаму, загіпнатызаванаму.

Было ня рана, як неяк груба і злосна бразнула завала майстэрні і цяжка ступаючы, чапляючыся ботамі за розны лом, увайшоў у яе брыгадзір Каралькоў Андрэй. А якая лёгкая паходка была раней, усьмешка вечная і губ і воч?

А сёньня туга распальваўся горан, павольна, нібы без надзеі на тое, што нейдзе, заводзіўся рухавік унутранага згараньня.

Плян сышоў у клін.

Сёньня ня было работы.

„Хіба дробязь якая знойдзецца?.. От нараблю складаных нажоў— хлопцам камунарам раздам“—думаў Андрэй і нехаця браўся за абцуй. Неўзабаве ў майстэрню ўваліліся Алесь і Юзік.

— Добры дзень, дзядзька Андрэй. Ну як?—віталіся яны, лускаючы сланэчнік.

— Здаровенькі.., І ні ну і не ніяк. Справа—пшык... Разумееце?

— Ідзеце вы. А старшыня?—прыставаў Алесь.

— Старшыня старшынёй. Хіба родзіць?

— А заяву-б накаціў аж у Менск. Вылаяў-бы як сьлед каго. Што ета за работа?—і Алесь нэрвова кінуў рашпіль у бок з выглядам „хай хоць і паломіцца дык ня шкода“.

— Усіх пыталі—няма. Нават у пуцілаўцаў. Чуў? Заказы, брат. Ты-ж не адзін камунар гэткі каб табе ўсё давай. Старшыня вунь некалькі тэлеграм даў і ...пшык.

Размова ішла пра падшыпнікі для трактараў. Трактары-ж стаялі ў гаражы, апусьціўшы вушы і выгляду нават ня было ў іх бадзёрага. За тры гады працы ў пяці з іх зусім спрацаваліся падшыпнікі і трэба было іх замяняць. А чым? А як? І гора-б ня было Андрэю каб ня гэты сход учора... і ня вясна каб раптоўная, блізкая... Не. Ня сход вінаваты. Не. Ён сам, Андрэй. Ён ня можа каб у гаспадарцы было кепска. О, не! А цяпер, калі ўчора бюро партыйнай ячэйкі высунула яго кандыдатуру... О, не!

Жалезны чалавек—сакратар партыйнага калектыву ўчора на сходзе высунуў яго кандыдатуру... Памятае, Андрэй, як цяпер.

Падыйшоў гэты жалезны чалавек да прэзыдыума, рукі яго абцугамі ўпіліся ў край стала... Як дзіўна і радасна ён, цьвёрды, настойлівы, гаварыў аб вясьне, аб палетках і шырыні...

Ён гаварыў:—„Трактарная калёна—наша самае балючае месца... „Захварэла пяць трактароў... А камунары павінны мець здаровы трактар... Вясна-ж таварышы... І мы, ударнікі палёў, не падкачаем... Здолеем". І сход шумеў.

Тады жалезны чалавек паказаў на Андрэя... О, гэта ўсё так памятна. І шумелі камунары... Жалезны чалавек гаварыў:

— Бюро партыйнай ячэйкі адказным за рамонт трактароў вылучыла брыгадзіра майстэрні, Каралькова Андрэя... Хто за?

І жывы лес рук качнуўся ў вялізарным клюбе... лес рук за...

І вось цяпер, сягоньня... Што рабіць?

— Запалі дык ня трэсьне... Падшыпнікаў няма, а бяз іх „трактары ня пойдуць?

І думае Андрэй пра жыцьцё... пра сход... пра сотні рук... „адказным за рамонт трактароў вылучыць Андрэя",..—зьвінела ў яго вушох.

— Такая дробязь, а трымае ўвесь ход,—спачуваў Андрэю Юзік.

— Дробязяў няма,—агрызаўся Андрэй,—от вазьмі ды выкінь жэклёр з карбюратара—паедзеш?

— Ну, не.

— О то-то-ж... Ды годзе аб гэтым. Ты падскоч, Юзік, сюды... Вазьміся... Прыўдар,—клікаў Юзіка, узяўшыся за зубіла і па пахі ўвайшоўшы ў справу складаных нажоў, Андрэй.

Калі надыйшоў вечар і старшыня камуны прынёс у майстэрню безрадасныя вынікі апошняй тэлеграмы, Андрэй з абвісшымі рукамі і галавой вяз у думах: „як выйсьці з становішча?" І зноў неяк груба зьвякнула завала, цьвігікнуў ключ. Сунуліся ногі па зямлі, сьлязьлівае сонца чырваніла Захад. На трактарным фронце было без перамен. Андрэй ішоў да хаты.

Ля гаражу нікога ня было,

Затаіўшы боль у сэрцы маўчалі адчыненыя „фардзоны", схілілі галовы долу безпадшыпнікавыя „Інтэры" на дварэ, як і заўжды вечарам, было ціха, вільготна. Капала са стрэх вада, туман глытаў апошнія сьнягі.

„Як хутка за працай праходзіць час?—думаў Андрэй,—яшчэ нядаўна скрыпучыя марозы, а зараз подых цяплыні... Шуміць, бруіцца вада, уздрыгваюць прасторы... Хутка вада адыграе, тады зьявяцца паўднёвыя вятры, афарбуюцца дрэвы ў зялёны колер, поле будзе пахкае, дражджавое... А многа поля ў нас... і цяжкае поле—балоты асушаныя, дзірваны, рукамі нельга, а машын...

І Андрэй раптам пачуў востры пах смалы ад вялікага новага дому, што выцягнуўся ў рад з іншымі, доўгімі і высокімі.—На калі-

доры пакуль дайшоў да свайго пакою яму ўспомнілася, як яны жылі ў шалашы тры гады таму назад, як на гэтым месцы, дзе цяпер камуна, шумеў густы бярэзьнік перамешаны з касматымі хвоямі ды блішчэла воўчым вокам вакенца якогась бедняка-аднаасобніка увечар. Глуха званілі тады балотныя вятры, скавыталі лісы ў гушчарніку, па начох дзіка крычала сава.

Прагалак быў абнесен непраходнымі балотамі. Новыя дні, што цыклёнам кружылі над зямлёй—забраліся і сюды. Прыехалі людзі з тэодалітамі, падзорнымі трубамі, экскаватарамі. Прарэзалі балотную твань, сталёвымі рукамі індустрыі, страсянулі адвечна-журботны абшар з ламамі, рыдлёўкамі, малатамі палезьлі ў аскаленыя зубы стыхіі.

І прадувала ветрам, дым вогнішча ля шалашу выядаў вочы, ежа хрушчэла ад вугальля і попелу.

Дні сырыя, набраклыя цягнуліся павольна, аднастайна расплываліся ў цэлую вечнасьць.

Калі Андрэй адчыніў дзьверы ад вакна павеяла ветлівай усьмешкай дачкі і хвалямі радыёгучніка.

— Тата! Пра цябе ў газэце надрукавалі.

Лёгка зрушылася ад лаўкі, паднесла газэту.

— Глядзі.

Андрэя хвалілі за працу ў майстэрні. Ударнікам прызывалі, і замест таго, каб атрымаць радасьць ад тлустых прыгожых радкоў, Андрэй халодна палажыў газэту, пачаў падбіраць рукавы ля ўмывальніка.

„Як крыўдна,—думаў ён,—ці-ж так. Які я ўдарнік. Яны ня ведаюць! Уперад я праг да машын, глядзеў іх, а зараз падшыпнікаў няма.. і вясна. Не, я кепскі. Навошта пісаць, гнаць стрэмкі пад душу, кал яна даўно застрэмлена.—Клякатала вада. Званіў умывальнік. І здалося Андрэю, што кляпан умывальніка—шатун, а падшыпніка нама.

Ён зусім не амыў рук, пачаў выцірацца. Увэздзгаў у мазуту ручнік, а ім твар. Хацеў памыцца ды загрымiраваўся як на сцэну.

— Тата!—сьмяялася лачка—у вачох яе гарэлі агні задорнасьці,— то-ж гразь. Цёплай вады прынесьці?

— А няхай...—павольна махнуў рукою Андрэй.

Кружыліся рэчы ў хаце.

Патрон электралямпачкі, шкляная цаглінка з атрамантам на стале, драўляны папяросьнік, ручны гадзіньнік на цьвічку ля вакна— усё лазіла, перакручвалася, кулялася у выглядзе медзяных прыгожых падшыпнікаў.

Андрэю хацелася затрымаць іх, злавіць у пальцы, вобмацкам адчуць ці моцныя, панесьці цяпер увечары да трактароў у гараж і там званіць імі, званіць...

Цэлую ноч ня спаў:

„Ну як, як выйсьці з клапот?.. Я, Андрэй, павінен... І чаму

я, а ні хто другі? Я павінен адрамантаваць трактары. Ну што я, разаб'юся? Ну, бярэце з мяне што хочаце... падумаеш...—ячэйка вылучыла.. Дык дайце-ж мне пад рукі падшыпнікі і халеру розную... От што... Каторы дзень звоняць, а адказы—плач адзін.. Прышлюць"...

— Дурань!—услых прамавіў ён на сакратара партыйнай ячэйкі.

— Андруша,—мабыць пачуўшы інстынктыўна аказалася жонка,— што з табой?

— А сьпі... ня будзі...

І ў думах паўсталі ўспаміны: завод, напружанае становішча абароны і... выліўка патронаў...

Курыць унутры завод, дым сьцелецца... Андрэй сам не працаваў на заводзе, але бачыў як патроны ліліся ручайкамі гарачая медзь...

„А што каб і тут ручайкамі,—усплыла думка,—выліць... падшыпнік. Горан у мяне гарачы... Ня'о не растопіць?.. Як патроны... ручайкамі... ручайкамі..."—марыў яго і заносіў, у нейкі шум і цішыню, сон.

* * *

Марозіла. Раніцу Андрэй спаткаў з непакоем. Устаў, мурашкі нейкія лазалі па твары, вочы не знаходзілі занятнага прадмету. Усё абрыдлае. Усё вядомае. Гняла думка пра адно, пра медзь.

У хаце ўсе яшчэ спалі, калі ён выйшаў на двор. Спала і камуна.

А ветла, прыгожа раніцай.

Сьнягі прыкметна пачарнелі за ноч, плямы конскага гною выразна афарбавалі дарогу. У кароўніках гарэлі агні, вінным пахам несла ад бэтоннай сіласнай вежы.

Мерна і аднатонна шастаў гатар, шлёгалі ў млыне пасы. Узбадзёрваюча-глухімі тахтамі дыхалі шатуны лакамабіля. Чух, чух, чух!

Нэрвова ўзбуджанай паходкай Андрэй бег у напрамку да ракі. Імкнуўся хутчэй зайсьці ў майстэрню пакапацца ў лам'і жалезьзя, а можа? А можа там?

Ён памятае аднімаў калісь ад нейкае сапсаванай саламарэзкі... Ладны кавалак... А калі няма?

І пасьпешна адчыняецца завала, кідаюцца дзьверы не зачыненымі. Андрэй лезе пад варштаты, лаўкі, швырляе differentнае жалезьзе, сьлясарню ўсю загругасьціў ломам. Разьбягаюцца вочы, шчупаецца кожны падазроны, замызганы кавалак чыгуна, жалеза. А можа медзь? І мільганула ў вачох усьмешка. З сумёту апілак, іржы глянула жоўтым патухшым бляскам медзь. Тады Андрэй доўга трымаў яе ў руках, сеў на ціскі, падкідаў у ладоні, разглядваў як вялікую рэдкасьць, як незнаёмага, далёкага чалавека.

Ён яшчэ ўночы успомніў пра яе, ён ўночы вынайшоў спосаб як зрабіць тут у сваей майстэрні падшыпнік, які робіцца толькі на буйных заводах.

— А ну-ж.—голасна сказаў ён застыўшым варштатам. Паспрабуем.

І тут у малой майстэрні камуны раджаўся мініатурны фармовачны цэх.

Андрэй хутка зьбегаў у глінішча з кашалем, прынёс гліны, вымясіў як сьлед, прыбавіў апілак жалеза, пяску. Тады з бляхі зрабіў скрыначку, затрамбаваў глінаю, сапраўдным падшыпнікам паглыбленьне выгнаў. Зьверху прырабіў круглы падобны на ролік каток, апусьціў яго крыху ў паглыбленьне... Калі скончыў форму і пачаў распальваць горан, у пярэдняй пачулася хада.

Гэта ішлі на працу Алесь і Юзік.

У Андрэя зьявіліся ў вачох агні радасьці, ён ня ведаў як сустрэць хлапцоў, як выказаць надуманае і ці варта?

„А што калі ня выйдзе"—пасьлізнулася думка, і Андрэй схапіў барджэй пярэднік, накрыў форму.

— Добры дзень, дзядзька Андрэй.

— Здаровы, здаровы арлы ... Малайцы што прышлі заране ... Нагрузачка вам...

— А што рабіць будзем, дзядзька?—пытаў адзін з іх.

— Работы па во,—павёў рукою па шыі Андрэй.—Ты Юзік, схадзі онь тую трубу прынясі, што на ганку ў сьвірні. А ты, Алесь, як дужэйшы на, пасячы ось гэты кавалак на драбнейшыя часткі... Я—ля горна буду—трэба дзяржаньне рабіць...

Алесь вынес на двор кавадла, разьбіваў кавалак медзі. Юзік прынёс трубу.

Тады Андрэй адсек канец трубы, у горан вугалю насыпаў паболей, каб лягчэй было адагрэць і загнуць.

Рабілася „вагранка" для плаўкі медзі. Хлопцы з дзіцячай цікавасьцю сачылі за кожным рухам Андрэя, дапытваліся, што з гэтага выйдзе, а Андрэй са штучнаю сур'ёзнасьцю усё інтрыгаваў іх.

— Маторчык малы хачу зрабіць, у лодку... ведаеце. Рэчка наша пераходнаю стане...ось... дзіўны маторчык выйдзе. Ды досыць вам цікаваць...

Сіпеў горан, рассыпаў празрыстыя іскры, а іскры падымаліся ў гару вогненнымі тонкімі ніткамі, сетку вілі прыгожую, бліщчастую...

Нібы мёрзлыя кавалкі медзі таялі ад белага подыху горна, асядалі на дно, расплываліся ў цяжкую чадную вадкасьць. Горан абступілі маладыя сьлесары,—Андрэй па старому ўяўляўся імі нейкім таемным, але яшчэ больш блізкім.

Алеся ўзяла цікавасьць:

— А што калі я пяць капеек укіну?

— От дзіва... і прападуць... растопяцца,—заўважыў хтось збоку.

— Чорт іх бяры... Ну...—зрок усіх пабег за пятаком у трубу.

І мядзяк растапіўся.

— Такая жара ўсё пажрэ. Аднэй волі, сілы чалавека збаіцца... Етай яна не растопіць...—тлумачыў Андрэй пра агонь.

А сэрца білася. У грудзёх разьлівалася цяплынь, бы горан, які разгараўся ў іх ад наплыву пачуцьця і ўзьнятасьці. Кожны крок і рух яго фіксаваўся вачыма прысутных. Калі медзь растапілася, Андрэй падыйшоў да століка, скінуў пярэднік з формы.

У майстэрні сьціхшэла.

— А цяпер не вазьмі Алесь абцугі, патрымай, а я ўвальлю сюды—паказаў ён на вузенькую норку, што бегла ў глыб скрыначкі—формы.

Ружовая напружанасьць акапалася ў кожнага на твары.

Андрэй апрануў скураныя, запэцканыя рукавіцы—пальцы яго моцна ўпіліся ў дзяржаньне.

— Хадзі-ка сюды „пекла"—тузянуў ён за дзяржаньне, адказваючы на супраціўленьне горну, які ня пускаў з вогненных абдымкаў трубу—ваграку, трымаў яе чырвона-сінімі языкамі полымя.

А потым... салапнулі агні ўгару, з нейкім гікам і дзвынкам здалося, выляцеў нехта з формы, насіўся па майстэрні як шалёны, плакаў і рагатаў.

— О-о-й.—чуўся працяглы ёнк чалавека з пажаўцелага воблака дыму.

Чорная фігура то пранікала, то адыходзіла ад сьцяны, курчылася, выпроствалася. Рука яе нырала ў прастор павольна, цяжка бы адпіхала нялюбага чалавека з грубымі і страшнымі абрысамі твару, нахабна лезшага цалавацца. Гэта быў Алесь нядаўна шчыры ўдзельнік Андрэевай выдумкі з апаленымі рукамі цяпер. Андрэй ня губляўся. Ён у момант паласнуў у густую муць дыму, вынес на двор Алеся:

— Што з табой, кажы?—пыталі трывожныя вочы.

— Чаго равеш? Камсамолец яшчэ... А каб знарад?

— Халера,—марматаў Алесь,—нічога... Дробязь... Вось тут крыху.

І вочы Андрэя стрэліся з вострым болем Алесевых апаленых рук.

Боль холадам прайшлася па твары, а потым разьлілася па целу, тысячамі іголак кальнула аж у пяты.

— Пацярпі... зараз фэльчара прывязу,—заспакойваў Андрэй, і яго гнуткая постаць зьнікла за рогам недалёкага будынку.

Алеся абступілі камунары. Адна баба дык ужо і хустачку зьняла, каб забінтаваць рукі, другія радзілі апечаныя месцы паліць халоднай вадой.

Увечары калі хто дзе і гаманіў дык толькі аб Андрэевай вынаходцы. У Алеся распытвалі пра ўсе падрабязнасьці здарэньня.

— Падумаць,—часалі языкі бабы,—да калецтва дайсьці... І якую ён паветраю хацеў?

* * *

Сьвітала. Разам з заспаным сонцам Андрэй ўвайшоў у горад. Правёўшы ноч бяз сну ён ня толькі не выглядаў стомленым, а наадварот—сьвежым і бадзёрым да бескрайнасьці. Ад яго воч веяла запалам, сьвятлом і высокавольтным токам энэргіі. Грудзі поўніліся размахам і сілай. Каб у гэту хвіліну хто-небудзь загадаў Андрэю падняць за рог каменны лом, дык ён бы здаецца падняў. Яго імкненьне разгадаць сэкрэт плаўкі медзі подбегам гнала да знаёмага таварыша ліцейніка, штурхала ўперад.

Андрэй ня мог счакаць тэй хвіліны сустрэчы з старым прыяцелем, якая павінна была адбыцца. Жаданая хвіліна набліжалася. Вось бачыць Андрэй знаёмы будынак, пазнае знаёмыя рэчы праз вакно. Тут жыў рабочы Фёдараў. Андрэй з ім знаёмы даўно, і Фёдараў акрамя радасьці нічога іншага не адчуваў у час сустрэчы з далёкім камунарам.

Сустрэча адбылася ўрачыста. Выпіўшы чаю сябры дзяліліся думкамі аб жыцьці. Пасьля Андрэй апавядаў пра гісторыю адліўкі падшыпніка. Фёдараў дзівіўся, паціскаў плячыма, гладзіў сваю рыжую бараду.

— Ах, як цікава... Ну, ну далей—перабіваў ён часамі апавяданьне, сам раставаў у хмялёвай радасьці за бравага Андрэя. А калі той кончыў, Фёдераў растлумачыў:

— Усё надзвычайна добра, толькі трэба было ўлічыць два моманты. Падрыхтаваная форма павінна была быць нагрэтай і моцна і падругое—трэба было масу ачысьціць ад нагару.

— А выбух,—працягваў Фёдараў,—атрымаўся ад таго, што форма была сырая, халодная і там ўтварыліся пары ў працэсе адліўкі, сілы ў якіх дастаткова было на выбух. Мала таго, магло зубы каму павыбіваць.

Андрэй шчыра падзякваў Фёдарава за параду і ў хуткасьці разьвітаўшыся з яго жонкаю, дзецьмі і з ім, са сваімі хурманкамі, якія зьвярталіся паражняком паехаў у камуну.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Аж песьню вясёлую завёў Андрэй ад радасьці, калі выехалі з гораду (на вуліцы сорамна было пець аднаму на возе, а хацелася).

—За гарамі, за даламі,
Гэй, гэй,
У дальняй старане-е...

і словы песьні птушкамі аблятвалі вазы.

А другія ўжо даканчвалі:

—Трубы песьню заігралі,
Песьню аб вайне...

— Эх, Аніс, гані „віхра"... гладкі, воўк яго ня возьме... Но-о.

— Кар'ерам, кар'ерам, давай, давай, давай—
Другая Беларуская ў бой,
не адставай!

Вечарэла.

Кілёмэтраў праз два, чутна было: білася сэрца камуны, скіголіла цыркулярка, часта шастаў гатар, лапатаў начны трактар. Зарава электро-агней чырвоным і няўмеру тоўстым слупам падперла блакітна-цьмяны дах неба, узьвілося высока высока па-над зямлёй, балотам.

Зашаўкала палозьзе па гразі, заірзалі коні...

Ї тады „тпру!“ загрымела на розныя лады і інтонацыі, зафыркалі ўспацелыя коні.

Зьвякала збруя, дугі, глуха стукалі філянговыя дзьверы стайні.

Праз паўгадзіны смолкае бярвеньне выціскала праз шчыліны пахучы хруст і дружны хроп коняй, жавала мурожную цішыню.

Паветра трымцела ад лопату трактара і дзвынку цыркуляркі... Гарэлі агні... То быў начны спакой.

***

Крыху прыкархнуўшы Андрэй гадзіны за чатыры да сьвітаньня прадраў вочы. Шаргануў запалку, абдаў бляскам цыфэрблят гадзіньніка. Маятнік мерна гайдаў па сабе першых вясеньніх мух, гадзінная стрэлка—кавалерыйская піка—паказвала на чатыры.

„Тады пара“, падумаў Андрэй і ўзяўся за вопратку.

Халоднаю вадою асьвяжыў твар.

Цемра холадам вачэй сваіх глядзела ў доўгія шыбы кватэры, маўчала, ураніўшы чорныя косы долу.

Паведамленьне Андрэіхі аб плётках, якія хадзілі з часу першай няўдачы, хвалявала, валтузіла. У думках жыло і варушылася адно „набыць падшыпнікаў“.

Тады ўсе гамонкі разаб'юцца бы тонкая шклянка аб гойстры камень, тады трактары жалезным строем выпаўзуць на поле, тады камуна з посьпехам правядзе сяўбу... —Дурні! Балбочаце? Ну і няхай—балбачэцеі—думаў ён падыходзячы да майстэрні...

А калі рука адчула халодную завалу і майстэрня напоўнілася малаком сьвятла, па жылах ураз загатавалася кроў, тысячамі ключоў забіла энэргія, заклякатала. Захадзілі Андрэявы рукі, плечы, дробныя складкі на ілбу зьбегліся ў круглы гармонік. Па рухах і бадзёрасьці сваёй Андрэй падобен быў да магутнай складанай машыны. Ї каб хто накінуў на яго некалькі пасаў, дык ён нястомна круціў-бы доўгія валы і трансмісіі, шпарка, як рухавік.

Праца гатавалася. Зробленыя формы былі ўмацаваны па-над горнам для нагрэву. Выліўка падшыпніка і роліка сягоньня ўдалася, словы рабочага Фёдарава спраўдзіліся.

Калі пазванілі на працу і ў майстэрню ўбег, падобны да злоснага шпака, Юзік, Андрэй моўчкі стаяў ля варштату, вытачваў ролік з сярэдзіны.

— Здароў, Юзік!—прарвалася раптам у Андрэя:—ну, што чутно? Як з трактарамі?

Той нізка схіліў галаву.

— Нічога. Падшыпнікаў нам ня прышлюць. Старшыня ў Менск езьдзіў і прыехаў з голымі рукамі, злосны.

— Ха-ха—ірзаў, высунуўшы белыя, моцныя зубы, Андрэй,—ня нудзіся, дружа. Во!—лапаў ён па кішэні.

— Юзік глядзеў.

— Ды ты ня разьзяўляйся дужа. Паказаць?

Юзік міргаў вачыма і нічога не разумеў.

Тады Андрэй выняў з кішэні і разгарнуў паперу.

Юзік убачыў прыгожы падшыпнік, нават з бабітам унутры: прыгожы бліскучы падшыпнік.

Праз вакно Андрэй угледзеў камунараў. У майстэрню, на чале са старшынёй, сунуліся яны. Старшыня хацеў паведаміць Андрэя, каб не займаўся глупствам (Андрэй вынаходзіцтва трымаў у сакрэце), каб не калечыў людзей і што ён старшыня едзе сёньня ў Маскву за падшыпнікамі. Па выразу старшынёвага твару Андрэй прадчуваў: „будзе гром, але паколькі з вялікай хмары, дык не вялікі", прыпомнілася народная прымоўка. Старшыня халодна прывітаўшыся, сапраўды сказаў тое, што хацеў (хтось за плячыма яго едка хіхікнуў). Андрэй не зьвярнуў увагі. Ён шпарка выхваціў з кішэні падшыпнік, паднёс да носу старшыні:

— А такое, кум, сонца бачыў?

Старшыня падаўся назад.

— Што-о?

— Ды во-ж, падшыпнік.

— Аа-а. А я думаў ты ўдарыць хочаш. Х-ха—са зьдзіўленьнем і дзіцячай радасьцю, зразумеўшы Андрэя гікнуў нарэшце старшыня.

— Ну? Ня можа быць?—пытаў ён.

— І во,—паказваў Андрэй на неабточаны ролік.

— Ды маніш.

— Далібог. Во труба, унь форма. Ня верыш?

— Ага.

— То дай медзі зараз зраблю.

— Здабудзем, дружа.—Я хочу паглядзець—брэшаш ты.

І старшыня забегаў, як малы, загадаў каб камунары несьлі медзь у каго ёсьць.

Праз некалькі хвілін значная мітусьня ўтварылася. Бабы, мужчыны, дзеці, дзеўкі несьлі медзь. Хто ключык непатрэбны, хто зламаную ручку ад дзьвярэй, шасьцёрку ад гадзіньніка, сабачку ад сядзёлкі, спронжку старую з двухглавым арлом. І зноў кіпела праца ў майстэрні. Андрэй, выбраўшы сапраўды медныя рэчы з прынесеных, нарэшце ўсім давёў, што падшыпнік зрабіў ён сам—Андрэй Мікіціч Каралькоў і езьдзіў у горад з-за яго і рукі Алесю крыху спаліла праз падшыпнік. Але цяпер—нічога: можна будзе нарабіць іх шмат.

Урэшце Андрэй падышоў да гаражу, прышрубаваў падшыпнікі да каленчатага валу разабранага „Інтэра“ і калі трактарысты скончылі зборку, сам паехаў на трактары, зрабіў пракатку на сваіх падшыпніках. Спачатку ён агледзіў трактар, праверыў краны масла і вады, потым сеў з гонарам чырвонаармейца, якога ўзнагароджвалі ордэнам баявога чырвонага сьцягу, на сядзеньне, паставіў рычаг калектара на позьнюю іскру, зачыніў паветраную заслонку, а адчыніўшы дросельную—загадаў Юзіку:

— Круці.

Мотор затрашчаў роўна і мілагучна, зрэдку даючы праз дымаход аглушальныя стрэлы. Неўзабаве стрэлы замоўклі і па лёгкаму стогну трактара відаць было, што мотор працуе нармальна.

Тады Андрэй націснуў правай нагой пэдаль, паставіў рычаг на другую хуткасьць, рукамі ўліп у старно.

Трактар ішоў. Андрэй і раней ня раз езьдзіў на ім, добра ведаў машыну, але цяпер трактар здаўся нейкім, па новаму гнуткім, рухавым; пад нагамі адчувалася штосьці жывое, гарачае і тонкае, далікатнае. Мотор звонка рухкаў, бражджаў, у грудзёх яго біліся новыя падшыпнікі, думкі і радасьць, імкненьне і палкасьць—сэрца Андрэява білася ў ім.

---

Перад выхадным днём праца ў камуне спыняецца раней. Андрэй, авіўшы і сябе і ўсіх камунараў, асабліва трактарыстых вялікай радасьцю першага падшыпніка, пакалдыбаў да хаты падрыхтавацца да вечару, каб сьвежым і чыстым пайсьці ў кіно.

Пасьля лазьні і галеньня жонка дала Андрэю белую вышываную кашулю, а шапку ён апрануў зялёную чырвонаармейскую, якую хаваў, як багаты ўспамін, у жончыным куфры. Скураная куртка, белая вышываная кашуля і зялёная шапка з выразным пяціраговым мейсцам, што засталося ад зоркі—усё надта дапасоўвалася да Андрэявага твару і харашыла яго. Сам ён быў чорны, крыху худы, з глыбокімі ямкамі вачэй і вечнай выхадкай вясёлага матроса.

Якое-б адзеньне ён не апрануў дык лёгкая хада, гнуткасьць і вабны стан сьціралі ўсё. Здавалася, што з любога аколышка яго шапкі вечна льлюцца хвалі матроскіх істужак, палошчацца ў паветры белая, з сінімі дарожкамі па краёх чатырохкантовая палярына.

А калі ён стаяў на працы ля горну то чамусьці ўяўлялася, што ён стаіць на носе вялізарнага крэйсэра і прыжмурыўшы левае вока, глядзіць у далячынь, ганяючы перад сабою то ў адзін, то ў другі бок кола-старно.

— Хоць у сваты цябе... Ач, жаніх які,—натхнялася жонка і гарачая любоў сьвяцілася ў яе блакітных па жаночаму ласкавых і вострых вачох.

— Сям'я,—зьвярнуўся Андрэй да дачкі і жонкі,—вячэраць пара. Хадзем!

І яны трое разам вышлі з хаты, але пачынаючы ад парога амаль разышліся хто куды: дачка да таварышак, жонка да кабет, Андрэй падымаючы павольна ногі пацёгся па вуліцы.

Любіць Андрэй плыць у жыцьцёвай лодцы прыблізна так: каб лодка неслася спачатку роўна, лёгка (для разгону), тады ўразалася ў які-небудзь камень і пачыналіся парогі. Каб лодка потым круцілася але імчала і імчала скрозь пену—бавоўну бурлячай вады, а Андрэй трымаў яе за бераг, як ня цяжка-б было, а трымаў да зьнямогі, да стомы, аж да блізкага ці дальняга люстра глядзі, дзе лодка зноў-бы пашла вольна, але шпарка... потым ізноў парогі і... гэтак усё жыцьцё

А тут маленькая плынь была ды толькі ціхая, ня шпаркая.

„Што далей?"—гаварыў сам з сабой Андрэй. Нядаўніх клапот з падшыпнікамі было мала, бо ў камуне 12 трактароў, і пяць з гэтых без падшыпнікаў.

І думае Андрэй ізноў аб вясьне, а яна цёплым подыхам вятроў ідзе, грыміць раўчукамі.

Хутка раўчукі адзвоняць, а ці ўсе трактары грануць вясёлую ім на зьмену?

— Наўрад... Хоць нашы камунары такія дбайныя... Ээ-х! Ну і братва... Сёньня кіно, скокі... Прыўдарым..: Ха-ха! На старасьці год я маладым зрабіўся...

— Б о м м!—бяссэнсова бразнуў у паветры звон пакуль Андрэй быў з думамі.

То поп у Кузьмічах яшчэ дражніцца з людзьмі, бразгае па веча рох перад сьвятам.

* * *

І раптам падумалася Андрэю: „А што, каб гэты званок... у сьлясарню?—Аднак хварэць бяз медзі... А ну-ж! Эх і думка",—і Андрэй завярнуў управа да сакратара камсамольскай ячэйкі.

Сакратар пісаў:

— Слухай, Ахрэм, справа ёсьць,—сказаў Андрэй.

— Ну, ну.

— Камсамол ваш хачу ў работу ўзяць,—у сакратара прыкметна пашырыліся зрэнкі:—„Во нарабілі работы—ізноў канфлікт", падумаў.

— Як?—са зьдзіўленьнем у вачох запытаў пасьля доўгай паўзы.

— А ведаеш—у мяне думка... наконт трактароў... Трэцяя бальшавіцкая вось тут,—паказаў ён на яго нос,—а мы без падшыпнікаў... Звон гэты, чуеш, бомкае, пераліць трэба.

Сакратар не разумеў.

— Ну, вашы хлопцы, хай дапамогуць. Нам патрэбна медзь, а ў цэркаў ніхто ня ходзіць...—разумееш?

— Аа-а—вывеў той,—барджэй, брат, так ты іх адтуль і зсадзіш... А левы загіб? Рымскі папа, чытаў, які паклёп узводзіў...

— Да чортавай мацеры... Я табе кажу, што ніхто ня ходзіць.

— Ну, глядзі... Я магу пагаварыць з хлопцамі... з партыйцамі.

— Пагавары... Каб праз тыдзень зьняць!..

І Андрэй вышаў на вуліцу.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У клюбе пад гармонік грымела вечарынка.

* * *

Справа—адняць царкву, пайшла на інстанцыю.

Спачатку сход, потым падпіска няверуючых, пасьля сельсавет, РВК... і нарэшце—дазвол.

У нядзелю ля царквы, што стаяла палупленая ля Кузьмічоў, адбывалася ўрачыстасьць.

Сьлёсар Андрэй дык яшчэ да чыйго прыходу з сяла ўжо даўно ляскаў малаткамі ды ключамі на званіцы—законна рабіў сваё. Рукі яго хадзілі лёгка, плаўна, на кончыках пальцаў адчувалася казытлівая прыемнасьць.

А калі цэркаў абступілі, Андрэй высунуўся в вежы:

— Штурмую неба, мужчыны! Ну як? Скідаць?

Старшыня калгасу сказаў, каб ня скідаў яшчэ, бо мала сабралася, і наогул дзеля большага эфэкту каб пачакаў.

У моры-прыліве людзей што хвалямі падыйшлі да сьцен царквы, хадзілі гутаркі. Адны меркавалі як будуць скідаць званы, і ці паб'юцца яны калі зьляцяць з такое вышыні; другіх цікавіла, што на іх напісана і з чаго яны зроблены такія гулкія; трэція проста жадалі, каб стварыліся якія цуды, каб рукі пагнула каму за такія рэчы, або мову адняло. Каб потым ніхто не чапаў званоў, царквы, каб гэты цуд разышоўся па ўсёй зямлі, каб нават вучоныя загаварылі аб ім, тоўстыя кніжкі напісалі і выразна на век зацьвердзілі, што бог ёсьць... і яму трэба маліцца.

Бабы разносілі чуткі:

— Ей-жа, ей, любая! Ого! Сьвятога нікому чапаць не дазволена. Вунь, сваяк мой казаў, у Мікулічах адзін крыж спаліў, дык рукі і ногі прыгнула. На карачках поўзае цяпер. Бога ўгнявіць цяжка, а гнеў божы—вялікі. Ой-ей, любая мая.

— То-ж праз калгасы, людцы,—басіла другая.—На бога пайшлі. Вы думаеце, чаму такое бедзьсьцьвія на народ пайшло? Ні тавараў у крамах, ні хлеба. Ох, родненькія мае...

Неўзабаве са сьцягам і песьнямі да царквы падыходзілі камунары.

Калі доўгі хвост калёны загубіўся ў гушчы калгасьнікаў і аднаасобнікаў—кузьмічоўцаў, агульная гурма загаманіла, заклякатала. Пачуліся дружныя прывітаньні, узаемныя жарты.

Старшыня, падняты клякатаньнем грамады на апошнюю ступеньку свае радасьці, прабіваўся да ганку царквы. Тады яго постаць выпрасталася, зрабіла рывок угару, замахала рукамі ў паветры, нібы зьбіралася паплыць па хвалях натоўпу.

— Таварышы! — вырвалася палкае і шчырае.

Калёны ля царквы прыкметна ўздрыгнулі, рэха воклічу адбілася ад сьцен, пакацілася далёка.

— Вось гэтыя халодныя муры,—працягваў ён,—вякамі гнялі наш розум, палохалі ўмоўнай таемнасьцю, цішынёй..

Збоку пачуўся шорах і шум пратэсту. Натоўп захваляваўся, затупаў, нібы яму хто пад ногі восграга шкла сыпануў.

— Ня хочам зьдзекаў! Цэркаў наша!—з сьлязамі на вачох дрыгала, падобная на начную саву, баба, і жоўтая бародаўка на яе твары захадзіла часьцей і часьцей, губы затрымцелі ад злосьці.

Сотні галоў пакасіліся на старую. Воддаль яе, прыгожа апранутая, сярэдніх гадоў жанчына ня сьціхала:

— Дык, цётачкі... Во каб не хадзіць далёка, у Дубовым... адзін такі-ж як і вунь той масыяш,—паказала яна на старшыню,— як пачаў хадзіць па сяле, ды на бога, любая, як пачаў розную гразь ляпіць, дык, што ты думаеш, дарагая, не табе кажучы... язык яго воўнай аброс... Шаўкае цяпер, а слова ня вымавіць.

— А ня о?—махала галавой пакорная паслушніца, і яе палец, што ляжаў уздоўж носа, зьехаў на ніжнюю губу.

— ...Тут будзе выдатны клюб, тут замест цемры, будзе гарэць сэрца новых Кузьмічоў,—зьвінела прамова старшыні калгасу.

— А званы на падшыпнікі пойдуць,—ізноў высунуўся з вежы Андрэй, які даўно ужо адшрубаваў званы і чакаў, калі скажуць шыбнуць іх долу.

На яго ўстаўку ніхто не зьвярнуў увагі.

За старшынёй слова ўзяў дзядзька Касьян—стары калгасьнік у авечай шапцы, але з джэмпэрам пад шэрай сьвіткай.

Джэмпэр ляжаў на ім, нясткладна вісеў як на шчыкеціне—. Касьяну-ж уяўлялася зусім адваротнае, і ён нават падробліваўся пад джэльтмэна, жвавеў, калі зьвярталі ўвагу на яго адзеньне.

— Ік я, мае таварышы, і многі люд, хачу вам сказаць, як кажуць... еты мур, начыць, сяляне... Ня мала, як той казаў збожжа мы на яго высыпалі, а я начыць жыў век у голадзе і бог, многі люд, ня бачыў таго... Хіба вось цяпер, калі калгасы етыя... я-ж кажу. А мала іх на зямлі вежаў такіх... і збожжа папом ссыпаецца, начыць, многі люд... Каб іх, па мойму, усе дай бог пазачынялі, дык нам і галава-б не балела.

— Брава-а Касьня.—выбух супольнага гулу раскалоў прастор.

— Бра-а-ва!

Адасоблены край нездаволеных стаяў, як укопаны. Толькі адна па старому раняла на стапнелы сьнег кроплі сьлёз.

— Слухай, старая! Табе на могілкі пара, а ты гвалтуеш. Знаю за каго гаворыш!—сыкнуў на бабу аднаасобнік—Давыд.

Старшыня валтузіўся з натоўпам, які нібы паводка затопльваў тое месца, куды павінны былі пасьці званы.

— Таварышы, крыху далей!—нэрваваўся ён.—А то можа каму галаву размажджэрыць,—і натоўп пасоўваўся назад.

Тады заднія ізноў напіралі і прыходзілася паўтараць тое-ж самае.

Нарэшце хістаньне натоўпу ўраўнаважылася, рознакаляровасьць воч яго палыхнула ўгару, на вежу, дзе сядзелі Андрэй, Юзік і Алесь.

Андрэй у апошні раз перазапытаўшы старшыню, ці не расхвошча каго, паматаў крыху рукой праз доўгае акно (рука здалася смуглым голубам, маленькая, маленькая), а потым дружна скамандаваў хлопцам:

— Раз, два, тры-ы!—і два калы неяк лёгка бы два гнуткіх языкі выхаркнулі з вежы звон.

— Апошні раз здаўленым голасам аказаўся звон і чокнуўся з разгону аб камень.

Напружаная чаканьнем гурма сьцягнулася вузкім пярсьцёнкам, абступіла разьбітыя абломкі. Але збоку зарохкаў грузавы аўтамабіль (падарунак камуне ад амэрыканскіх рабочых) і пярсьцёнак гурмы лопнуў у адным месцы, утварыўшы людзкую прасеку-дарожку для аўтамабіля.

Праз паўгадзіны званы, бы вінаватыя злачынцы паехалі ў сіні прастор пад канвоем калгасьнікаў.

* * *

— Ну, хлопцы, цяпер мы—нязломныя. Вясеньняму сонцу нас не растапіць... Дождалі сяўбы, акрапілі зямлю прагкую,—рос ад радасьці Андрэй на заўтра ў сьлясарні, арганізаваўшы брыгаду з трактарыстых па вырабу падшыпнікаў.

— Зацьвіце пралеска, загрукочуць трактары... Вясьне нас не перагнаць...—бубнеў ён, капаючыся ля формаў, умазаны да вачэй у гліну.

— Г-эх!—пляскалі з-за вуха Юзік і яшчэ два трактарыстых, загінаючы новую трубу.

— А файна выйдзе... Наша камуна славай прагрыміць,—пявучым голасам прымаў узел у агульнай рабоце і размове гарманіст Амелька:

— Не пераскочыў—не кажы гоп,—буркнуў хтосьці з кутка.

І стукалі малаткі, цьвігікалі рашпілі... Татахкаў як шалёны рухавік, аб цьвёрды зернавы камень, абточваліся секачы, разьбіваліся кавалкі медзі звановай...

Імпэтная рытміка глуха і звонка біла знутры майстэрні, бы ў ёй разьвінулася страшэнная бойка паміж людзьмі і рэчамі, людзьмі і машынамі, жалезам. вуглём, агнём.

Падрыхтавалі горан, формы, пачалі плавіць жорсткую сінюю звановую медзь...

І колькі ня глядзелі прагкія вочы ў трубу, колькі ня падсыпалася вугалю ў горан, кавалкі зачарсьцьвелай медзі спакойна ляжалі ў трубе, нейкім марозам і холадам павявала ад іх нясуразных.

Ударная брыгада сьлёсароў і трактарыстых закамянела. А горан сіпеў, рассыпаў чырвонае золата іскраваў, сінімі агнямі лізаў і глытаў паветра, удаўлены тоўстай жалезнай трубой.

Брыгада стаяла бы зачараваная... а горан сіпеў...

— Шу-у-у!—цягнуў ён жаласьліва нудна, і шалёныя іскры бы срабрыстыя мошкі ўлетку роямі падымаліся ўгару, зьнікалі, ізноў падымаліся і гэтак без канца, бяз краю да нуднасьці, да п'янаты... А плаўкі ня было...

Вясёлая пэрспэктыва скрывіла сваю грымасу на ўсхліп.

Цярпеньве назіраўшых дало глыбокія шчыліны, трывога—злоўленым вераб'ём у сіло—забілася у грудзёх брыгады.

— Э-эх! маць іх! Ну!?—дрызнуў нарэшце жалезнай палкай па горну Андрэй і выляцеў з майстэрні.

* * *

Старшыня з Андрэем самі паехалі ў раён са званамі.

— Здамо ў лом,—гаварыў Андрэй,—а нам чыстай няхай даюць. Дзе хочуць, няхай бяруць і баста. А то... швах!

Загрукацела параконка. Коні—выгуляліся за зіму, не стаяць.

Ад аднэй зыбкай ляйчыны яны паімчаліся, як шалёныя і патанулі ў халодным разводзьдзі. Пад калёсамі ўвесь час шумела вада, і ляскала мёрзлая глеба сенажаці.

... Толькі праз тры дні, калі вясна зусім паразрывала дарогі і пагражала нябывалай паводкай, Андрэй і старшыня, мокрыя па пахі, зьвярнуліся з гораду.

Цаною вялікіх намаганьняў і клапот ім урэшце давялося пранюхаць, дзе была захавана іх радасьць, удалося вымарачыць ад упартага райкаапсаюзу, які тысячы раз адмаўляў, праз цэлы гвалт гэтай шурпатай, старой як сьвет і праклятай ліставой медзі. І то, каб ня было ў Андрэя зробленага ім падшыпніка, якім ён і размахваў перад рознымі бюракратамі, дык ня далі-б. Званы здалі ў лом...

* * *

Паводка пачалася на другі дзень. На вытворчай нарадзе сьлёсараў і трактарыстых было пастаноўлена перавезьці некаторыя прылады з майстэрні на лодках у другі будынак і рабіць падрыхтоўку да вялікай работы. Андрэй сабраў брыгаду.

Заплёскала вада, занырцавалі лодкі па хвалях. З рэчкі на бераг перавозілася майстэрня.

У другім будынку за дні стаянкі вады рабіліся формы для падшыпнікаў.

А калі вада адыйшла, хлопцы штурмам узялі майстэрню.

Лісты добраякаснай медзі пайшлі ў ход. Ізноў татахкаў рухавік, сіпеў горан, і радаваўся Андрэй доўгаю ўсьмешкаю.

Рукі яго хадзілі лёгка, спрытна і не балелі, ня нылі...

І камуна, зямля, лес навокал і нядаўна ўвайшоўшая ў берагі рака—усё здалося новым, нябывалым, радасным да ап'яненьня, да сьлёз.

Глядзеў на сябе, думаў ці Андрэй ён ці можа не Андрэй...

І праходзілі ў вачох цягнікі, горы і гарады, вёскі ды туманы вазёрныя. Шлях круты і жарсьцьвяны, але цьвёрды, грунтовы, паўстаў угару, аж глянуць любата Андрэю, што столькі пройдзена.

Груз дзён прыкметна палягчэў, нібы Андрэй узьнёс яго на роўнік зямлі, але ісьці хацелася далей, хацелася бегчы ўперад, . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

* * *

Кураць палі...

Шуміць аднатонна, вагаецца, лес...

Грыміць камуна.

Трактарная калёна роўна выстраілася ў шэраг, чакае прыказа свайго камандарма—старшыні...

Зараз ён прыдзе, знаёмым голасам падасьць каманду: „шагам арш!“ і тады загрукочуць маторы, сталёвымі грудзямі прарэжуць прастор.

І паўстане крыгамі гарбатае бязьмежжа, чорнымі крыгамі зямлі...

Андрэй з трактарыстымі быў ля калёны.

Самы складаны і капрызны—„Лінке-Гофман“.

— От кацалапы,—азваўся Андрэй лежачы дагары пад яго карцэрам.

Да майстэрні сьцякаліся камунары.

— А ну, паспрабуем,—закруціўшы апошнюю шрубку зьвярнуўся Андрэй да трактарыстых.

Пасьля доўгіх капрызаў „Лінке-Гофман“ скрануўся.

Тады старшыня ўскочыў на стойку тачыла:

— Таварышы! Адзін бар'ер узялі... Усе трактары адрамантавалі.

— Ура, ура! Ужо на руках камунараў падлётваў Андрэй угору.

Адзін за адным, 13 трактараў плылі ў далеч...

Андрэй абапершыся на ручку молата доўга глядзеў ўсьлед. Раптам радасьць парвалася тонкай напятай струной.

— І ых, праклятыя,—прашыпеў ён,—ізноў гэты, Лінке-Гофман,

Ганей за 10 пасярод калёны заклубіўся белы, густы дым, і, нібы адарваныя ногі аднаго моцнага, жывога арганізму, спыніліся чатыры трактары—задняя частка калёны.

То капрызны „Лінке-Гофман" паўстаў на дыбы, загарадзіў дарогу іншым. Ён тузаўся са сваімі гусяніцамі, нібы конь, якому ў хамут іголак набілі,—даваў назад і, нібы вяровачкай шмаравалі карнявішча хваста—уперад.

І закружылася зямля ў вачох Андрэя, пучына неба папягнула на нейкае глыбокае дно.

Пракляты „Лінке-Гофман"!

Бы каршуны кружыліся ў Андрэя думы...

Прыцісну ўшы скрынку з інструмантамі да фартуха, ён пабег да калёны, да трактароў...

А „Лінке-Гофман" стаяў як на зло горды і неразгадны.

Тады Андрэй матнуўся да „Камунара", пярэднія колы яго павёў за сваёю скрынкаю.

„Камунар" уплёўся жалезнай пяцярнёй за трос, і „Лінке-Гофман", упінаючыся, ак благі бугай, ішоў на прывязі назад у майстэрню.

— Ён зараз прыдзе,—сказаў нарэшце ад'яжджаючаму на поле, трактарысту Андрэй. І гусеніцы „Камунара" адпіхнулі ўзгорак двара, патанулі ў бязьмежнай сіняве, парэзанай шырокімі магістралямі.

Менск, 1932 г.

Рыгор Хацкевіч

## Сказ сьвінаркі

Гаварылі бабы:
— Сорам
Свой згубіла дзеўка.
На сяле сьпявалі хорам
Пра мяне прыпеўкі:

„За гарою мілы паша,
Потам abліваецца...
Цэлы дзень сьвінарка наша
За сьвіньмі ганяецца..."

Гаварылі бабы:
— Замуж
Век ня выйсьці дзеўцы...
На сяле хлапцы часалі
Языкі ў прыпеўцы:

„Ой, па горцы, па гарэ
Коціцца жняярка...
Ніхто замуж не бярэ
Нашую сьвінарку..."

Не спалохалася я,
Не такая дзеўка.
Песьня ё ў мяне свая
На ўсе іх прыпеўкі:

Хіба-ж сорам, зубаскалы,
Зараз у колгасе
здабываць краіне сала,
Вырошчваць мяса?!

Знаю гэтую дурную
Вашу паваядзёнку.
Толькі-ж я ані ня злую,
А сьмяюся звонка.

Не сярдую,
А працую
І сьмяюся звонка,
Бо ўсё, ад вас што чую,
Толькі паваядзёнка.

Бо-ж і вы, як я, ўсе дружна
На рабоце ўпартыя.
...Ну, а вось наконт замужжа
І казаць няварта:

Гэта-ж той, што ўсіх званчэй
Пяе пра жняярку
Днямі цэлымі вачэй
Ня зводзіць з сьвінарніку...

А як толькі нас адпусьціць
Сіні вечар з працы,
Ён сьпяшыцца ка мне насустрач
Найхутчэй спаткацца.

Чэрвень, 1932 г.

# ХРОНІКА

## Усесаюзны аргкамітэт пісьменьнікаў

Усесаюзны аргкамітэт пісьменьнікаў быў абраны ў колькасьці 50 чал. Па узгадненьні паміж аргкамітэтамі саюзных рэспублік у яго ўвайшлі:

З пісьменьнікаў РСФСР: Н. Асееў, А. Афінагенаў, Бахменьцеў, Ф. Беразоўскі, А. Бязыменскі. Біль-Белацэркоўскі, М. Горкі, Гронскі, Жыга, Замойскі, Іваноў, В Кірпоцін, В Кіршон. Л. Леонаў, А. Малышкін, П. Паўленка, Ф, Панфёраў, Л. Сейфуліна, М. Слонімскі, Серафімовіч, В. Стаўскі. Н. Ціханаў, А. Фадзееў, К. Федзін, М. Чумадрын.

З пісьменьнікаў УССР: Вішня, Кузьміч, Кулік, Мікітэнка, Панч, Тэрэшчанка, Фефер, Хвілёвы.

З пісьменьнікаў БССР: А. Александровіч, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.

З пісьменьнікаў ЗСФСР: Чубар, Сулейман, Эўлі Шырван-Задэ, Ахвэрдаў, Міцышвілі.

З пісьменьнікаў Сярэдняй Азіі: Лахуці, Ташнезараў, Байзау, Аляксееў, Маджыдзі, Ісмайлаў, Айні.

Ганаровы старшыня усесаюзнага аргкамітэту Саюзу Савецкіх пісьменьнікаў — т. М. Горкі.

Старшыня—т. Гронскі.

Сэкратар—т. Кірпоцін.

## 40-годзьдзе літаратурнай дзейнасьці М. Горкага.

У верасьні месяцы спаўняецца сорак год літаратурнай дзейнасьці Максіма Горкага.

Калегія НКА РСФСР праводзіць рад мерапрыемстваў у зьвязку з юбілеем пісьменьніка. На прадпрыемствах, у клюбах, у навучальных установах, у калгасах і саўгасах будуць арганізаваны вечары, прысьвечаныя юбілею М. Горкага. У школах, бібліятэках, клюбах, і дзеючых установах, адчыняюцца выстаўкі і куткі літаратурнай і грамадзкай дзейнасьці Максіма Горкага. Яго імем будуць названы лепшыя школы, бібліятэкі, клюбы.

Да юбілею ў таннай бібліятэцы выдаюцца два зборнікі твораў Горкага для школ I і II ступені. Такія-ж зборнікі выходзяць на нацыянальных мовах.

Тэатр імя Вахтангава ў азнаку 40-годзьдзя літаратурнай дзейнасьці А. М. Горкага пакажа 25-га верасьня прэм'еру — п'есу М. Горкага „Егор Булычёв".

## НОВЫЯ РЭДКАЛЕГІІ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІХ ЧАСОПІСЯЙ

Зацьверджаны склад рэдкалегій мастацкіх часопісяй у наступным складзе:

Часопіс „Полымя Рэвалюцыі" (дванаццаць друкаваных аркушаў). Рэдактар—Платон Галавач. Рэдкалегія. Бапюшкоў, Браніштэйн, Галавач, Гальпэрына, Жылуновіч, Залатухін, Клімковіч, Крапіва, Колас, Лынькоў, Платун, Чорны.

Часопіс „Заклік" (шэсьць друкаваных аркушаў). Рэдактар—А. Александровіч, Рэдкалегія: Александровіч, Бэндэ, Глебка, Ляхаў (сэкратар ЦК ЛКСМБ), Дзяхцяр-Кобец.

Часопіс „Беларусь калгасная". Рэдактар—Р. Мурашка. Рэдкалегія: Баранавых, Барашка, Даўгапольскі, Ліхадзіеўскі, Купала, Мурашка.

Часопіс „Штэрн". Рэдактар—І. Харык. Рэдкалегія: Ашаровіч, Швэйдаль, Харык, Аксэльрод.

## Тэатр і кіно

● З 1-га верасьня ў Менску ў памяшканьні Дзяржаўнага польскага тэатру распачынае работу Бел. дзярж. ГРАМ. Сэзон распачнецца новай п'есай І. Гурскага „Новы горад."

У рэпэртуары тэатру п'есы „Трывога" і „Ротфронт"—Барыса Мікуліча.

● Новая п'еса В. Сташэўскага „Дзяржынцы" прынята да пастаноўкі БДТ—2.

● БДТ—1 да Кастрычніцкай рэвалюцыі будзе ставіць п'есу К. Чорнага „Бацькаўшчына".

● Камэдыю А. Вольнага і Р. Кобеца „Ратуй божа" прыняў да пастаноўкі БДТ—3. Ставіць п'есу мастацкі кіраўнік К. Саньнікаў.

● Закончаны і здадзены гукавы фільм для дзяцей „Адбітак часу". Фільм зды-

маўся ў двух варыянтах: беларускім і расійскім. Сцэнары Іцінай і Кроль.

● Канчаецца здымкам на фабрыцы Белдзяржкіно фільм „Слава сьвету". У фільме паказваецца падрыхтоўка капіталістычнага сьвету да інтэрвэнцыі супроць СССР і супроцьдзеяньне гэтаму міжнароднага пролетарыяту.

● Гукавы фільм на беларускай мове „Пераможцы" — скончан здымкамі і хутка зьявіцца на экранах. Сцэнарый напісан Губарэвічам, Гезіным і Мініцам.

● НКА БССР вядзецца падрыхтоўчая работа да адчыненьня ў Менску музычнай кансэрваторыі.

## 5-ая УСЕБЕЛАРУСКАЯ МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

Галоўмастацтва НКАсьветы БССР арганізуе да 15-ай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі 5 ю ўсебеларускую мастацкую выстаўку. Заключаны ўмовы на напісаньне мастацкіх карцін, прысьвечаных 15-годзьдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі з наступнымі мастакамі: Ахрэмчыкам, Заборавым, Гаўрыленка, Грубе, Кастэлянскім, Бразэрам, Пашкевічам і інш.

## НОВЫЯ ЧАСОПІСІ.

● Вышаў з друку першы нумар часопісі „Мастацтва і рэвалюцыя".

● З верасьня гэтага году пачынае выходзіць новая штомесячная ваенна-абаронная, літаратурна-мастацкая часопісь „На пагатове"—орган Аргкамітэту саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР. Часопісь выходзіць пад рэдакцыяй Л. Арэнштама (адказны рэдактар), А. Александровіча, Л. Бэндэ, К. Крапівы і Шапавалава.

Часопісь будзе друкаваць матар'ялы на беларускай, украінскай і расійскай мовах.

## Конкурс-спаборніцтва на лепшы твор для дзяцей.

У зьвязку з 10-годзьдзем дзіцячай камуністычнай арганізацыі юных піянэраў імя Леніна, Наркамасьветы БССР, ЦСПСБ, ЦБ ДкА ЛКСМБ, ДВБ, ЦК ДД пры ЦВК БССР, аб'яднаньне савецкіх пісьменьнікаў Беларусі абвяшчаюць з 1-га верасьня г.г. шырокі конкурс-спаборніцтва на лепшы літаратурна-мастацкі і навукова-папулярны твор для дзяцей.

### ЗАДАЧЫ КОНКУРСУ

Конкурс-спаборніцтва на лепшы твор для дзяцей ставіць задачай прыцягнуць увагу усіх пісьменьнікаў, мастакоў, рабочых-ударнікаў, заклiканых у літаратуру, настаўнікаў, літаратурную моладзь нашых тэхнікумаў, ВНУ да справы стварэньня новых ідэалёгічна-вытрыманых, высока-мастацкіх твораў для дзяцей, твораў, якія-б „ўяркай і вобразнай форме паказвалі соцыялістычную пераробку краіны і людзей і выхоўвалі дзяцей у духу пралетарскага інтэрнацыяналізму".

Конкурс не абмяжоўвае аўтараў у выбары тэм і матар'ялаў для твораў. Але разам з гэтым камісія раіць удзельнікам конкурсу асаблівую ўвагу зьвярнуць на распрацоўку наступных галоўных тэм:

1. Сацыялістычнае будаўніцтва ў БССР і СССР (у горадзе і вёсцы): класавая барацьба, гэроіка нашых дзён і наша будучыня, перароока людзей у працэсе сацыялістычнага будаўніцтва ў сьвядомых членаў камуністычнай грамады, культурная рэвалюцыя, нацпалітыка партыі, роля партыі і камсамолу ў будаўніцтве сацыялізму.

2. Жыцьцё, быт і работа піянэрарганізацыі, як арганізатара мільённай дзетвары на пасільны ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве.

3. Новая палітэхнічная школа Маркса-Леніна.

4. Змаганьне за сусьветны Кастрычнік (жыцьцё і рэвалюцыйная барацьба працоўных усяго сьвету і іх дзяцей, інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне, роля і значэньне МОПР'у, жыцьцё і змаганьне працоўных Зах. Беларусі, СССР, як бацькаўшчына сусьветнага пралетарыяту).

5. Наша мінулае (дарэвалюцыйны час, Кастрычніцкая рэвалюцыя, грамадзянская вайна).

6. Будзем гатовы да абароны (Чырвоная армія, як пільны вартаўнік Савецкага саюзу і ўдзельнік сацыялістычнага будаўніцтва, удзел працоўных і іх дзяцей у падрыхтоўцы да абароны краіны).

7. За авуладаньне тэхнікай.

8. Юныя бязбожнікі.

## УМОВЫ КОНКУРСУ.

1. Кожны твор для дзяцей павінен быць высока ідэйным, мастацкім творам, поўнасьцю адпавядаючым запатрабаваньням сучаснай савецкай пэдагогікі. Ён павінен абуджаць і выклікаць у дзяцей эмоцыі бадзёрасьці, радаснага ўспрыманьня сацыя істычных працэсаў працы і самой працы, як справы гонару, мужнасьці і гэройства; павінен выклікаць у дзяцей адчуваньне жывой непарыўнай сувязі з вялікім калектывам, што будуе новае жыцьцё. Дзіцячая кніжка павінна мабілізоўваць чытача на пасьпяховую барацьбу за другую пяцігодку, за пабудову бясклясавай грамады, за новую палітэхнічную школу і ўдарную вучобу, за ленінскую нацыянальную палітыку, супроць шавінізму усіх колераў, як праяў клясава-варожых пралетарыяту. Кожны твор для дзяцей павінен быць дзейнай вострай зброяй у справе камуністычнага выхаваньня дзетвары.

2. Мова дзіцячай кніжкі павінна быць багатай, вобразнай, яркай і адначасова зразумелай шырокім дзіцячым масам. Асабліва значэньне набывае і ўзбагачэньне дзіцячай літаратуры новымі цікавымі формамі і жанрамі, бяз шырокага разьвіцьця якіх нельга стварыць бадзёрую, жывую і яркую, захапляючую юнага чытача бальшавіцкую кніжку.

3. Творы могуць быць напісаны любой літаратурнай формай (проза, паэзія, драматургія, на аднэй з моў усіх нацыянальнасьцяй БССР і разьлічаны на дзяцей пэўнага узросту: дашкольнага або школьнага (малодшага, сярэдняга, старэйшага). Творы для дзяцей дашкольнага ўзросту можна прысылаць у форме малюнкаў з невялічкім тэкстам.

4. Конкурс будзе праводзіцца закрытым. Гэта значыць, рукапісы трэба прысылаць толькі пад дэвізамі (умоўнымі абазначэньнямі—словамі ці сказамі) з дадаткамі запячатаных канвэртаў пад тымі-ж самымі дэвізамі; у канвэртах павінна быць паведамленьне аб адрасе і прозьвішчы альбо псэўдоніме аўтара

Дэвізныя канвэрты ўскрываюцца пасьля канчатковай пастановы камісіі-журы аб выніках конкурсу. Дэвізы тых твораў, якія прэмій не атрымаюць, але якія будуць прызнаны годнымі да друку, ускрываюцца па згодзе на гэта аўтара. Прычым, камісія па кіраўніцтву конкурсам захоўвае за сабою права пусьціць некаторыя, па выбару камісіі, творы на папярэдняе абмеркаваньне юных чытачоў і грамадзкасьці як шляхам публічнай чыткі іх, так і друкаваньня ў пэрыядычнай прэсе, асабліва піанэрскай.

5. Рукапісы трэба прысылаць на адрас: Менск, Савецкая, 59. ДВБ, юндзетсэктар. З паметкай „на конкурс".

Апошні тэрмін прысылкі рукапісаў—1-га красавіка 1933 г.

6. За лепшыя творы вызначаны наступныя прэміі:

1-я прэмія—5.000 руб.
2-я— 2 прэміі па 3.000 руб.
3-я— 3 прэміі па 1.000 руб.
4-я— 6 прэмій па 500 руб.
5-я—10 прэмій па 300 руб.

За прэміяваныя творы аўтары атрымліваюць павышаны ганарар.

Для ацэнкі матар'ялаў і кіраўніцтва конкурсам-спаборніцтвам арганізуецца камісія-журы ў складзе: нам. наркомаасьветы БССР т. С. Я. Вольфсон (старшыня камісіі—журы), заг. ДВБ т. А. Некрашэвіч (нам. старшыні) і членаў т.т. Майніт, Гародкіна, Лынькоў, Гарбуз, Якімовіч, Шышкоў, Лібэрман, Сьвярдлоў, Бэйрах, Гараўскі і Каблукоў.

## У Акадэміі навук

● Інстытут мовы Беларускай акадэміі навук падрыхтаваў да друку першы том руска-беларускага слоўніка для практычнага ўжытку. У першым томе—35.000 слоў. Выдаецца слоўнік у двух томах і паводле пляну скончыцца друкаваньнем у канцы гэтага году.

У складаньні і праглядзе слоўніка прымаюць удзел беларускія пісьменьнікі.

● Інстытутам геалёгіі БАН пасланы на Гомельшчыну тры гэалёгічныя партыі, якія праводзяць дасьледваньне глебы для будаўніцтва другой ДрЭС. Неўзабаве выяжджаюць на Гомельшчыну яшчэ дзьве партыі для гідрагэалёгічных дасьледваньняў у сувязі са складаньнем даведачніка па грунтавых і падземных водах і зборы матар'ялаў для воднага кадастру БССР.

● Зараз Інстытутам літаратуры і мастацтва БАН вядзецца шырокая работа па напісаньню гісторыі беларускай літаратуры. У работу ўцягнуты як навуковыя работнікі інстытуту, так і літаратурныя работнікі па-за межамі інстытуту

Рад дакладаў пра творчасьць Я. Купалы, Ц. Гартнага, Я. Коласа, П. Броўкі заслуханы і абмеркаваны ўжо. У скарочаным выглядзе даклады будуць надрукаваны ў чытанцы па гісторыі беларускай літаратуры.

● Зладзены ў друк Інстытутам літаратуры і мастацтва зборнік „Ленінскі этап у літаратуразнаўстве", а такс ма зборнік мэтадычных артыкулаў па мове і літаратуры.

● Друкуецца поўны збор твораў беларускага пісьменьніка П. Труса ў выданьні Інстытуту літаратуры і мастацтва БАН.

● Інстытутам літаратуры і мастацтва падрыхтован да друку зборнік дакумантаў літаратурнага руху н Беларусі. Зараз рыхтуецца біяграфічна-бібліяграфічны слоўнік беларускіх пісьменьнікаў.

## Гісторыя Ленінградзкага тэатру.

Дзяржаўная акадэмія мастацтвазнаўства падрыхтоўвае (па заяўцы тэатральнага сэктару ЛенГИХЛ) вялікую працу аб ленінградзкіх тэатрах эпохі пралетарскае дыктатуры. Работа гэтая, пабудаваная пераважна на канкрэтным матар'яле ленінградзкіх тэатраў, у цэлым радзе частак ахоплівае матар'ялы агульна-прын ыповага значэньня і, такім чынам, становіцца першай спробай гісторыі савецкага тэатру.

Да Кастрычнікавае рэвалюцыі будзе выпушчан першы том, які ахоплівае гісторыю петраградзкіх тэатраў у часе імпэрыялістычнай вайны, у пэрыод Лютаўскае і Кастрычнікавае рэвалюцыі і ў эпоху ваеннага камунізму.

Выданьне багата ілюструецца. У прыватнасьці будуць зьмешчаны неапублікаваныя малюнкі Уладзімера Маякоўскага да „Містэрыі—буф" (першая пастаноўка п'есы ў Ленінградзе ў 1918 г.) і шмат другіх неапублікаваных матар'ялаў.

## Зборнік п'ес да XV гадавіны Кастрычніка.

Да XV гадавіны Кастрычніка ЛенГИХЛ разам з культсэктарам Ленінградзкага абласнога прафсаюзу выпускае рэпэртуарны зборнік для самадзейнага тэатру (з разьдзеламі для агітпропбрыгад індустрыяльных цэнтраў і самадзейных гурткоў вёскі). У зборніку будуць зьмешчаны новыя п'есы Б. Лаўрэнева, Б. Шчаглова, А. Зіноўева, Е. Паўлава, Е. Рысса, П. Ваяводзіна.

*Рэдкалегія*: С. Баранавых, Ул. Барашка, Даўгапольскі, Я. Купала, С. Ліхадзіеўскі, Р. Мурашка

*Адказны рэдактар* Р. Мурашка